і пад рукой вільготнаю—пясок.
Акрэсляцца спакоем паплавы
і свежасцю паветранай—дарогі.
Заслухаецца шумам вербавым,
заблытае ў тумане месяц рогі...
Праз сіні змрок прарвуцца стаі мар,
душа праймецца глыбінёй яскравай—
жыць будуць ў словах постаці ахвяр,
і словы загаворацъ нашай явай.
Тут кожны рух авеяны навек
іх слаўным днём і слаўнай барацьбою,
іх маладосць хадзіла па траве...
І, можа быць, пад гэтаю вярбою
не раз тузіў юнак лятунак свой,
каб потым быць павешаным на ёй.
Боль ліхалецця... Плынь крывавых рэк...
Шумлівага лісця суровыя напевы!..
Стаіць на беразе старое дрэва,
як дум ўладар—упарты чалавек.
Як барацьбіт сівы над плёнам былі,
яно ўзнялося горда над усім,
што ўпершыню навек мы палюбілі...
І хочацца загаварыць мне з ім
пра бурны час без хлеба і без сну,
і пра яго і пра маю вясну.

II

Нямала дрэў зваліла ў бураломе,
каб тлом гібець пад срэбны смех завей...
Так рэзала крутая смерць людзей
на першай і апошняй іхнай строме.
Прымеў спакой, хто слёзы знаў адны—
дзе выбраў міг: без родных, без труны.
Так брала смерць. Аддаць жыццё за веру,
цара і бацькаўшчыну добры знак—
каб неслі ў рай анёлы, як сабак,
праз чорны ход, стварэнняў подлых дзверы.
Каб крыж усклаў на ваяўнічы лоб
плюгавы генерал з душою на аркане,
калі за ўсіх, хто паў на полі брані—
маўклівасць слоў пачне выводзіць поп.
Гады прайшлі, згубіў звярыны след
лад, богам дадзены, што даўся ў знакі...
Ўтаптаны ў гразь бліскучы эпалет
адважнага кароннага ваякі.
Ўжо не стаіць на горле царскі трон
і вывадкі прыдворныя варон
не выдзяўбуць ужо драпежнай дзюбай—
ні сэрца братняе, ні вочы любай,
не вып'юць слёз ні матак, ні сясцёр.
Назаўсяды чужых далёкіх зор
патушаны старыя дыядэмы
і зрынуты ў прадонне...

## III

Пі, радок,
пі прагна радасць выбранай паэмы,
і дбайна рэй вядзі за крокам крок.
Я атуліў цябе сваёй турботай,
аддаў давеку цела і душу.
Хай дзівіцца яшчэ якая цнота,
што аб табе не першы раз пішу.
Хай булькае даўгіх прамоў вада—
нам у жыцці ўсё гэта не наўда.
Не за сябе і не за свой куплет,—
трывожыць нас і дзень і ноч другое:
знайсці такое слова залатое,
каб пець народжаны ў змаганні свет;
каб з новай эраю вітаць зямлю,
якую сэрцам слаўлю і люблю;
жыць новым днём святлей і дынамічней,
умець ўва ўсім струну жыцця крануць,
і чэмер дум змятаць, як змёў Кастрычнік
ўсю дрэнь вякоў, усю лютаўскую муць.

## IV

Цень перабег на поплаў праз дарогу
і, сцішаны, ў зялёных хвалях знік.
Старэчы сымбаль з торбаю былога
маліцца прыцемкам даўно адвык.
Ў бярэма згробшы дзедаўскія спадкі,
ён збег з вачэй, зласлівы небарак,—
багну дзярэ яго сухі кулак,
склінаюць свет апошнія нашчадкі,
стагоддзяў чорных плачуць груганы
і ў слёзах слоў палошчаць рызманы.
Так судзіць час. Адлюдкам чыстай расы
нясе ён даўнія свае правы...
Каб, сцёршы след бяспраўнай галавы,
сусвет прайшлі заводы і калгасы—
жыццём ўладарыць новай грамадзе!
... На росны поплаў мяккі след кладзе
празрысты вечар. Вецер-гарманіст
абходзіць круг залатакосых хмарак.
Так круг дзяўчат, калгасніцкіх даярак—
абходзіць часам ўдалы трактарыст.
Распаліць ён вачэй гуллівы жар—
і ў спрыце ног праходзіць адпачынак,
як, за гектарам бяручы гектар,
пад ім хадзіла спраўная машына,
ўцеха гордасці і цёплых мар.

## V

Мы гадаванцы ўсе аднэй краіны,
вартуем часу плынь адных суток.
Крок рэволюцыі—наш крок няспынны
праз даль суровую, наперад крок.

За славу працы вольнай і за песні
мы з кожным днём ўпарцей і балесней
трымаем фронт—і трактарыст і бард...
І ў коле дзей, за строем дат і рубрык—
ўстае любіць працоўны авангард
абшар зямлі, Саюз сваіх рэспублік,
найлепшую айчыну ўсіх айчын,—
пад еднасці штандар і гімн адзін.
Наш рэйд і шлях праз шторм варожых шквалаў...
І—ў ладзе хат і гарадскіх кварталаў,
перад агнём наступных барыкад,
ашчадным быць на кожны цвік і камень—
шаную, край, твой баявы загад,
напісаны руплівымі рукамі.
Ў тваіх штыкоў гартованым асці
мы мусім дбаць аб грозная абароне,
аб карных днях, калі ў паход ісці...
Таму, як кроў гарыць і б'е у скроні—
каб наша рань спявала і цвіла,
цвіла па ўсёй зямлі, давеку братняй,—
я слаўлю ўзлёт чырвонага крыла
праўдзівае вайны, вайны астатняй.

VI

Мой дбайны век шляхам вядзе дазор,
ўсё зверана да дробязей, да рыскі.
Пішу вясну ў святле наступных зор
і свет увесь так родны мне, так блізкі.
Агонь жыцця душа вясной заве,
каторая людской крывёй апета...
А ў плынях рэк, па залатой траве—
крамянае такое ходзіць лета.
Ў аздобе сонечных жывых акрас
яно звініць вясёлаю вадою.
Такое толькі можа быць у нас—
здаровае, тугое, маладое.
Мяняюць твар палі і гарады
кагортамі людзей, што робяць дзівы,
вядуць капальні песеннай руды—
яны у нас і толькі нам ўласцівы.
І хай пра іх не поўны спеў прапет,
і дням яшчэ нязграбны дадзен профіль,—
каравыя жыць будуць нашы строфы
ў крышталях дум, што новы дасць паэт.

VII

Так час ідзе... Імклівa і глыбока
кладзецца цвёрдая яго ступа.
Не сходзіць вечна з вартавога вока
прыдбаны скарб—ад думак да снапа...
Пад хмарны сквіл сусветнай непагоды
расце і буйна каласуе рунь.

Да справы кроўнай волаты-заводы
па ўзрушанай зямлі ўстаюць угрунь.
У пачуццях бура радаснай трывогі—
так кожны міг вітае з новым нас...
Так кожны крок бліжэй да перамогі—
за следам след—прыводзіць творчы клас.
Так шчасцем мар мы першы раз кіпелі,
цвіў бляск вачэй, каб сталым быць цяпер,
каб кідаў з хмар на кожны наш прапелер
апошні змрок смяротны свой ашчэр.
У блакіт зямлі прастор навек адчынен,—
туды наш лёт, ў праменныя вякі.
Аб іх мы снім, як снілі аб дзяўчыне
ў сваю пару, былыя юнакі.
Пра іх пяем, як пелі бур усплёскі
краі, і панская трашчэла косць...
Як золак летні сонца і бярозкі—
ўстае мая другая маладосць.
Ёсць толькі ёй уласцівыя настроі,
з пражытым часам горды пераклік:
грыміць мой край—рэволюцыйны воін,
расце мой край—сусветнай будаўнік!
І хай было, што сэрцу не далося,
што згінула ў гадах, як гук пусты.
Я не засмучаны, што прыдзе восень
і ацярэбіць дрэвы і кусты.
Душа такой штогодняй змене рада—
(хай ў ёй свой лёс варожы зброд кляне!)—
і пад суровы вецер лістапада
мне добра жыць у роднай старане.
Мне добра пець акрэсленей і зычней,
і з новым крокам, новым днём турбот—
Семнаццаты успомніць добра год,
адсвяткаваць семнаццаты Кастрычнік.

1934 г.

**Васіль Каваль**

# НЯНАВІСЦЬ

Пажарам гарэў усход. Жнівеньскія раніцы былі роснымі і светлымі. Палі і пушчы напаўняліся радасным птушыным шчэбетам. Непажатае стаптанае збожжа паціху шумела і чакала маладой жняі са звонкім сярпом.

Як гром, здалёк чуліся гарматныя стрэлы і, як маланкі, узрываліся ў цёмным небе ракеты. Смерць касіла людзей у каласістым збожжы, у густых пахучых травах. Пад гарачым жнівеньскім сонцам да жудасці проста паміралі людзі. Паміралі з пакутамі, з праклящцем, з нянавісцю, і ў апошні міг, калі пераставала біцца сэрца, прасілі сваіх таварышоў вырошчваць нянавісць да ворага і несці яе ў бai, як акрываўлены сцяг.

Полк чырвонаармейцаў у няроўнай барацьбе з белымі—адступаў. Кожная пядзя зямлі была дорага ім, і пасля кожнага бою усё менш заставалася ў палку чырвонаармейцаў. У перапынках, пасля бою, жывыя збіралі сваіх мёртвых таварышоў, хавалі іх у брацкіх магілах і адступалі далей, ніколі не пакідаючы надзеі вярнуцца назад.

— Мы яшчэ будзем! Мы яшчэ вернемся!—усякі раз грозна абяцалі яны ворагу...

Пятрусь Саўчык, едучы ўперадзе коннага ўзвода, думаў аб тым, што праз некалькі год, калі пераможа рэвалюцыя, гэтыя свежыя безыменныя курганы-магілы, дзе пахаваны яго таварышы,—галодныя і разутыя, у змочаных крывёю і едкім потам гімнасцёрках,—зарастуць кветкамі і густымі травамі. Пра гэтых людзей, напэўна, успомняць, як пра герояў. Добры чалавек пасадзіць на курганах бярозкі. Ласкавая рука маладой дзяўчыны будзе прыносіць вянкі ў памяць пра людзей, што загінулі за сваю радзіму...

Пятрусь Саўчык, гэты маленькі, белабрысы, шыракаплечы хлапчына з такім простым тварам, любіў марыць. Ён любіў спяваць журботныя, раздольныя песні. Яму было не больш дваццаці двух год...

Чым далей адступаў яго полк у глыб радзімы, тым больш забірала яго трывога. Тым больш загараўся ў ім нейкі дзікі агонь, які разліваўся па ўсім зморaным целе. Гэты агонь тры гады таму назад выгнаў яго з дому, калі ён пайшоў дабравольцам у Чырвоную армію. Ён скінуў з сябе пакорлівасць, пасварыўся з сваім суровым бацькам, ляснікам Сідарам Саўчыкам, вечным рабом зямлі,— вышаў на ўскраіну леса, дзе яго дагнала маці. Маці! Яна ўпотайкі ад бацькі, з горкім плачам, пры развітанні дала яму на дарогу торбу з хлебам і салам.

— На, вазьмі, сынок!—Ты-ж хаця не злуй на бацьку... Усё-ж такі ён твой бацька...—білася маці навокал сына падстрэленай птушкаю.—Ты-ж хаця вестачку напішы, галубок!

Сын моўчкі ўскінуў торбу на плечы і панура пашоў ускраінай асенняга залатога леса. Сэрца ў яго разрывалася ад жалю і тугі. Ён упарта ішоў і думаў аб тым, што ён будзе ваяваць за тое, каб быць вольным чалавекам, каб зямля, на якой ён будзе жыць з каханай дзяўчынай, была яго. Так ён думаў тады, калі пакінуў свае сяло і вылецеў з свайго гнязда, як малады голуб—з першым пушком. Цяпер гэты голуб быў арлянёнкам. Цяпер то ён ведаў, за што ваюе...

Па дарозе сустракаліся разбураныя вёскі, папялішчы, на якіх прарастала жыгучка-крапіва. Дзе-небудзь каля разбуранай хаты, моўчкі, у глыбокай задуме, шчыльна сцяўшы асмяглыя вусны, стаяла маці. А навокал яе, трымаючыся за падол, млелі босыя, з цыпкамі на нагах, яе дзеці. І убачыўшы жанчыну, Пятрусь Саўчык не мог спакойна глядзець ёй у твар, адварачваўся, і сэрца ў яго разрывалася ад тугі, мацней пачынала стукаць кроў.

Можа і яго маці вось так стаіць пад вечар каля сваёй раскіданай хаты, углядаючыся ў кожнага чырвонаармейца, і чакае маці свайго Пятруся, і слухае, як гудзіць увечары пушча.

Чым далей адступалі, тым больш агортвала Пятруся Саўчыка трывога. На спіне, паміж лапаткамі, гнаілася нядаўняя сабельная рана. Кроў часцей прылівала да гарачай галавы.

Скора! Скора яны будуць праязджаць яго сяло, яго радзіму! Вось ужо блізкія мясціны, знаёмыя назвы вёсак, нават пах дыму з хат здаўся знаёмым. Нібы тры гады таму назад, павеяў яму ў твар такі-ж знаёмы гарачы вецер.

На кароткіх прывалах Пятрусь Саўчык вымаў з палявой сумкі два лісты, пакамечаныя і потныя, з гаркавым пахам. Ражок першага з іх быў акрываўлены ў баю. Гэты ліст напісаў яму з дому бацька, нешта месяцы са тры таму назад. Быў ліст кароткі. Бацька скардзіўся на жыццё і чакаў перамен. «Хутчэй бы наводзіў парадак хто»,—пісаў суровы ляснік Сідар Саўчык. Сын перачытваў ліст і, пазіраючы ў сінія далі палёў, думаў: «Як слаўна будзе жыць!» і ўсякі раз ён дрыжэў і хваляваўся, калі перачытваў прыпіску: «Шле табе маці нізкі паклон і хоча ўбачыць цябе, як скарэй...»

Так і вазіў ён гэты ліст разам з сабою ў баях.

Другі ліст быў ад чорнакудрай, маленькай дзяўчыны Мар'янкі, дачкі пастуха Ўласа, якую ён таксама не бачыў тры гады. «Пятрусёк, даражэнькі мой, які ты цяпер стаў! А можа цябе жывым няма. Хоць бы адным вочкам зірнуць на цябе»,—пісала дзяўчына, і шчабятала ў лісце, і прасіла заехаць хоць на гадзінку, і гнеўна скардзілася, што бацьку яе, старога пастуха Ўласа, белыя збілі шампаламі, і невядома, ці выжыве ён. І зноў прасіла пабачыць яго хоць адным вочкам—гэтая слаўная дзяўчына Мар'янка.

Пятрусь Саўчык хаваў лісты і сэрца яго зноў напаўнялася і радасцю і невымоўнай тугою...

А полк усё адступаў і адступаў. Перад вачыма ў Пятруся Саўчыка ўжо мільгалі зусім знаёмыя да болю ў вачах малюнкі—абрысы Воўчай пушчы, дзе ён малым пасвіў коні, раскіданая грэбля, рэчка з навісшымі над ёю вербалозамі і яго сяло, яго радзіма, хата Сідара Саўчыка ў канцы сяла, каля самай пушчы.

Нейкая цёплая хваля нахлынула ў грудзі і сціснула іх у абыймы. І Пятрусь Саўчык гатоў быў забыцца на ўсё, і даравацць бацьку за старую крыўду, толькі каб хоць адну хвіліну пабыць у сваёй хаце.

Вечарэла, калі яны ўязджалі ў сяло. Ад бяроз на выгане клаліся доўгія цені. На старой бярозе, у сваім гняздзе, бусел мірна «кляпаў косы». Пятрусь Саўчык ужо марыў аб сустрэчы з тымі, каго так хацеў паба-

чыць. І раптам яго, Саўчыка, выклікаў да сябе камандзір палка і аддаў загад:

— Прыняць бой каля балота ў Воўчай пушчы. Не адступаць да апошняга. Чакаць падмацавання ад N-дывізіі. Узвод Саўчыка высылаецца ў разведку...

— Я добра ведаю гэту мясціну, таварыш камандзір палка,—сказаў Пятрусь Саўчык, і яму вельмі захацелася расказаць свайму кампалка, што гэта яго радзіма, што тут...

Але зараз нязручна было гаварыць, ды і не здолеў бы ён, напэўна, выказаць гэтага. Нахмурыўшыся, Пятрусь Саўчык скамандваў узводу і, падымаючы пыл, галопам паімчаў па вуліцы. І перад ім замільгалі скошаныя на бок хаты, твары аднасельчан, якіх ён не пазнаваў. І толькі застаўся ў памяці адзін малады чорнабровы твар, які быў вельмі падобны на тую, што звалі Мар'янкай. Твар дзяўчыны мільгануў і знік. Магчыма, што і сама дзяўчына у запыленым, загарэлым чырвонаармейцы спазнала Пятруся Саўчыка. Яна выраніла з рук вядро і доўга ўглядалася ўслед коннікам. А коннікі, не даязджаючы хаты Сідара Саўчыка, завярнулі на выган, ужо імчалі ў пушчу, і толькі цокат падкоў даносіўся здалёк...

Ужо другі дзень гула пушча. Адтуль чулася нерастрэлка, іржанне коняй і баявыя крыкі. Як на непрыступнай крэпасці, заселі чырвонаармейцы на паляне, абкружанай балотам. З гадзіны на гадзіну яны чакалі падмацавання, а яно ўсё не ішло. Адзіную дарогу-грэблю, па якой прабраліся чырвонаармейцы на паляну, ахоўвалі ад белых кулямёты. Тры разы хадзілі ў атаку белыя і былі зноў адкінуты назад кулямётным агнём. Белыя паспрабавалі зайсці ў тыл, але балота было непрыступным: жывых людзей глытала дрыгва і ўначы чутны былі іх перадсмяротныя крыкі.

Пятрусь Саўчык ляжаў у засадзе разам са сваім узводам. Крык птушак, пах сухога лісця, сонца ў галлі напаміналі яму аб тым, як ён малым пасвіў тут коні. І гэты тоўсты разложысты дуб знаёмы яму таксама; ён калісьці ўзлазіў на самую вяршыню яго. Адтуль відаць было ўсё сяло. Ён некалі ведаў дзве-тры звілістых сцежкі, якімі можна было прайсці праз балота на гэтую паляну. Яго бацька, ляснік Сідар Саўчык паказваў яму гэтыя сцежкі.

І ўсё, усё зноў напамінала яму маленства, яго хату, яго першыя радасці...

У поўдзень другога дня кампалка выклікаў усіх камандзіраў і вельмі коратка паведаміў, што белыя зноў спрабуюць перайсці ў тыл. Ён загадаў больш узмацніць ахову грэблі, супрацiўляцца да апошняга і чакаць падмацавання.

І тады Пятрусю Саўчыку ў трывозе прышла ў галаву думка: «А што, калі белыя знойдуць сцежкі, каб прабрацца ў тыл? Тады маленькую жменьку чырвонаармейцаў задушыць у тры разы большая сіла...»

Запыханы чырвонаармеец яго ўзвода прыбег і паведаміў Пятрусю Саўчыку:

— Таварыш камандзір, вас пытае адна дзяўчына. Відаць з суседняй вёскі... Маленькая, чорненькая такая... Я ўжо дапытваўся навошта, нічога не адказвае... Яна вунь ля таго дуба...

Пятрусь Саўчык, ломячы пад нагамі кусты воўчых ягад і вераса, з таемным хваляваннем пайшоў да дуба. Гэта была яна! Прыхіліўшыся да дрэва, стаяла дзяўчына, якую ён даўно хацеў бачыць—чорнакудрая, у белай хусцінцы, босая з паколатымі нагамі.

— Пятрусёк!—узрушана крыкнула яна, была кінулася да яго, потым чамусьці схамянулася і змоўкла...

— Як ты сюды прайшла?—строга запытаў Пятрусь Саўчык у дзяўчыны, пра якую ён ласкава марыў у паходах.

— Я тут ведаю сцежачку... Я даўно цябе шукаю тут...— скарагаворкаю пачала Мар'янка.—Бачыла я цябе, як ты праязджаў па сяле... Ты так зьмяніўся... Я думала, што ўжо і не пазнаю цябе... Я дужа спяшалася. Я хацела перадаць вам усім...

— Што? Хутчэй кажы!..

— Белыя пайшлі вам у абход.

— Адкуль яны ведаюць сцежкі?

— Ім паказаў... іх прывёў... — цяжка дыхаючы, спяшаючыся, гаварыла Мар'янка, і на яе доўгіх расніцах блішчэлі светлыя капелькі...

— Хто прывёў?—ужо са злосцю дапытваўся Пятрусь Саўчык.

— Я зараз скажу ўсё... Да твайго бацькі прышлі ў хату іхнія афіцэры... Ім сказалі, што бацька твой ведае гэтыя сцежкі на палянку. Я сёння часта хадзіла да тваёй маці: думала, што ты хоць на хвілінку завернеш дахаты...

— Кажы, кажы... Ну і што? Што далей? Яны білі яго? Можа расстралялі?—кроў хлынула ў твар Пятруся Саўчыка і сэрца сціснулася ў крыўдзе...

— Не, твой бацька згадзіўся іх павесці,—прашаптала Мар'янка.—Яны яму абяцалі...

— Мой бацька згадзіўся пайсці супроць нас?!

— Але, ён... Я сама ўсё чула і адразу-ж пабегла сюды, але мусіць спазнілася я...

— Не можа быць!—прахрыпеў у крыўдзе і злосці Пятрусь Саўчык.— Ён не давядзе, ён завядзе іх у дрыгву...

У гэты момант з тылу пачуліся стрэлы і яму стала ўсё ясна. І ён маўчаў у дзікай нянавісці.

— Калі не верыш, перахрышчуся... — шаптала Мар'янка.

— Не веру ў бога... эх, маць! Па конях!—закрычаў Пятрусь Саўчык свайму ўзводу і, ломячы кусты, пабег.

Мар'янка засталася адна. Пастаяла трошкі, уздыхнула і пайшла босымі нагамі па калючых купінах, паміж кустоў арэшніка і воўчых ягад. Да яе глуха даносіліся стрэлы. Усю дарогу на расніцах у яе блішчэлі светлыя капелькі.

«Пакінуў, пакінуў,—шаптала яна,—а так хацелася пабыць разам, паглядзець на яго...»

Рэшткі чырвонаармейскага палка, змучанага ў баях, пад вечар прабіліся праз грэблю і з боем адступалі ў сяло.

Пятрусь Саўчык гарачыўся ў баі, і, кінуўшыся на двух белых коннікаў, жорсткім ударам зваліў аднаго з іх, варожы канец клінка вострым болем рэзануў яго па галаве. На дапамогу яму падскочылі чырвонаармейцы. У Пятруся Саўчыка перад вачыма заскакалі рознакаляровыя іскры. Кроў капнула яму на рукі і горача апаліла...

Полк ужо без бою адступаў праз сяло. Сціхлі стрэлы і з боку белых. У апошні момант прышла вестка, што ўжо зусім блізка палку падмацаванне. І пасля бою стала такая цішыня! З перавязанай галавою дробнай рыссю ехаў уперадзе ўзвода Пятрусь Саўчык праз сваё сяло, па сваёй зямлі, за якую ён пайшоў ваяваць. Гарачая кроў бушавала ў ім. Яго вочы былі чырвонымі, з-пад павязкі капала кроў, а ён і гэтага не заўважаў і маўчаў, як акамянелы. Ён гатоў быў зусім упасці з каня, але нейкая дзікая сіла, як агонь, падтрымлівала яго. Праязджаючы па вуліцы, яго позірк шукаў некага сярод людзей.

Яго аднасельцы выйшлі з сваіх хат і сустракалі чырвонаармейцаў.

Нарэшце, сярод натоўпу, каля старой царквы, Пятрусь Саўчык знайшоў таго, каго шукаў. Ён адстаў ад узвода, спыніў каня, і, гледзячы з хвіліну на натоўп сялян, маўчаў, як акамянелы. Ён хацеў прынесці гэтым людзям радасць, ён ваяваў за іхняе шчасце, за іхнюю зямлю! Яго ніхто не пазнаваў, а сам ён бачыў перад сабою толькі чалавека—пажылога. моцнага, як камень, з сівымі насупленымі брывямі.

Ї чалавек спазнаў яго, вылучыўся з натоўпу, расштурхнуўшы ўсіх плячыма і, дрыжучы горкім асінавым лістам, не то ад радасці, не то ад страху, загаварыў:

— Сынок! Пятруська! Гэта-ж ты—і стараўся абняць яго.

З натоўпу пачуўся матчын голас:

— А саколік-жа ты мой ясны... Ты жывы, ты вярнуўся...

— Стой!—хрыпла крыкнуў Пятрусь, адвёў бацькавы рукі і саскочыў з каня.—Стой! Адыйдзі ў бок, стары сабака! Ты што-ж, паўзучая гадзіна, супроць нас, супроць рабоча-сялянскай пайшоў? У бога, д'ябла!...

— Сыночак! Не праўда... Ніхто не бачыў... каб я гэта ведаў... каб ведаў, што ты тут...

Грузны суровы стары пачуў у голасе сына рашучасць і дрыжачымі каленямі апусціўся на дарогу і стараўся абняць запылены, закапаны крывёю сынаў бот. Ён хрысціўся на царкву, з рабскай пакорлівасцю глядзеў у страшныя, налітыя крывёю сынавы вочы.

Натоўп стаяў нерухомы, анямелы.

— Кажаш, ніхто не бачыў? Колькі-ж табе паны заплацілі за нашу кроў, за здраду, стары сабака!?

Сідар Саўчык панура маўчаў. Ї раптам з натоўпу пачуўся тонкі дзявочы голас:

— Яму паны абяцалі многа зямлі даць!

— Дай веры! Баяўся іх!—чалавек, які поўзаў на каленях, стараўся ўстаць на ногі.—Што-ж, ты можа за гэта страляць бацьку будзеш, каб цябе громам прыбіла, мой сынок!—нечакана ў злосці закрычаў Сідар Саўчык.

— Ага! А ты што думаў? Стой! За гэта не даруюць.—Ї Пятрусь Саўчык расплікнуў кабуру нагана. У яго дрыжэлі рукі, ён скрыгаў зубамі, лаяўся, слёзы і кроў з-пад павязкі цяклі па яго бледных шчаках. Абедзвюма рукамі ён ўзвёў курок. Здавалася, што зараз ён сам ўпадзе на дарогу і па ім праедзе цэлае варожае войска. Раптам ён стрэліў, заплюшчыў вочы і пахіснуўся.

Сідар Саўчык з пракляццем сыну на ўспененых губах паваліўся, у сударгах заграбаючы вільготную, мяккую, пахучую зямлю.

Натоўп ахнуў і загудзеў.

— Сынок, што ты нарабіў!—пачуў Пятрусь Саўчык жаночы лямант і ў адзін міг падхапіў сваю старэнькую маці і з сыноўняй шчырай любоўю, гарачымі, як агонь, вуснамі пацалаваў яе. Потым вырваўся з яе абдымкаў, ускочыў на каня і што сілы паімчаў даганяць сваіх, нясучы ў маленькім целе вялікую нянавісць.

Потым ён не вытрымаў і азірнуўся назад: маці працягвала ўдагонку яму рукі, яе падтрымлівала чорнакудрая дзяўчынка.

Пятрусь Саўчык выцер потным рукавом згусткі крыві і прышпорыў каня. Павязка ў яго з'ехала з галавы. Усё кружылася. Зямля ўставала дыбам і ўся гарэла ў пажары. Здалёк, куды ён ехаў, яму чуліся глухія, але радасныя выгукі: палку ішло пад чырвонымі сцягамі падмацаванне. Вечаровую цішыню прарэзалі зазыўныя гукі трубы гарніста—сігнал на новы паход...

8/II 1935 г.

Пятро Глебка

## УРЫВАК З ПАЭМЫ „КАРМЭНСІТА“

Казалі мне калісьці ўсе,
(не верыў я,
на што хавацца):
ёсць сіла,
роўная красе,
багатшая за ўсе багацці.

Я толькі сёння распазнаў
глыбокі сэнс звычайных ісцін...
Прыйшла,
як позная вясна,
і зашумелі дрэвы лісцем.

Я недаверліва спаткаў
яе мужчынскі,
цвёрды поступ.
Але кранулася рука
маіх плячэй
ласкава й проста.

І дзеўчына сказала мне
(сястра вядомай сінявокай):
—Засумаваў хлапчук па мне,
а я хадзіла ў свет далёка.
Як шмат цікавых ёсць краін,
але шчаслівай я не стрэла.
Ты вопратку маю кранi—
яна ад пылу пасівела.
Як дым,
ён сцелецца густы
ад разбурэння
і ад смерці...
А чым-жа нездаволен ты,
канструктар чалавечых сэрцаў?
Калі рэспубліка твая
ідзе непераможным крокам,
калі высока,
як маяк,
становяцца над хатай кроквы?

Калі навокала цябе
гудзе няспынная работа,
калі і вецер наш цяпер
прапах наскрозь вясной і потам?
Калі і твой цвілы пакой
напоен пахам смольнай хвоі?..
Змяні свой вузенькі настрой
на шырыню людскіх настрояў.
Вазьмі, жывы,
сабе жывых,
адлушч нягодную палову,
і загудзе ў людской крыві
тваё абноўленае слова.
Ї водгуллем пальецца спеў
на шырачэзныя прасторы,
і будуць песні твае спець,
як маладыя нашы зоры.

— Чакай!—
Спыніў дзяўчыну я:
— Мяне-ж гісторыя патурыць,
калі паэзія мая
не здолее вякоў культуры.
А хто-ж мне выкрасіць красу
на крэмені чужых настрояў?
Самотную душу нясу
і ўсю на песні перакрою.

— Самота душ—
мана суздром:
ёсць пульс жыцця
і рытмы смерці.
Паводле іх пульсуе кроў
і лучацца людскія сэрцы.
Таму,
хто першы пульс нясе,
няма чаго жыцця хавацца:
ёсць сіла,
роўная красе,
багатшая за ўсе багацці.
Глядзі,
зняверлівы паэт,—
акно дзяўчына адчыняе,—
яны старыя руйнуюць свет
і новы свет красы ствараюць.

Над плошчай узнімаўся гмах,
упарта працавалі цеслі,
і кожны іхны крок і ўзмах
напоўнен быў маўклівай песняй.

Нарэшце,
нехта не сцярпеў,
адбіўшы такт двумя нагамі,
ён выбраў словы

і запеў
дзівацкую якуюсь гаму.
Яна расла,
і сотні рук
яе паднялі і панеслі,
пасля рассыпалі на брук
кавалкамі жывое песні.

І над галовамі людзей і стрэх
цягнуўся альт,
грымеў басіла,
каліўся дыскантовы смех,
і ў сценах ракатала сіла.

Я сілу гэную адчуў
як незнаёмую прыгожасць,
і я сказаў:
— Я сам хачу
сыйсці з крывога раздарожжа.
Я сам пазнаў,
Што не Кармэн
гарачым абсыпала прыскам
сухое дрэва панскіх сцен,
а гэта ты,
мая актрыса,
узяўшы песню дзўніх дзён,
сягоняшнім агнём гарэла.
І ты не ведаеш імён,
але з табой мільёны пелі,
і ты не знаеш іх вачэй,
але яны цябе віталі—
над светам голас твой гучэў
грамамі бур,
агню
і сталі.
Вядзі-ж у гэты свет цяпер
мяне ад вузкага пакою.
Няхай жыццё мой сціплы верш
густымі сокамі напоіць,
няхай у стройных тканях жыл
жывая кроў людзей заб‘ецца,
тады ён толькі будзе жыць
і хваляваць людскія сэрцы.

Я змоўк...
І на маім вяку
упершыню маўчала вусціш.
Дзяўчына сціснула руку,
пацалавала ціха вусны.

Такі шаблонны быў канец
гісторыі і Кармэнсіты—
жывая дзеўчына мяне
прывабіла вачэй блакітам.

Але ’шчэ ў песнях прапяюць,
яшчэ у музыцы услявяць,
якімі сродкамі
маю
нягодную ламалі славу.

Якімі горнамі цяпла
мой голас
і мае настроі
на мужны гартавалі лад
мае уласныя героі,

героі фабрык і садоў,
высозных гор,
марэй вялізных,
героі сёл і гарадоў—
будаўнікі соцыялізма.

Эдуард Самуйлёнак

# ПАГІБЕЛЬ ВОЎКА

Раман *)

Ля Груздовай сядзібы поўна было людзей. Вяскоўцы запоўнілі вуліцу цесным гуртом, стаялі шчыльна, бок у бок. На платах густа насела дзетвара. Натоўп гаманіў пацiху, стрымана. Людзі абгаварвалі падзеі сёнешняга дня, пазіраючы на тое, як завіхаецца Грузд з дачкой, абвязваючы вяроўкамі да верху напоўнены воз. Гэта ўжо быў трэці воз. Два стаялі напагатове, нарыхтаваныя ў дарогу. Каля іх курылі і нешта гаварылі паміж сабою два маладыя хлопцы, калгаснікі. Яны павінны былі везці Грузда на станцыю.

Мірон быў росту вышэйшага за іншых. Ён бачыў яшчэ і Груздзіху. Яна сядзела на бервяне пад тынам, побач з міліцыянерам і хісталася ў бакі падпёршы рукою шчаку. Галава яе была абкручана ручніком.

— Скрычалася, падла,—сказаў нізенькі дзядок.—На чужым багацці скрычалася. Уперла ў горле чужое багацце, накрадзенае... Бач ты, мокрым ручніком гэтую самую сваю морду абкруціўшы сядзіць! Тапіў бы гэткіх з камянем на шыі. Дасканальная рэч...

— А сястра Груздзішына з імі не едзе?—адвярнулася да яго жанчына.—Вунь, упаўнаважаны ходзіць. Ён прызнаў, што значыць, хаця і сястра яна Груздзісе, але была за наймічку, бо што калека яна і праз жыццё ў іх прасветласці не бачыла. Работай яе душылі...

— Смешна было-б, каб яшчэ і яе разам з Груздом адправілі...—сказаў нехта з мужчын.

— А скарбу, глядзі, тры вазы наперлі...

— То тры вазы... А засталося трыццаць тры!

— Самыя патрэбныя рэчы бяруць... Больш няможна...

— На тое і раскулачванне...

— Во-о-сь... браткі мае... быў Грузд. І згінуў Грузд... Параскашаваў! Нажорся!

— Праўда, бабачкі мае...

— Якія мы табе ў чорта, бабачкі? Ты да бабачак і ідзі. Круцёлка! Чаго ты тут каля мужчын аціраешся!?

Грымнуў смех.

Грузд з дачкой труслiва аглянуліся. Яны адчувалі сябе няёмка ў скрыжаванні шматлікіх поглядаў.

Смяяліся ўсе. Нават дзеці пішчалі, выскаляючы зубёнкі. І гэты, агульны дружны смех без асаблівай прычыны, зварухнуў хмару на Міронавым твары. Ён чакаў спачування Грузду. У гэтым ён убачыў-бы нешта агульнае паміж імі, уласнікамі, гаспадарамі, з якіх маглі вырасці гэткія-ж Грузды. І калі ў даным выпадку і смяяліся-б людзі, то гэта павінен быць

---

*) Працяг. Пачатак глядзі ў 1-м № „П. Р.“

смех пагардлівага задавальнення ад таго, што загінуў вялікі звер. І цяпер будзе магчымасць жыць меншым, без страха за тое, што калі-небудзь сустрэне аднаго з іх на глухой і страшнай сцяжыне. І з іх, мо' з дзесяці, адзін вырасце вялікі звер і заляжа на ловы.

Так меркаваў Мірон, ідучы сюды. Гэтага ён чакаў, стоячы тут. І нічога падобнага да гэтага ён не бачыў.

Груздова сядзіба наводшыбе ад вёскі ўзвышалася астраўком сытасці і нарабаванага багацця. І Мірон не ведаў таго, што новыя дарогі адкрыліся перад усімі гэтымі людзьмі, якія сабраліся тут, ля Груздовай сядзібы, і што непатрэбна ім будзе ісці глухімі сцежкамі, на якіх пільнуе вялікі звер.

Людзі смяяліся бяззлосным смехам. Прычына была нязначнай. Але смех сцэментаваў людзей у дружную, агульную сям'ю. Ён быў патрэбны, гэты смех, ён быў неабходны, бо патрэбна была дружба і яднанне, бо патрэбна было гэтым людзям, нядаўна яшчэ раз'яднаным і абасобленым, усім агулам здабываць хлеб. Не ведалі яшчэ, можа, людзі дасканала сваіх шляхоў. Толькі яшчэ намячаліся яны. І, можа, у кожнага з іх, у глыбі душы, недзе далёка, жыў неспакой, ушчэмленая ціхая боль за тое ўбогае «свае», што зараз улілося ў вялікую гаспадарку калгаса. Але кожны ведаў, што звароту назад не будзе, бо няма куды, бо канчаткова знішчаны старыя дарогі і рухнулі на іх палгнілыя масты.

І людзі засноўвалі моцную, новую дружбу. Яны смяяліся, хоць прычына была мізерная.

Плыло ў сінім небе сонца. Усюды лезлі першыя парасткі зеляніны. Вялікі, шчыльны натоўп людзей быў радасны і ажыўлены. Перад людзьмі ляжалі новыя шляхі. І на іх вачах, згубіўшы сілу, адыходзіў прэч той, хто пільнаваў чалавека на цяжкой сцяжыне жыцця.

Мірон усяго гэтага не мог зразумець. Але і яму стала весялей. Ціхі спакой прыйшоў да яго. Людзі былі дружнымі і шчырымі і ён быў як-бы сваім у іх коле. Нешта растала, нешта адрантвела і прыціхла балючае, што перашкаджала яму раней падыйсці да людзей. Усякі погляд, які сустракаў ён, быў простым і ясным дотыкам чалавечых воч. І не было там і цені насмешкі ці проста здзіўленай зацікаўленасці. І шэптаў не было, якія прывык здаўна чуць за сваімі плячыма Мірон. Ён быў такім, як усе. Ён сёння не быў ваўком.

— Дасканальная рэч...—сказаў дзядок побач з Міронам.

— Закурым?!—спытаў Мірон, паварачваючыся да яго.

— Гэта мы заўсёды можам. Ад гэтага не адмовімся. Дасканальная рэч.

Яны закурылі. Дзядок, нізенькі, скоса, знізу ўгару, паглядзеў на Мірона.

— Сам здаецца, Груздоў цясляр?

— Не Груздоў цясляр, а сам сабе цясляр.

— І гэта праўда,—згадзіўся дзядок.—Не абражайся, дружа, гэта ўжо так аддаўна павялося. У каго ты працуеш, таго ты і ёсць чалавек. Нібы купленых. Я сам некалі досыць надзёўбся гэтай сякерай і смачны такі хлеб ведаю. Дзятлаваў на сваім вяку досыць.

Дзядок зацягнуўся і зноў глянуў на Мірона.

— Цясляр я. Клімам завуць. Папрацаваў неяк гадоў з дваццаць, адбіў сабе лапы і грудзі адтрос. Слабы стаў на грудзі ды вось і сяджу у дзяцей як-бы на шыі. Дыхавіцу маю. Што магу, тое зраблю.

Дзядок памаўчаў.

— Рыбай яшчэ займаюся. А некалі сярэдняй рукі быў цясляр і самога з таварышам тваім добра памятаю. Сам яшчэ тады маладзейшы быў... Міронам, здаецца зваць?

— Міронам...

— Дык я памятаю... У Забор'і мы млын будавалі са стараверскай арцеллю. Ну, у слабы грунт палі паўбівалі,—сам памятаеш мусіць? І асеў млын у раку і сядзеў задам, як карова ў дрыгве.

Дзядок зноў пасмактаў люльку.

— Нашыя майстры набядаваліся і нам сораму было па вушы... Адно-ж, кажуць, прывязе гаспадар двух цесляроў адменных, з кожнай, кажуць, бяды гэтыя цесляры вывядуць...

Дзядок прыжмурыў вока.

— Пастарэў сам, пастарэў!!! Тагды, памятаю, як прыехаў з таварышам на млын, куды быў яшчэ маладзейшы! І паставілі мы тагды млын на месца пад самога камандай. А гаспадар нам два вядры паставіў. Хэ-хэ-хэ! За катаржную за работу, у вадзе па самую макаўку. Адных шапак знесла, колькі... Хэ-хэ-хэ!

Усміхнуўся скупа Мірон. Ад хітраватых і добрых зморшчак дзеда ішла сяброўская шчырасць, чалавечая лагоднасць.

— А як латышская арцель царкву будавала...—працягваў Клім.—Ды, гэтае... кумпал коса неяк пасадзілі яны... З'ехаў на бок праз год ці праз два і вісеў, перакасіўшыся. Памятаю, як сам з таварышам без рыштавання на вышыні той працаваў? За дзесяць вёрст народ бег глядзець...

Клім вытрас люльку аб сіні пазногаць.

— Сла-аўныя майстры!.. Услаўёныя! Душа цешыцца—з гэткім чалавекам сустрэцца праз колькі гадоў ды пагаварыць. А самога таварыш цяпер у калгасе. І сам мусіць пойдзеш, калі не пайшоў?

І не дачакаўшыся адказу, Клім вёў далей:

— Шустры мужчына, самога таварыш. Ён тут сёння Грузда распярэзвае. Цеслярам яшчэ будзе работкі! Што ні калгас, дык будуецца ўсё. Адразу ці абору, ці стайню, ці свінарнік заводзяць. І якія будыначкі! На дзвесці і больш будзе гадоў! Каб мне скінуць з плеч дзесятак-другі гадкоў, можна было-б цяпер нашаму брату ў поўнай пашане жыць! Працаваў-бы не за чарку гарэлкі, як некалі было!

Клім уздыхнуў.

— Маё цяпер жыццё такое. Што дзеці кажуць, тое і раблю. Больш я па рыбе хаджу. Прывык. І нават цікава, калі гэта вялікую рыбіну цягнем. Аж у цябе лыткі закалоцяцца! А ў калгас я пайшоў з ахвотай. Я чалавек добрага характару, з кожным магу патрапіць і прытым, яшчэ карысць прынесці. Гэта-ж такая сіла калгас!

Клім памаўчаў і дакончыў:

— І калі так, то дасканальная рэч—будзе хлеб. Вось яно як Мірон... Андрэевіч, здаецца?

— Андрэевіч...

— Вось якая рэч, Мірон Андрэевіч. І пры ўсім гэтым кулакам—дасканальная смерць!

Клім пасунуўся бліжэй да Мірона.

— Ёсць такія, што шкадуюць Грузда,—зашаптаў ён Мірону.—Вунь далей з краю стаяць. Шкадуюць. Падпявалы гэта Груздовы... Аднаго поля ягадкі... Мусіць і яны думалі гэта... Груздавацъ! Хэ-хэ-хэ! Уперла ім таксама костка! Вунь там пад вішняй вусаты стаіць... З-за капейкі чалавека зарэзаў-бы!.. А цяпер за скуру сам сябе ўшчыпнуць баіцца... Ці жывы, ці нежывы...

Клім плюнуў і нечакана спахмурнеў. Мірон глянуў на яго і са спачуваннем падумаў:

— Крыўду ўспомніў чалавек.

У гэты момант раптоўна змоўк гоман. На першы воз узбіраўся Грузд. Побач з ім сеў міліцыянер. Нехта ўзяў за аброць каня. Воз рушыўся

з месца, за ім другі, на якім сядзела Груздзіха з дачкой. Людзі паціснулі ад варот. Але трэці воз не паспеў зрушыць з месца. Грузд заёрзаў на сваіх мяшках.

— Стой! Стойце, браткі! Стойце-ж, літасці прашу!

Воз затрымаўся ў самых варотах. Грузд саскочыў з яго.

Стала ціха.

Потым данеслася мармытанне, усхліпы. Зноў падступілі да варот шчыльнай сцяной людзі. Мірон прыўзняўся вышэй, каб было відаць, і ўбачыў Грузда. У гэты момант Клім, расштурхоўваючы людзей, пачаў прабірацца да варот.

Грузд стаяў на каленях, скроб пазногцямі зямлю і ссыпаў яе жменямі ў разасланую вялізную хустку.

— Зямліцы... Роднай зямліцы жменьку...—хліпаў Грузд,—на далёкую старану...

І тагды высокае тонкае выццё, як нажом, разрэзала ціш. Крычала Груздзіха, ухапіўшыся за галаву. І на яе дзікі крык адказалі ціхія ўсхліпванні некаторых жанчын з натоўпу. Нехта з мужчын кашлянуў, нехта сказаў:

— Та-ак... Браткі вы мае....

І тагды ад плоту прыйшоў густы голас. Ён пакрыў шэпты і ўсхліпванні.

— Глядзіце, суседзі... Завошта гіне чалавек...

І зноў стала ціха. Людзі ў трывожным маўчанні глядзелі на двор, дзе скроб зямлю Грузд. Міліцыянер пазіраў на ўпаўнаважанага. Ён чакаў распараджэння. Ён дзівіўся, чаму той марудзіць. А ўпаўнаважаны стаяў моўчкі, невядома чаго чакаючы.

— Зямелькі жменьку... Роднай зямелькі жменьку...—хліпаў Грузд.

— А-а-а-х! Бо-о-ж-жа мой!

І зноў разлегліся ўсхліпы.

І тагды варухнуўся натоўп. З яго выйшаў сярэдняга росту мужчына ў палапленай світцы. Ён размашыстым крокам падыйшоў да Грузда і спыніўся. Той кінуў капаць зямлю і выпрастаўся, але не ўстаў, стаяў на каленях.

— Капаеш?—ясным і дужым голасам сказаў чалавек.—Свой бруд, як той кот, у зямлю закапваеш?

У натоўпе ўсё сціхла.

— Камедыі строіш? Зямлі за пазногці напхаў? Ты ваяваў за гэтую зямлю, гад ты?! Рабаўнік ты, злодзей ты, Грузд!

Грузд разгублены недарэчна стаяў на каленях, не ведаючы што рабіць далей.

Чалавек адвярнуўся да вяскоўцаў:

— Плачце, чаго вы! Шкадуйце! Дурныя бабы, слязлівыя! Шкадуйце ворага свайго! Ён з вамі разам паплача.

Але там ужо не было ўсхліпаў. Там перахіляліся вагі пачуццяў у другі бок.

— Ты, вусаты, пад вішняй там! Што ты казаў?! Завошта Грузд гіне! Чаго вы стаіце, суседзі, калгаснікі! Садзіце яго на воз да Грузда!! Ну?!

Чалавек чакаў, што яму адкажуць.

Грузд устаў на ногі і шнырыў вачыма навокал. Перакрывіўшы свой шчупачы твар, маўчала Груздзіха, мяркуючы, ці выць ёй яшчэ ці не. І яна паспрабавала. Яшчэ больш тонка і жаласна. Але гэта дало адваротныя вынікі. Вагі канчаткова перахіліліся ў другі бок.

З натоўпу, як камень, ў твар Грузда, паляцелі жорсткія выкрыкі.

— Жабракамі нас рабілі!

— Усю вёску з торбай пушчалі!

— Дзятлаўку з-за іх елі, дзеці нашы з голаду мерлі!
— Хто шкадуе, таго на воз!
— Вусатага на воз сюды!.. З усім яго насеннем!
Вусаты твар мільгануў пад вішняй і знік.
У гэты момант каля Грузда з'явіўся Клім. Ён нахіліўся, узяў хустку за берагі істрос з яе зямлю. Гоман сціх зноў.
— Не дамо табе зямлі, Грузд!—нечакана моцна крыкнуў Клім.—Не маеш ты права! Толькі тое, што ў воку панясеш, возьмеш зямлі! Сухотную карову памятаеш?! Памятаеш, як унукі мае паміралі з голаду... а ты бацьку, сына майго, у салдаты аддаў! Што?! Кажы, Грузд!
Клім скамячыў хустку і кінуў яе Грузду пад ногі.
І ў гэты момант побач з Клімам з'явілася жанчына.
— У цябе ў нагах качалася ў галодны год...—задыхаючыся сказала яна.—За пуд хлеба цэлае лета працавала табе... гад! Вочы твае не чыстыя!..
— А як зямлю ад Сафронавых адсудзіў?!—крыкнуў нехта.—Людзей цэлую сям'ю з вёскі выгнаў!..
У варотах з'явіўся невысокі чалавек. У яго матляўся пусты рукаў.
— Такіх у семнаццатым годзе да сцяны!—крыкнуў ён.—Расстрэл! Смерць на месцы! Дайце мне вінтоўку! Партызанскай рукой.
І тагды шматлікімі пагрознымі галасамі ўзарваўся дагэтуль глухі гоман.
— Вон яго!
— Вязіце яго, досыць!
— Вусатага на воз!
— Пабег вунь вусаты гародамі!
— Выкарчаваць з насеннем!..
У гэты момант ўпаўнаважаны кіўнуў галавой.
Міліцыянер дакрануўся да пляча Грузда.
Грузд зразумеў, што жаласці выклікаць не ўдасца, і што нават можа выйсці з ім дрэнна. Ён вытрас зямлю з хусткі і ўпхнуў хустку ў кішэню. Труслівa азіраючыся, ён падбег да воза і спрытна ўскочыў на мяшкі.
І як толькі ён з'явіўся на возе, сціхлі выкрыкі. Грузд абвёў поглядам усіх і нідзе не ўбачыў цені спагады. У вачах людзей быў гнеў і пагроза. Тагды Грузд сеў проста на возе і глыбей націснуў шапку. Вазы са скрыпам выехалі з двара і пераплылі вялікую лужу на вуліцы, там, дзе дарога заварочвала з вёскі...
— Шпіктаклі ён нам тут паказвае!—сказаў Клім, і людзі зноў дружна засмяялся.
У гэты момант усхваляваны Мірон убачыў Антося. Ён стаяў на двары, трымаючы за завязкі вялікую скураную торбу. Гэта была іх скураная торба, купленая Міронам шмат гадоў таму назад. Яны па чарзе насілі яе і часта гэтая торба была супольнай падушкай для іх, калі яны адпачывалі пасля полудню. Цяпер Антось стаяў і трымаў торбу за завязкі. Як-бы чакаў Мірона...
І Мірон забыўся на ўсё, што адбылося паміж імі, што парушыла дружбу і развяло іх дарогі.
Мірон пайшоў на двор, да Антося.
Той убачыў яго, і здзіўленне адбілася на незамыславатым Антосевым твары.
— Ну! Здароў-жа, калгаснік!—сказаў Мірон з усмешкай.
Антось выпусціў з рук завязкі торбы і скура мякка асела на зямлю. На твары Мірона была незвычайная, крыху збянтэжаная, вінаватая ўсмешка.
— Здароў-жа, калгаснік!—паўтарыў Мірон і падаў руку.

Але Антось гэтага не зрабіў. Ён піхнуў торбу нагой.

— Насядзеўся ў кулака пад крылом,—сказаў ён, адводзячы вочы ў бок.—Ледзь торбу не апісалі! Усё-ж гаспадара да канца не пакінуў... Не прыехаў бы я вось, апісалі-б торбу... Чаго-ж ты з гаспадаром не паехаў?!

Мірон пацямнеў.

— Не піхай торбы!—сказаў Мірон пагрозна.—Не чапай торбы. Антон! Дух выб'ю, жаба лысая! Я да цябе не па ласкавы кавалак прыйшоў! Мне тваё ласкі не трэба!!!

Антось адступіў на крок. Бледнасць пакрыла яго твар.

— Ты з Груздом з калгаса смяяўся!—крыкнуў ён.—Ты ворагу, кулаку, брахаць дапамагаў! Які ты мне таварыш, ты нікому тут не таварыш! Падбрэхіч кулацкі ты!

Мірон нагнуўся і накруціў на руку завязкі торбы. У другую руку ўзяў сякеру. Яго твар пацямнеў яшчэ больш. Ён абвёў поглядам двор. Па сцежцы ад прыгумення ішоў упаўнаважаны. У варотах, гэтак-жа шчыльна, як і раней, стаялі людзі. Людзі глядзелі на Мірона ў панурым, насцярожаным маўчанні.

Мірон ускінуў торбу на плячо і пайшоў проста на Антося. Той адскочыў у бок. Мірон, не затрымліваючы кроку, ішоў цяпер проста на натоўп. Людзі расступіліся перад ім. Расступіліся маўкліва і хутка, бо нельга было не саступіць з дарогі велізарнаму чалавеку, нельга было стрымаць раз'яранага погляда яго лютых, крывёй залітых воч...

* * *

На раздарожжы старая груша, дзічка, прысадзістая і крывая распрасцерла нізка над зямлёй вузлаваты гушчар галля, прысела неяк бокам, пры дарозе, невядома кім і калі пасаджаная, і прасядзела так, нахіленая над старадаўным камянем шмат гадоў.

Адзін з сукоў грушы, дуплісты, увесь у наростах, чорнаю рукой над каменем прасцёрся. На гэты сук павесіў Мірон торбу, уважліва агледзеўшы адзінокае і сумнае старое дрэва. Здалося ў ёй нейкае падабенства, як бы нешта бачанае раней, знаёмае даўно... Прыглядзеўся і не ўспомніў... Стаіць дзікае, людзям непатрэбнае, дуплістае, вузлаватае, ад вятроў не абароненае, адзінокае польнае дрэва. А на камені—мох зялёны, пыл у шчылінках і кветка кволая ўлетку, мусіць, на гэтым пыле ўзрастае. Ніякага падабенства не знайшоў Мірон. Так, здалося толькі на першы погляд...

І ён прысеў на камень адпачыць перад дальняй дарогай.

Цямнела пад вечар. Гусцеў змрок наперадзе, пад лесам, што ішоў поўкругам, замыкаючы польнае ўзгор'е, куды ўспаўзала дарога. На польнай раўніне, далёка недзе, цмяна blішчэў невядомы агеньчык. Вечар надыходзіў цёплы, неба цямнела, праглядалі і гаслі зоры ў прарывах дымных воблакаў. Прыпараная цяплыня стаяла над палямі. Паўзлі з лагчыны малочна-белыя туманы.

Ціша была навокал...

Вусцішна было...

— Як ён мяне шугануў!—горка думаў Мірон.—Як ён гаўкнуў на мяне! Завошта? За тое, што я на крыўду забыўся, руку першы яму падаў? Першы раз чалавеку паверыў, на яго паспадзяваўся? Паверыў? Пайшоў... Першы раз паверыў... І, от табе! Маеш!

Мірон уздыхнуў.

—Удаў Антошка. Удаў, як тая... красуня. Звяры вы, звяры! Абодвы ўдалі мяне за выгаду сваю. Кожны як мог, так удаў.

Далёкае, як сон, паўстала перад вачыма Мірона. Прыгадалася тое,

старое, што падаравала за тысячы пакут сілу замкнёнасці, што раз на заўсёды паклала перад ім на дзесяткі гадоў і на многія сотні вёрст воўчыя дорогі валацужнага жыцця.

Малады жаночы твар у абрамленні русых валасоў прывідзіўся Мірону. Гэта быў малюнак цмянымі фарбамі яго старэчай памяці. З пранікліваи ласкай глянулі на яго з вячэрняга змроку ясныя вочы пад стромкімі крыллямі прыгожых брывей.

... Лагодныя і вясёлыя вочы, шоўк русых кос і смелыя бровы, і белы твар, і постаць стройная. Жаночая сіла. Першай красуняй была Наста ў ваколіцы.

І развясёлым гулякам, буйны, як вецер, быў смуглы, чорнавалосы магутны Мірон. Яго любілі дзяўчаты за ўдачу, за весялосць. І хоць быў Мірон удалым і ўсюды яму добра было, не мог ён здужаць тугу па Насце. Пры ўсіх яго якасцях не было нічога акрамя сякеры за поясам, ды хворай маці ў згрыбелай хаціне. Ці-ж пойдзе першая красуня за яго, за Мірона, за бабыля?

За Настай валачыўся ўраднік, паглядалі на яе багатыя фальваркоўцы, сох па ёй сам валасны пісар. Не даступіцца было Мірону да Насты, хоць бацька яе быў бедняком і хаціна іх касабокая пад вербамі ўзбоч ад вуліцы прытулілася.

Толькі зрэдку прыкмячаў на сабе Мірон погляд Насты, загадкавы і затоены погляд украдкай. І гэта паслужыла повадам для Мірона і зрабіў ён рашучы крок у самую апошнюю хвіліну.

Увечары аднойчы ішла Наста на раку па ваду. І як толькі дайшла да кладкі, разлегліся ззаду крокі. І перш, чым Наста зразумела, што тут здараецца, лёгка зняла нечая рука з яе пляча карамысла з вёдрамі, а другая лагодна і цвёрда абняла яе стан. Убачыла Наста, як пакаціліся да вады пустыя вёдры. І не крыкнула Наста і не вырывалася. Яна абвіла рукамі шыю невядомага чалавека, бо гэта мог быць толькі Мірон.

І шоўкавым шолахам акрыла іх пахучая зелень гонкай прыбярэжнай лазы...

Гэта і сапраўды быў Мірон. Прытуліўшыся да яго, слухала Наста гарачы шэпт таго самага Мірона, аб якім столькі ночак гарачых веснавых думала яна.

— Адрачыся ад ураднiка,—гаварыў Мірон.—Прагані яго. Гора і радасць папалам падзелім! Кінь, адрачыся! Не ў багацці жыццё і шчасце... Не раўня табе гэты кныр. Адрачыся, Наста!

Наста блізка ад сябе бачыла чорныя Міронавы вочы, чула яго лагодны шэпт, палкае дыханне лашчыла яе твар і рука Міронава, цвёрдая, дужая рука, беражна сціскала стан.

І Мірон учуў адказ:

— Добра, адракуся, Міронка...

І кругаваротам пайшло перад Міронам усё. І зеры, здавалася, з неба падалі дажджом, і ніводнай з іх не было прыгажэйшай за ясныя вочы Насты.

Вецер лёгка гойдаў гнуткія лозы...

Выйшлі Мірон з Настай да кладкі, калі сцямнела зусім.

Адно вядро знайшоў, другога колькі не шукаў Мірон, не знайшоў.

— Сплыло вядро...—сказаў ён нарэшце,—укацілася ў ваду і сплыло. Хай сабе. Для такога выпадку і шапкі не шкода. Сплыло вядро, хай плыве і шапка!

Мірон сарваў шапку з галавы і шырокім размахам на самую сярэдзіну ракі закінуў яе.

— Што ты робіш, Міронка!—здзівілася Наста.—Шкода-ж.

— Раз на жыцці бывае! Нічога не шкода!—адказаў Мірон.

І Наста яшчэ раз прытулілася да яго.

Пасля гэтага даўгія гісторыі апавядаліся аб тым, як наведаў небагатае Міронава вяселле п'яны ў дым пан урадзік і павыбіваў вокны ў Міронавай хаце і што ледзь дрэннага паміж Міронам і ўраднікам не выйшла.

Потым выйшла вось што. Ноч была цёмная з дажджом. Вецер урываўся праз пабітыя, рыззем пазатыканыя вокны... Дождж шумеў.

На золаку, калі праступілі праз муць адыходзячага змроку шэрыя плямы вузкіх ваконнікаў, загарлаў у сенях певень, на печы застагнала хворая Міронава маці—абудзіўся Мірон і ўчуў ціхія ўсхліпванні. Плакала Наста.

Чаго ты, Наста!—занепакоена спытаў Мірон.

Наста маўчала.

Вільготны ад дажджу вецер хадзіў па маленькай хаціне. Усё больш рабілася відна і непрыглядная беднасць хаціны агалялася з кожнай хвілінай больш.

— Чаго ты, Наста?—у дзесяты раз, ахоплены тугой, пытаўся Мірон.

І Наста нарэшце адвярнулася ад яго.

— Не гэткага жыцця я чакала, сабе, Мірон!—жорстка празвінеў яе голас.—Не гэтага я варта!

І яна заплакала зноў.

Доўга ўгаварваў яе Мірон, перамагаючы ў сабе боль. Гэта быў такі боль, як-бы пякучая атрута капнула на сэрца. Усё адразу пацямнела, фарбы свае згубіла, прывабнасць сваю страціла. Як бы ў мяшку душным адчуў сябе Мірон, але мужна ўгаварваў Насту, упрашваў і заспакойваў.

Але Наста плакала яшчэ доўга. Потым сціхла, узняла галаву з падушкі і сказала не да Мірона, а проста гледзячы перад сабою. Сказала суха і гнеўна.

— Загубіла сябе, дурніца! У балота, у яму сябе ўтаптала! На век!

Пасля гэтага прайшло два гады. За гэты час завезлі Мірон з Настай на могілкі старую Міронаву маці, а неўзабаве пасля таго нарадзіўся ў Мірона сын, смуглы і здаровы хлопчык.

А потым прыйшоў ліпневы вечар і пад'ехаў да зрубу, праязджаючы праз вёску, цыган Саўка. Быў гэта разважны стары чалавек.

Мірон, убачыўшы Саўку, кінуў работу, а той доўга думаў, як размову пачынаць, накручваў на смуглы палец чорную, як смоль, пасму са сваёй раскошнай барады. Нарэшце сказаў:

— Добрага здароўя, табе, Мірон!

— Вам таксама,—паспешна адказаў занепакоены Мірон.—Што скажаце добрага?

Саўка паглядзеў на двух цесляроў, што сядзелі на бервяне побач з Міронам.

— Добрага амаль нічога не скажу.

І пачакаўшы дадаў:

— Можа-б ты пад'ехаў са мной крыху, Мірон?

Мірон саскочыў са зруба і сказаў да цесляроў.

— Я зараз, хлопцы. Даўжнік без мяне не прыпушчайце.

І сеў у павозку да Саўкі. Той варухнуў чырвонымі, прыгожа вытканымі лейцамі, з месца ўзяў ходкую рысь вараны поўкровак, у прыгажэйшую на свеце збрую ўбраны. Добрая была збруя, добры быў вараны—адзіная маёмасць Саўкі. І больш ніколі не ўбачылі Мірона хлопцы-цесляры таму, што ад'ехаўшы за вёску стрымаў стары каня і сказаў:

— Дрэнная твая справа, Мірон.

— Што-о-о?—змог толькі сказаць Мірон.

— Дай бог табе спакою і развагі, Мірон!—зноў сказаў стары.—Цяж-

кая гэта для цябе хвіліна. Я твайму бацьку, працавітаму чалавеку, добрым другам быў. І табе другам і бацькам буду.

Міронава рука абцугамі сціснула слабы старэчы локаць.

— Спакойна, Мірон! Пусці маю руку. Вучыся, цярпець, Мірон! Гэта сілу дае чалавеку. Мне страшна сказаць табе тое, што трэба! Толькі спакойна, Мірон! Глупстваў не рабі!

З падвойнай сілай сціснуў Мірон руку старога. Задыхнуўся.

— Ехаў праз вёску вашу. Заехаў да вас. Бачыў: ураднік з шляхціцам Кабылінскім у тваёй хаце баль спраўляюць. Жонка твая на каленях у ўрадніка сядзіць... Не ў чалавечым падабенстве. Глупства не рабі, Мірон! Спакойна! Стрымайся, Мірон!

Мірон вырваў лейцы з рук старога, размахнуўся імі і абражаны першы раз на жыцці рысак — панёс.

Было дзесяць вёрст да Міронавай вёскі. Кідаліся сустрэчныя падводы ў бок, збягалі далёка прэч з дарогі падарожныя людзі, калі ўсхрапваючы, фыркаючы пенай з разяўленай зяпы віхром пралятаў міма вараны. Дзве скурчаныя постаці куляліся ў павозцы і разам з грукатам конскіх капытоў і калёс, у воблаку пылу даносіўся рык:

— Н-о-о-о-о! Гані-і!

— Пу-у-сці-і-і... Лейцы... Мі-ро-о-н!

Проста на плот пасадзіў жарабка Мірон, параніўшы грудзі яго. І ўжо на парозе сваёй хаты учуў развітальныя словы старога цыгана:

— Не таго я хацеў, Мірон!

Мірон ірвануў дзверы.

Дым. П'яны чад. Потная морда ўрадніка, чырвоная, рудавусая... Нейкая расчохраная постаць на каленях у шляхціца Кабылінскага. Гэта—салдатка Арына, вясёлая ўдава... Наста побач з ураднікам.

— За грошы людзей купляць?!—задушаным голасам пытае Мірон. І потым—усё як у чадзе...

Ідучы да дзвярэй Мірон натыкаецца на калыску. Прыўзняў полаг і бачыць: спіць сын смуглы, русавалосы...

І аб тым, што было потым, доўга, цэлыя гады гаварылі людзі ў ваколіцы.

Судзілі Мірона, хоць ураднік і жывы застаўся. Паказала жонка Міронава, Наста, на судзе так:

— Іх благароддзе пан ураднік з панам Кабылінскім мімаходзь заехалі, па справах сваіх едучы. А муж мой п'яны ўварваўся, узяўся душыць пана ўрадніка, грошы і куплю нейкую памінаючы. Як перад богам правільна гавару. І пана Кабылінскага ўдарыў. Думаецца мне, ваша высокароддзе, што аддаўна ў яго на пана ўрадніка злосць. Толькі я гэта і ведаю.

І нахіліла Наста прыгожую, русую галаву, нібы агнём паліў яе ў плечы Міронаў погляд з-за крат лавы падсудных, дзе сядзеў ён паміж двух канвойных.

Пакручваў пышны вус ураднік. Перасмейваўся з намаляванай Арынай і фальваркаўцамі-суседзямі Кабылінскі. Гула зацікаўленая зала дзесяткамі прыглушаных галасоў.

І з усяго, што чытаў расшыты ў золата кішкаваты мундзір, запомніў Мірон:

«... Па ўказу яго імпяратарскага вялічаства... акруговая судовая палата... справу селяніна Мірона Бокуця трыццаці год... абвінавачванне ў замаху на забойства ўрадніка Цімафея Цецярука з палітычнай мэтай... лічыць даведзеным... прыгаварыць да пазбаўлення правоў састаяння з ссылкай у катаржныя работы тэрмінам на дзесяць год».

Ураднік Цімох Цецярук, далікатна трымаючы Насту пад руку, вывёў яе з судовай залы. І Міронаў пакутны голас дагнаў іх на парозе:

— Ведаю! Ведаю! Навошта ты гэта зрабіла? Звер ты!

Ад тэй пары не чуваць было пра Мірона. Згубіўся недзе ён ў арыштанскіх натоўпах, што са звонам ланцугоў ішлі па далёкіх Сібірскіх трактах, са стогнам, плачам, тугой і сумнай песняй...

І гады пайшлі адзін за другім і забыліся людзі ў той ваколіцы, што жыў некалі тут малады цесляр, вясёлы, забіяцкі таварыш і найлепшы работнік. Забыліся людзі на Мірона.

Але, праз шмат часу, прыйшоў аднойчы ціхі майскі вечар. Ішло да захаду сонца, ільсніла ў шчодрых яго праменнях—сакавітая зеляніна лясоў, сенажацяй. У белі квітнення стаялі сады.

І вось у гэты вечар ішоў праз мястэчка чалавек надзвычайна высокага росту, надзвычайна шырокі ў плячах. Яго не бачылі дагэтуль у ваколіцы. Таму, хто ішоў і сустракаўся з ім—прыглядаўся зацікаўлены. Хада і постаць яго—маладыя, сіла чуваць вялікая, а твар жоўты, у маршчынах, бровы і вусы сівыя і вочы з-пад сівых брывей—як вугалле. Не стрымаць гэтага позірку.

На ганку свайго дома сядзела пані ўраднічыха. Яна піла гарбату і зважала толькі на самую сябе. І таму не глянула нават, калі аказалася, што на прыступках ганку, без шапкі, стаіць вялікага росту стары. Мала іх стаіць без шапкі пад ураднікавым ганкам?

Здзівілася пані ўраднічыха толькі ўчуўшы насмешлівы, нейкі дзіўна знаёмы, і разам з тым як-бы незнаёмы, голас:

— Прыемнага апетыту пані ўраднічысі!

Узняла вочы, глянула... І бразнула аб падлогу шклянка, павольна ўстала ўраднічыха, прыціснуўшы рукі да грудзей і вочы з жывёльным жахам упёрліся ў твар сівога чалавека.

— Мірон!?—ускрыкнула ўраднічыха.

— Я!—адказаў Мірон.—Як жывеш, пані ўраднічыха?

І тут убачыў Мірон, як падцісну́ліся губы, змыкнуліся бровы, пакрыўся недаступнай грымасай маляваны твар трыццаці-гадовай красуні.

— Зараз выйдзе муж!

— Я ў цябе хачу спытаць, дзе сын!

— Сын?... Я зараз. Пачакай.

— Дзе сын?—павысіў голас Мірон.—Я па яго прышоў!

— Не крычы! Сын памёр у мінулаю вясну... І... я зараз мужа паклічу. У нас з табой развод па ўсёй форме... Я зараз.

Ураднічыха бокам выскачыла ў дзверы.

— Памёр...—прашаптаў Мірон.

І доўга ён стаяў на ганку ўрадніка, глядзеў сабе пад ногі і не заўважыў нават, як вывалілася шапка з рук. Так і пакінуў Мірон шапку на ганку.

І ўспомніў аб ёй толькі тагды, як адышоўся. Успомніў і махнуў рукой:

— Гэта не шкода, што дзве шапкі змарнаваліся... Жыццё змарнавалася, вот чаго шкода!

Па могілках вяла яго ціхая бабулька. Узяла толькі медзяны трохкапеечны за работу. І давяла.

— От, ямачка тая... Осспадзі, рабу божаму...

— Ідзі, бабка!— сказаў Мірон.—Ідзі, не сліньсся!

Глянула на яго бабулька, хіснулася ў бок, прашурхала па сцежцы чорная яшчарка, манашка, і знікла.

Мірон прысеў на магільны ўзгорак. Трава маладая ўзрасла, стрэлкамі імклівымі ўгару цягнецца. Ляжыць тут у зямлі адзіны на свеце родны чалавек, хлапчук, смуглявы, русавалосы, што моцны быў, як дубовы кругляччок.

— Пан ураднік надта яго не любілі,—успамінае Мірон словы бабулькі...

І маці за непакорства не шкадавала яго. Толькі пры скарынцы хлеба дзіцянё было... Усё з кароўкамі па лесе! А ўзімачку хатнюю работу рабіў. І ўсяго тых гадкоў хлапчыне, але дужанькі быў, вечны пакой...

Рослыя беластволыя бярозы абступаюць з усіх бакоў магілку Міронавага сына. Пясок тут відаць, шэрая лёгкая зямля. Ціха тут... Дарога ўзбоч магільнага рову ідзе, шырокая і пустэльная, ні душы на ёй да самага мястэчка... А далей відаць: шырокую раўніну палёў замыкае лес, далёкі і сіні...

Шырокая, prasторная дарога ідзе адгэтуль праз палі, праз лясы, праз гароды, і туды гэтай дарогай можна дайсці, дзе хмурнее тайга на вострaверхіх сопках, дзе людзі цягнуць за сабою ланцугі, дзе стаяць панурыя вастрогі за высокімі сценамі, за глыбокімі равамі.

Дзе будуць дарогі Міронавы?

А тут—ціш. Гамоняць беластволыя бярозы паціху, перасвістваецца ўгары птушыная дробязь. Трава маладая цягнецца ўгару.

І пясок тут, зямля відаць лёгкая.... І побач вось, ляжыць ён, Сцёпачка, смуглы і русавалосы.

І нечакана сціснула грудзі Міронавы моцна, стлуміла дыханне. Уздыхнуў Мірон глыбока, прылёг на горб магілы, тварам у свежую, пахучую траву і заплакаў. Першы раз у жыцці.

Ён плакаў глуха, слёзы апякалі твар і пальцы скрэблі зямлю, ірвалі, камячылі маладую траўку:

— Сынок... Сцяпан мой!

І ў гэты момант разлёгся недзе мастацкі высвіст жалейкі.

І потым негучны, глухаваты, але малады голас заспяваў:

Ай-ду! Ай-ду-ду  
Пакупіў чорт дуду  
Пакупіў чорт дуду,  
на папову на бяду!

Мірон узняў ад зямлі свой заліты слязмі твар. Убачыў ён на дарозе маладога хлапца. Ішоў той па дарозе хісткім крокам, ішоў падскакваючы, вымахваў вольнай рукой, вырабляў нагамі розныя выкрунтасы, спяваў і надсвістваў у дудку. Была ў хлапца за плячыма торба, была на ім палапленая світка, лыкавыя лапці. Шапкі не было. Вецер узвіхрыў кучаравыя валасы. Цэлае воблака пылу ўзнімаў танцуючы хлапец.

Сеў чорт у лебяду!  
Ды заграў у дуду!  
Ай-ду! Ай-ду-ду!  
На папову, на бяду!

За поясам была ў хлопца сякера.

Убачыўшы Мірона, хлапец уткнуў жалейку за пазуху, сыйшоў з дарогі і ўзбег па крутым спадзе рова, на могільнік.

— Аб чым гаруеце, чалавек?—спытаў ён падыходзячы пад бярозу, дзе сядзеў Мірон.

Мірон не адказаў.

— Не варта, я вам скажу, гараваць,—сказаў хлопец. Горшай справы як смерць, яно, канешне, няма... Але-ж гараваць занадта таксама не работа. Мертвага не ўзнімеш, ды і самі памром. Аб чым тут ход?

— Аб сыне я...—нечакана для сябе самога сказаў Мірон.—Сын мой тут ляжыць. Жонка беднасці не вытрымала, людзі яе за грошы купілі

сабе на пацеху... За сваю выгаду і мяне і сына прадала. І за гэта ён загінуў... Сцяпанка мой!

Хлапец падыйшоў і прысеў на магільны гроб, побач з Міронам. Былі ў яго блакітныя вочы, добрыя і здзіўленыя. І ён лагодна глядзеў на Мірона, крыху п'янаваты, і шчыры хлапец. І Мірон расказаў яму ўсё, ад пачатку да канца, першаму чалавеку, які зацікавіўся чужым горам. Там, дзе быў Мірон, кожны насіў яго балючай кропляй на сваім сэрцы, у кожнага было сваё. Тут-жа, на могільніку, сярод ціхага поля, сярод роскашы вясенняга вечара, гора Міронава, што вылілася ў буйныя кроплі слёз, бліснула дыямантавым россыпам на маладой траве і гэта заўважыў хлапец і падыйшоў спытаць. Гэта быў першы чалавек за дзесяць гадоў.

І калі скончыў Мірон—са здзіўленнем убачыў, што хлапец абцірае рукавом світкі слёзы на шчаках.

— Мяккае ў мяне сэрца,—растлумачыў хлапец,—шчырага я і мяккага сэрца чалавек. Як вып'ю чарку, дык туды-сюды яшчэ, магу хоць пагутарыць. А так—дык жаба скокне, а я баюся. І працую, бывае ні за што. Працуеш, працуеш, а табе і заплаціць шышку бараву́ю. Толькі тое, што адчэпнага дадуць, каб ад сабакі скарынкай хлеба за варотамі адбараніўся.

Абодвы памаўчалі.

— Як бачу, чалавеча, няма ў вас прытулку,—сказаў хлапец.—І работы, відаць, у вас няма. Так што пойдзем, давайце, разам па свеце, куды бог занясе. Працаваць будзем разам і жыць разам будзем. Чалавек вы, відаць, натуры сталай, другі раз і за мяне заступіцеся, а я вам карысным пастараюся быць. Цесляр я не дрэнны.

Мірон згадзіўся. Яму было ўсёроўна, куды ісці.

І яны пайшлі той шырокай дарогай, што вяла да сіняга далёкага лесу. Заходзіла сонца. Вечар быў. Даўгія цені цягнуліся па палях.

На ўзгор'і Мірон спыніўся, аглянуўся назад. Далёка была зялёная купіна могільніка. А вышэй верхавін дрэў, на ўзгорку, відаць была шэрань мястэчковых дахаў. І ўсё.

Хлапец сказаў:

— Калі-б вам не было прыкра, дык я сабе крыху на дудцы найграў-бы. Шкода неяк! Выпіўшы, а без музыкі ідзеш! Я чалавек вясёлы, мне без музыкі, калі выпіўшы,—адна журбота, хоць задавіся!

Мірон згадзіўся на музыку.

Хлапец выцягнуў з-за пазухі жалейку і загаласіў:

Ай-ду! Ай-ду-ду!
Пакупіў чорт дуду!

І яны пайшлі. У далёкія дарогі на дваццаць пяць гадоў. Бо гэты хлапец і быў цесляр Антось Літвак, якога потым празвалі—Шпэрка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Халаднаваты вецер пацягнуў струменем аднекуль з раўніны, з балотных адтокаў. Золкую вільгаць і прэлы пах адталых імхоў прынёс з сабою. Зашумела сухім, калючым веццем старая груша... Сціх парыў ветра. І зноў састойвалася прыпараная цяплыня веснавой ночы.

Зсутулены Мірон ціха сядзеў на камені.

— Усё сваё жыццё сэрца ў мяне камянем было да яе. Літасці не меў я да яе ні кроплі, як і да ўсіх, хто на слязах, на крыві чалавека другога такі ці інакшы здабытак меў. Будзьце-ж вы пракляты, каб не радзілася больш гэткае атрутнае насенне.

Недзе за лесам далёка і глуха прагрукаў першы грымотны раскат.

Мірон уздыхнуў.

— Можа і не варта мне за старое Насціны косці грэхам памінаць. І на Антошку гневацца можа не варта і на ўсіх, хто з мяне ці з другога скуру ці поўскуры злупіць думае. І я можа звер! Можа толькі выпадку мне такога не здарылася, каб на чужым храбце пагуляць. Адкуль гэта вядома?

Зноў прагрукала далёка за лесам.

— Паціху паўзі сабе да ямы. Калі сіл стае—агрызніся, як на цябе насядаць будуць. Не стае сілы—змоўкні, пацярпі. Такая ўжо доля твая. Пара пад хату, на радзіму падбірацца, са Сцяпанам побач легчы хутка пара будзе. Як не стане сілы—то і канец, значыць. І ўсё.

Так назад прышоў Мірон да тых думак і перакананняў, што былі ў яго раніцой, яшчэ на Груздовым зрубе. Зноў стаяў перад ім у поўнай сіле законаў сваіх звярыных стары свет, якога ўжо не было. Толькі здань яго, самім Міронам створаная, глядзела мёртвым поглядам са змроку...

Ноч была. Паблісквалі здалёк агні вёсак. Недзе высока пасоўваліся грузныя воблакі, бо цямнела ўсё больш і на краявідзе далёка за лесам, зарніцы ўспыхвалі і перакачвалася рэха грымотаў.

Мірон устаў. Зняў торбу з грушы. Закінуў звычным рухам за плечы...

Ляжала перад ім дарога ў змроку.

Зноў ляжаў перад ім валацужны шлях.

І Мірон Воўк пайшоў дарогай нагару і хутка ўвайшоў у лес.

Стала зусім цёмна. Старыя хвоі важкімі лапамі прыкрылі вузкі лясны прасёлак.

Зноў, ужо бліжэй, з узрастаючай сілай разлёгся грымотны раскат. Аднекуль здалёк імчалі і набліжаліся першыя буры гэтай вясны. Яны палымнелі вялікім агнём, трэслася зямля ад пяруновых удараў, буйны вецер імчаў хмары на магутных крыллях сваіх...

Шумеў чорны лес...

Цёмнай была лясная дарога...

* * *

У змроку досвіткаў пабліскваў нікель ручкі аўтамабільных дзверцаў. Мацей Вярша павольна падыходзіць. Бярэцца за ручку і націскае яе. Ручка пругка паддаецца ўніз, адчыняюцца дзверы. Можна падумаць, што зараз Мацея Вяршу павінны прыняць на сябе зыбкія падушкі сядзення і за тым—ход машыны і востры вецер у твар. Але гэтага не магло быць. Дзверцы існавалі зусім асобна ад аўтамабіля. Правільней сказаць, дзверцы былі, а аўтамабіля не было. Гэта патрабуе тлумачэння.

У ліпені 1920 г. гарэлі ў ваколіцы лясы. У ясныя поўдні, змрочным быў ад вялікіх дымоў краявід і сонца вісела ў гэтым дыме, як цмяная лямпа. Гарэлі лясы навакол ні то ад знарадаў, ні то, казалі людзі—партызаны падпальвалі лес на асобных вучастках для таго, каб збіць з маршрутаў адступлення, пераблытаць і завесці ў тупік бязладныя орды белапольскіх легіёнаў, што дні і ночы валам валілі па лясных дарогах.

Аднаго дню пажар перакінуўся на вёску Ліпцы, пад Мацеяву паветку. Руды гаркавы дым праз дзень слаўся па палях, а ўвечары паўстала крывавае зарава, заліло грозным пурпурам чорнае неба і відаць было з вёскі, як выбухаюць паверх лесу вялікія слупы агня ў воблаках іскраў і шызага дыма. Верасы былі па лясах у гэтай мясцовасці і сасоннік малады рос густою прысадай, па зямлі сівец быў на нізінах, ласы харч для агню, ды яшчэ ядлоўцу было поўна ўсюды. Таму гарэлі дрэвы, як свечы, і сосны і елі і нават асіннік. Палаў лес.

— За дарогу не перакінецца,—угадвалі мужчыны ліпцоўскія, седзячы на плоце, на выгане.

— Што яму за дарогай рабіць? Скрозь бярэзнік ды клён, а на зямлі адзін мох.

— І цікавая рэч, мужчыны. Па адзін бок дарогі адно, па другі—другое. І той самы-ж лес. Вось, як бог даў.

— Можа-б, хлопцы, падыйсці ды як небудзь угасіць?

— Як ты там яго ўгасіш? Світкай накрыеш ці што? І як гэта гасіць? Можа партызаны падпалілі. Сядзім тут, як прусы ў дзежцы, носу высткнуць баімся, ды яшчэ будзем работу псаваць людзям?

— Яшчэ добра, як нам, а то зноў пану гэты лес застанецца.

— Палякі-ж тут яшчэ? Тут! На чорта клапаціцца табе аб кішэні панскай? Яшчэ калі застануцца паны: глядзі, прыдзе час!!!

— Няхай гарыць у попел. Хай крыху падсохне панская кішэня!

— А што ўжо гарыць, дык гарыць. Каб толькі яно ліха гэтае, на жытняе поле не ўскочыла!

— Дзе там! Праз луг, ды праз раку?

— Глядзі! Глядзі!

— Ат, дурань ты!

— Сам дурань!

— Абодвы дурні,—сказаў развcovажны Банадысёў Цімох.—Як толькі сыйдуцца, гатовы бойку завесці. Цьфу, чэрці на вас, на такіх людзей!

— Але-ж і гарыць! То-ж і гарыць!

Бушаваў агонь у блізкім лесе. Здавалася, да самых найбольшых вышынь чорнага неба дасягаюць гіганцкія вогненныя языкі! Дрыжэла зарава на ўсім краявідзе, калыхалася, расплывалася ушыр і ўглыб. Спалоханая казалася ноч над зямлёй.

— А палякі яшчэ тут, я вам кажу,—азваўся касавокі Банадысь, Цімохаў бацька. Ён меў звычай праз гадзіну паўтараць тое, аб чым гаварылі другія. Паўтарыў і зараз:

— Тут палякі, ту-ут. Ту-у-т, смерці на іх няма!

І здалёк нечакана, у тон Банадысёвым словам разлеглася:

— Ту-ут!.. ту-у-ут!.. Ту-у-ут!

— Цьфу, ты, нячыстая сіла!

— Т-у-ут!.. Ту-у-ут... Ту-у-ут!

— От, удалося! Лезь, хлопцы, у каноплі!

За плотам—чорная хмара канопляў. Пахучы, зялёны, масляністы гушчар. Дзесятак мужчын сыпануў з плоту. Застаўся толькі Мацей Вярша. Яму хавацца было нельга. Выпала чарга адвесці бяду ад вёскі.

Па сонных стрэхах хат, асветленых дрыжачым водбліскам зарава, праляцеў рэзка белы прамень аўтамабільных фар. Зноў затукаў гудок. Зазлавана шумеў матор, перамагаючы круты спад узгорка. Мацей паспяшыў насустрач і, аслеплены, спыніўся ў яркім святле. Спынілася і машына каля Мацея, што прыціснуўся да плоту.

Паблісквалі наплечнікі, пазументы на каўнярах і шапках.

— Хлоп, ходзь тутай!

Мацей падыйшоў.

— Гдзе пшэехаць?

— Куды?

— Дурак! На местечко!

— На мястэчка. Яно то можна, але пажар. Лес гарыць. Можна ехаць і направа, паўз раку.

— М-молчать! Не твое дело. Эта дорога на местечко?

— На мястэчка! Гэтая самая!

— Язда!

Узвыў матор. Машына вылецела з вёскі.

І зараз-жа белыя постаці з'явіліся з-за плоту Мікітавага саду.

— Паехалі, Мацей?

— Паехалі-ж, бачыш!

— Па зубах табе не падаравалі?

— Блізка было каля таго. І папольску гутараць і парасійску.

— Ён усяк можа. Сёння ён паляк, а заўтра немец. Не аб той скуры ход. Ход аб тым, каб маёнтак адбіць.

— Пойдзем, хлопцы, па хатах, а то добрага, як быццам, нічога тут не дачакаемся!

— Відаць, што так!

Мужчыны разыйшліся. Толькі адзін Мацей, прайшоўшы некалькі крокаў, спыніўся і стаяў яшчэ доўга каля Мікітавага саду. Ён угадваў, чаму не паехалі афіцэры кружнай дарогай, а палезлі проста ў агонь. Відаць, адрэзаны былі дарогі. Горш за агонь баялася чырвоных панства! Значыць, прыдзе савецкая ўлада!

Зарава плавілася ў небе, расшчэпліваючы чорнае скляпенне ночы. Палаў лес. Над палямі нябачныя плылі дымы, уедлівая гарката стаяла ўсюды. Мацей увайшоў у свой двор. І тагды аднекуль здалёк данеслася:

— У-у-х!

Мацей стаў, як укапаны. Ён бываў на вайне. Служыў у аўтамабільнай роце. Чатыры гады ў акопах. Галіцыя, Букавіна, Карпаты, Мазурскія балоты, Аўгустоўскія лясы. Усюды насілі Мацея крывавыя хвалі вайны. Мацей меў вопыт. Ён ужо ведаў, што адбылося ў лесе. Гэта быў выбух.

— Трапіла мусіць панства на аганёк—падумаў Мацей.—От ужо правільна сказана: з агня ды ў полымя!

Ён увайшоў у хату. Распрануўся і лёг. Ціха было. На шыбах ляжалі адценні багровага зарава і чырвонавы змрок стаяў у хаце. Трывожна было. Не спалася Мацею. Пасля трывожных думак аб пажары, аб разбурэнні, прыйшла да яго асцярожная надзея аб тым, што добра ўсё будзе. Пройдзе ліхі час, прыдзе зноў савецкая ўлада, будзе зямля, будзе хлеб, усё будзе.

Ціха было. Спала сям'я.

Не спалася Мацею. Цяпер ужо другое непакоіла яго.

Вось ішоў па лясным прасёлку той дасканалы шасцімясцовы штабны «Бенц». Ішоў і сеў у балотнай лагчыне, адкуль да Салодкага лужка сцежка ідзе. Сеў, забуксавалі колы, грузным пузам лягла ў гразь машына, увязла так, што ніякія сілы яе з месца не зрушаць. Бегаюць людзі ў наплечніках, месяцца па гразі, самі вязнуць, клянуць шофера. А навокал—верасы, сасоннік, ядловец, што як порах гарыць. Коціць па лесе хваля агню, агонь мяце перад сабою усё жывое... Вось затрашчаў ядловец паблізу, бліснуў агонў і от—з гулам і шумам праляцеў ён па вершалінах дрэў, насунулася вогненнае мора, захліснула машыну. У ва ўсе бакі, у россып кінуліся ад яе людзі. І тады...

— У-у-х-х!

... Узарваўся бензінавы бак.

З боку на бок варочаецца Мацей. Здатнія для гаспадаркі рэчы там ёсць! Скурай лакіраванай сядзенні аббіты! Колькі там скуры! Тэнт, буда гэтая, што настаўляецца ў непагоду—таксама скураная. Два кавальскіх мяхі можна з яе зрабіць! А рэсорная-ж сталь! Праўда, цалкам рэсору пад вазок не паставіш, занадта лёгкі вазок для такой рэсоры. Але разабраць іх можна па лістках, на лёгкім агні крыху адпусціць гарт і колькі потым гэтых рэсор можна нарабіць! З кожнай рэсоры тры хамуткі. Ого! А рама, на якую матор насаджаны. Гэта метал першага гатунку! А ўвесь корпус, восі? І нават абліцоўку корпуса можна ў справу пусціць.

Глухая абліцоўка, напоўбранёвая. Шкло-ж якое! Шкада, ад агню патрэскаецца!

Як жывы стаяў «Бенц» у вачах Мацея.

Ї так Мацей і не заснуў. На золаку накінуў на сябе світку, схапіў аброць, як бы па каня пашоў. Конь-жа ў гумне стаяў, саломай закіданы. Хавалі коняй, каб не выгналі ў падводы. Мацей пабег, тулячыся, спачатку праз гароды, а потым праз жыты. Перабрыў праз раку, прабег па балоце, узняўся на ўзгорак. Тут лес целы быў па гэты бок дарогі. За тое далей, на той бок, чорнае папялішча скрозь і вужакамі паўзлі яшчэ паміж дрэў завіхлястыя струменчыкі дыма. Лес пагрозны, аголены, страшны і сумны стаяў вялізным пажарышчам, маўклівы, як магіла. Толькі наперадзе яшчэ час ад часу чуўся трэск. Недзе дагарала мусіць. Аддаляючыся, у другім кірунку ішоў пажар.

Мацей выбег на ўзгорак. Аглянуўся і хутка пайшоў уніз, у лагчыну. Ї казалася, што памыліўся ён. Глыбокія разы ад колаў ляжалі ў балотным грунце. Прадраў іх магутны «Бенц» і вырваўся з пасткі.

Мацей пайшоў па слядах далей. Узышоў на другі ўзгорак, глянуў... Ї адступіў. На дарозе стаяла машына. Мацей, азіраючыся, пайшоў да машыны. Нідзе нікога не было навокал. Па гарэлым лесе далёка было відаць. Налева—звялы, пажоўклы стаяў малады бярэзнік і асіннік. Туды не пайшоў пажар.

Машына выглядала страшна, як апалены труп. Радыятар быў адвернуты ў бок. Капота не было, яго сарвала выбухам, скамячыла і адкінула прэч. Ад матора засталася нейкая дробязь. Кабіна шофера была знішчана ўшчэнт. Руды, аблуплены метал каркаса выступаў усюды на пасажырскіх мясцах, там, дзе меркаваў Мацей, павінна была быць лакіраваная скура. Ї тэнт,—буда, з якой кавальскія мяхі можна было рабіць—згарэў. Ї гума шын спяклася і ляжала на зямлі пузырамі. Ї ад шкла ніякага ўспаміну ен было і ўвесь корпус машыны быў развернуты. Гэта ад бензінавага запаснага бака. Труп машыны, скарэжаны і страшны, бездапаможна ляжаў на дарозе. Гэткая была выдатная машына! Гэткая загінула прыгожасць!

Мацей убачыў прычыну пагібелі «Бенца». Упоперак дарогі ляжала абвугленая сасна. Мусіць проста праз агонь дралі панове афіцэры, і задняга ходу часу не было даваць. Ї праз гэтыя звялыя кусты, мусіць, і ратаваліся яны. Чорт-жа на іх галаву.

З жалем аглядаючы спаленую машыну, Мацей зайшоў з другога боку. Ї тут справа прадстала прад ім у другім святле. Калі аўтамабіль упёрся ў палаючае тулава сасны, шофер мусіць спрабаваў аб'ехаць дрэва і крыху збочыў з дарогі. Машына адным бокам прыціснулася да пышнага чорнаальховага куста. Ї гэты бок амаль зусім не пашкодзіла агнём. Засцерагло лісцё зяленаваты лак. Асабліва спадабаліся Мацею дзверцы. Такая спрытна-выгнутая, выпуклая жалезіна, што свеціцца лакавай фарбай. Прыгожа паблісквае нікелевая ручка. Мацей ўзяўся за яе, паціснуў. Яна пругка паддалася ўніз на скрытай у створцы пружыне. Ї дзверца адчынілася. Але не было там утульных пружын і лакіраванай скуры сядзення. Быў каркас з'іржавелы, аблуплены і страшны, як шкілет.

Але Мацей ужо прышоў да памяці. Ён ведаў якасць метала, з якога зроблена машына, ведаў ён і тое, як гэты метал скарыстаць. Ї, пакінуўшы дзверцы адкрытымі, ён пабег назад у вёску.

Хутка некалькі мужчын завіхалася каля машыны. Ї не менш хутка ад яе засталося на зямлі некалькі абгарэлых кавалкаў жалеза.

От чым тлумачыцца існаванне аўтамабільных дзверцаў асобна ад аўтамабіля. Ї калі адчыняе Мацей дзверцы, калі мякка паддаецца нікеле-

вая ручка—то зусім не тугі лак сядзення і не выгодныя абнімкі падушак сустракаюць яго...

І так, Мацей паціснуў ручку, адчыніліся дзверцы і з глыбіні маленькага хлявушка, з цемры нездаволена і прарэзліва закрычалі гусі.

— А к-кы-ш-ш!—сказаў Мацей.—Горлы вы!

І ўсунуў галаву ў хлявушок, выстаўляючы наперад ліхтар.

Гусі сядзелі на яйках у саламяных гнёздах.

— От, дурная птушка!—сказаў Мацей, калі адна з гусынь паспрабавала скубануць яго за руку.—Хто цябе чапае, звягала ты!

Ён ўсё знайшоў у парадку. У хлявушку было цёпла і досыць было кастры рассыпана для сухасці. Мацей зачыніў дзверы. Салідна шчоўкнуў замок.

Досвіткі. На сяле гарлалі пеўні.

Мацей стаяў каля гусінага хлявушка і глядзеў на жоўтую пляму святла ад ліхтара. Святло адбівалася на зеленаватай, лакавай паверхні дзверцаў. Жоўтая пляма коўзалася па лаку, паўтараючы хістанні ліхтара ў Мацеявай руцэ.

— Прыгожая рэч,—падумаў Мацей.—І прыстасаваў я яе. Колькі гэта гадоў ужо служыць і каб табе дзе пацерлася. Як наваксаваныя боты. Адно што нізкія, у хлявушок уваходзіць дрэнна. Толькі для гусей. Ды авечку яшчэ хіба калі баба упіхне...

Але не адыходзіў ад дзверцаў. Глядзеў на жоўтую пляму, што коўзалася па зялёным лаку. Тут быў як бы ключ да шматлікіх развілінаў думак яго. Мацей успамінаў аб тым, як было цяжка падагнаць паз пад гэтыя дзверцы. І адсюль думкі чапляліся адна за адну, вынікала многа пазабытых абставін і ўсе яны, сашчэпленыя адна з другой, даводзілі Мацея па шляхах ужо пражытага—да рэчаіснасці.

Калі падганяў Мацей паз да дзверцаў—прыходзілі мужчыны, і глядзелі на яго работу, і гаварылі:

— Рупны ты гаспадар, Мацей! То-ж рупны!

— А дзверцы падганяць была цяжка. І завесы ў іх далікатна крытыя, і абодвы пазы патрэбна было высякаць пукатымі, паводле зграбнай выгнутай лініі дзверцаў. Папацеў, адным словам, Мацей, але давёў усё як раз і потым цэлых два тыдні хадзіў здаволены. Выдатная рэч. Яна мела на сабе адзнакі дасканалай прыгожасці трагічна загінуўшага «Бенца». Яна была адценнем яго вобраза.

А што быў рупным гаспадаром Мацей—то гэта факт. Гэта праўда. У дзень хвіліны спачынку ён не меў, і ўначы не было яму спакою. Працаваў дзень пры ночы. І з тэй рупнасці Мацеявай, надта карыснага нічога не выходзіла. Сям'і пяць душ. Работнік ён амаль адзін, бо ў жонкі малое на руках. А гэтыя малыя, у яе з рук год пры году не сыходзілі. Мацей такі казаў суседзям пры гутарцы, калі здаралася:

— Адно папаўзло па падлозе, ужо на ногі спрабуе ўстаць, глядзіш—другое ўжо на руках яна трымае. Рады няма!

А мужчыны смяяліся. Чаму ім не смяяцца. Некаторым і больш вольна па сярэдняму жылося. А Мацей хоць і добрым быў работнікам—толькі тое было радасці, што да новага хлеба дажываў, бо савецкая ўлада зямлі дала і дзеці падраслі крыху. Большы ўжо зусім добры стаў работнік. Крыху стала лягчэй. Але толькі крыху.

Тут можна зноў успомніць пра дзверцы. Дзверцы гэта—па сутнасці непатрэбная рэч. Непатрэбная таму, што можна было-б са значна меншай тратай працы, цярпення і часу, зрабіць акуратныя драўляныя дзверы і пры тым больш выгодныя, бо непатрэбна было-б на карачках уваходзіць у хлеў. Але дзеравяныя дзверцы—не зялёны лак, не нікель,

не пукатасць, не гнутая лінія. Гэта па-просту кавалак дрэва, дубіна. Такія дзверцы ўсюды ўбачыш і ніякага ўражання ад іх няма. Прыгажосць-жа такіх дзверцаў, як ад «Бенца»—для вока прыемная рэч, прытым і якасці дзверцаў да хляўка—абсалютна не звыклася. У гэтым асаблівасць Мацеявай натуры. Ён прыгажосць разумеў і любіў, хаця і пасвойму. І, апрача таго, заўсёды імкнуўся з гэтае прыгажосці атрымаць пэўную карысць. Адсюль з гэтых невыяўленых і незразумелых тайнікоў Мацеявай натуры нарадзіўся той неспакой і смага шукання, якія вылучылі яго з натоўпу аднавяскоўцаў і паставілі яго апроч, некалькі у бок, некалькі як-бы і наперадзе. Апошняе, праўда, выявілася толькі з бегам часу.

Быў Мацей да тэй пары, пакуль не ўзялі яго на фронт, як і ўсе іншыя, нічым не адрозніваўся. Але калі прыйшоў ён з фронту, у першы-ж вечар, як сабраліся да яго аднавяскоўцы, пачаў гаварыць так:

— Па-свінску жывем, мужчынкі. Аж сорамна глянуць. На палях—свірэпка, на гародах—асот ды макрыца, на пожнях сівец... А балоты без краю, вада іржавая, смуродная, лес дзікі. Гэта, мужчынкі, не жыццё.

— Быў я ў Германіі,—гаварыў Мацей.—Ва ўсходняй Прусіі у палоне пяць месяцаў. Растаўклі гэты край аднымі салдацкімі ботамі. А ўсё-ж прыгажосць. Бо-ж-жа-ж ты мой, якая прыгажосць! Пшаніца ў чалавечы рост, ячмяні—страшна глянуць, вус агромны, зерне, як боб... А аўсы! А бульба, ды жыта якія! Пожні—сады! От, край! На жыццё нашае вочы не хочуць глядзець пасля яго.

І Мацей на самай справе прыкрыў вочы рукой, як бы хацеў яшчэ раз убачыць роўнае, як страла, шасе, прыбранае ў прысады яблынь, каб убачыць тлустую, цёмную зеляніну ярыны: сівыя мётлы густых аўсоў, разважныя вусы ячменяў, глыбокія ўсплескі жытніх, пшанічных хваляў і пахучыя квадраты участкаў чырвонагаловай канюшыны.

— Трусоў там на палях, што ў нас мышэй. Міла глянуць на гэтых на звяркоў. А зямля там—пясочак. Наша зямля перад ёй—леў! Не умеем жыць, мужчынкі. І не столькі мы не ўмеем, колькі нам не даюць.

Нездаволенаківалі галовамі старыкі. Ні то згаджаліся, ні то не.

Разыйшліся, пагаварыўшы са сваяком і з суседам, якога ўжо два гады ў царкве паміналі, як «воина Матвея во блаженном успении». Падзівіліся мужчыны на несуразныя думкі ў разумнай Мацеявай галаве... І ўсё...

А Мацей узяўся гаспадарыць. Спрабаваў па іншаму справу весці. Хацеў сеяць канюшыну, падгаварваў мужчын на чатыры палі зямлю разбіць. Не згадзіліся. Абгарадзіў Мацей дзве свае ніўкі, пасеяў канюшыну. Нічога не выйшла. І так вузкая ніўка—чвэрць, а тут яшчэ—плот, шырокую мяжу трэба з аднаго ды з другога боку пакідаць. Карпелі дзве вузенькія грыўкі канюшыны людзям на смех. І людзі адкрыта смяяліся. Нічога не выйшла з гэтага. Каровы і коні вытапталі Мацеяву канюшыну пасля першага слабенькага ўкосу, выгрызлі проста такі з карэннем, калі ў папар ніўкі Мацеявы трапілі. Дзе тут дагледзіш!

Спрабаваў Мацей торф капаць—сілы не хапіла. Адзін работнік у сям'і, а сям'і без яго—шэсць душ. Хацеў караньплоды сеяць—малы гарод, бульбы ранняй насадзіць няма дзе, жонка не пусціла Мацея з турнэпсам на гарод, дарма толькі за трыццаць вёрст у горад лапці дзёр Мацей, як хадзіў па насенне. Куды не кідаўся і што не рабіў Мацей—лепш не было.

Савецкая ўлада дала зямлю. Узяўся Мацей хадайнічаць сабе хутар. Зноў паўсталі перад яго вачыма пазабытыя пахучыя квадраты канюшыны, буйная зеляніна ярыны і высокае жыта. Разважаў Мацей так,

што на хутары яму ніхто не перашкодзіць, а зямлі, калі на душы лічыць—не малы будзе кавалак, ды яшчэ і сваю зямлю абмяняе Мацей і да хутару прырэжа. Ї тут сустрэў ён свайго знаёмага, старога таварыша гарадскога рабочага, з якім яшчэ змоладу ў бурлакі хадзіў. Выпадкам сустрэўся і таварыш, даведаўшыся аб Мацеявых справах, сказаў так:

— Не лезь на хутар, Мацей. Куды ты са сваімі блыхамі панясешся! Які з цябе гаспадар на хутары! Загінеш ты там!

Доўга думаў Мацей і пераканаўся. Праўда. Не выпадае на яго долю хутарское жыццё. Не выйдзе. Ї паслухаў рады старога таварыша. Ї добра зрабіў. Доўга потым паглядаў ён са спачуваннем на непакрытыя дахі новых хутароў, што марнелі на полі. А з таго, што гаварыў яму таварыш, сам малапісьменны, аб комунах, амаль нічога не зразумеў Мацей і хутка пра тое забыўся.

Ї ўспомніў толькі ўбачыўшы трактар. Убачыў яго ён ў аднэй комуне. Гэта быў першы трактар у ваколіцы і шмат народу глядзела на тое, як прэ па цаліне магутны металёвы жук, узнімаючы адвеку ўдзірванелы пласт цаліны, закінутых пад лес, кліноў.

Ї як убачыў Мацей трактар—варухнулася ў грудзёх сэрца. Вось яно! Калі прышла на поле гэтая машына, знаць, недалёка той час, калі закрасуюць палі зусім інакшым квітненнем, калі абудзіцца вялікая сіла зямлі! Як гэта станецца—не ведаў Мацей. Выходзіў ён толькі з таго, што трактар магутная машына, з пераможным гудам ідзе па той зямлі, па якой хадзіла касабокая саха, па зямлі, якая нараджала дагэтуль толькі свірэпку ды асот, а паміж іх—кволыя, хворыя каліўцы збожжа.

Машына! Гэта-ж машыны зрабілі такую прыгажосць там, на палях Усходняй Прусіі! Гэта яны прынялі на свае сталёвыя мускулы нявымоўную цяжкасць працы слабых чалавечых рук!

Працаваў Мацей, ува ўсім сабе адмаўляў, рупным быў, кожны цвічок закінуты не лянаваўся з зямлі падняць і пакласці ў кішэню. Ї было ў яго жыцці толькі і прыгажосці і радасці, што аўтамабільныя дзверцы у гусіным хлявушку.

Ї вось—ідзе машына. От яна прыгожасць і сіла! От яна блізкая радасць жыцця!

Ї Мацей Парамонавіч Вярша першым з усіх пайшоў насустрач новаму. Ї пачалі яго зваць—«актывіст». Мацей—член сельсовета. Мацей—у групе беднаты, ён адзін з арганізатараў калгасу ў Ліпцах. Ї нават больш, на сходзе, як арганізаваўся калгас—абралі Мацея старшынёй і сакратар сельсовецкай парт'ячэйкі, там-жа на сходзе, паціснуў руку Мацею і сказаў:

— Ну, Мацей. Вядзі цяпер, не памыляйся! Партыя даверыла табе кіраўніцтва калгасам.

Так гэта ўсё выйшла, хутчэй чым спадзяваўся Мацей. Агромныя палі чакаюць. Не жарты, Ліпцы, сто з лішнім двароў, больш за тысячу гектараў. Не Ліпцы цяпер, а калгас імя Сталіна. Ї ён, Мацей Вярша—старшыня гэтага калгаса.

Ї цяпер ён, Мацей, стаіць з ліхтаром каля аўтамабільных дзверцаў у гусятніку. Жоўтая пляма святла коўзаецца па зялёным лаку.

Хутка прыдзе сонца. Гарлаюць пеўні.

Адыходзіць ноч. Прыходзіць новы дзень.

Ї перад гэтым днём, успамінае пераджытае, блукае ў мінулым Мацей Парамонавіч Вярша для таго, каб яшчэ лепш зразумець усю веліч і ўсю сілу новага дня, які нараджаецца зараз, сонца якога паўстане над зямлёй.

*(Канец першай часткі)*

Б. Тарашкевіч

# ІЛІАДА ГОМЕРА

Сем грэцкіх гарадоў вялі паміж сабой заўзятыя спрэчкі за гонар лічыцца бацькаўшчынай Гомера. Яму, як герою, грэкі пасвячалі храмы і аўтары. Песні яго леглі за аснову грэцкага мастацтва, навукі і грэцкай тэагоніі. Рым успрыняў Гомера, як свайго паэта, і тут ён аказаў рашаючы ўплыў на элінізацыю рымскай літаратуры. „Энеіда" Віргілія—гэта імітацыя Гомера, хоць сярэднія вякі прызналі яе ідэалам эпічнай паэзіі. І толькі гуманісты XVI стаг., а затым Лесінг, Гердэр, Гётэ, Шылер і многа іншых крытыкаў правільна ацанілі гомераўскія творы, як непаўтарымы праобраз эпаса.

Гістарычна-літаратурная крытыка XVIII і XIX ст. ст. вяла сапраўдныя „гомераўскія баі" каля пытання аб гістарычнасці асобы самога Гомера і аб тым шляху, якім злажыўся гомераўскі эпас. Крайні рэвізіянізм у гэтым пытанні дайшоў да поўнага запярэчання існавання Гомера, прызнаючы ўвесь гомераўскі эпас **народнай** творчасцю. Але гістарычную сапраўднасць асобы Гомера не пераставалі бараніць некаторыя вучоныя і асабліва паэты: Гетэ, Шылер і другія.

Самае нават павярхоўнае знаёмства з гомераўскім эпосам змушае прызнаць, што „Іліада" і „Одысея" з'яўляюцца пладом **мастацкай** творчасці. Крыху глыбейшы аналіз паказвае, што гэту творчасць нельга прыпісаць адной асобе. Так, напрыклад, ясна, што „Одысея" адносіцца да шмат пазнейшага часу, як Іліада. Але і сама Іліада не з'яўляецца прадуктам творчасці выключна аднаго чалавека: гэта аб'яднанне цэлага цыкла самастойных твораў высока-кваліфікаваных у паэтычным мастацтве песняроў-аэдаў. Можна дапусціць, што найвыдатнейшым з іх і найболей слаўным і быў Гомер.

Аднак-жа „Іліаду" і „Одысею" можна лічыць у некаторым значанні і **народнай** творчасці і не толькі таму, што на працягу доўгага часу яны складаліся ў вялікай грамадзе, карпарацыі іонійскіх песняроў, але і таму, што паэтычным матэрыялам для іх паслужыла грэцкая міфалогія, у якой народная фантазія дала прыродзе і грамадскім формам свядомую мастацкую апрацоўку.

Гомераўскі эпас дае нам карціну яшчэ даволі слаба расслоенага грамадства, калі паасобныя плямёны злучаліся ўжо ў невялікія народы, у якіх аднак род, фратрыя і племя захоўвалі яшчэ сваю самастойнасць.

На гэтай ступені мы бачым у грэкаў гарады, абнесеныя мураванымі сценамі, бачым даволі развітае рамяство, але бачым і нявольніцтва. Гэтыя маленькія народы вялі паміж сабою безупынныя войны за лепшыя землі і пасбішчы, за дабычу, у тым ліку за нявольнікаў.

Адна з такіх войнаў—вайна ахейцаў (грэкаў) проці Троі—з'яўляецца прадметам Іліады. Праўда, Іліада абымае не ўсю траянскую вайну,

а толькі паасобныя з яе эпізоды, якія здарыліся ў працягу 51 дня на дзесятым годзе вайны.

Паміж сучаснасцю і гэтым даволі прымітыўным грамадствам—тры тысячы гадоў гістарычнага развіцця. Сучасная тэхніка, смела можна сказаць, закасавала фантазію гомераўскай міфалогіі. Нашыя самалёты лятаюць хутчэй за звястуноў грэцкіх багоў, сучасныя „робаты“ спраўляюцца спрытней за цудоўныя аўтаматы самога Гефеста, бога будаўнічага і мастака-рамесніка.

Паміж намі настолькі вялікая гістарычная дыстанцыя, што сам эпас у яго класічнай форме не можа быць створан цяпер, калі ў нас выключана ўсякая міфалагізацыя прыроды і грамадства. У часы самалётаў і танкаў, кулямётаў і ядавітых газаў немагчымы Ахіллесы і Гектары.

„Але,—кажа Маркс („Да крытыкі палітычнай эканоміі“)—труднасць заключаецца не ў тым, каб зразумець, што грэцкае мастацтва і эпас звязаны з вядомымі грамадскімі формамі развіцця. Труднасць заключаецца ў разуменні таго, што яны яшчэ прадаўжаюць даставуляць нам мастацкае здаваленне і ў пэўным сэнсе захоўваюць значэнне нормы і недасягаемага ўзору.

Мужчына не можа зрабіцца зноў дзіцем, не становячыся смешным. Але хіба яго не радуе наіўнасць дзіцяці і хіба сам ён не павінен імкнуцца да таго, каб на вышэйшай ступені ўзнаўляць сваю ісцінную сутнасць, і хіба ў дзіцячай натуры ў кожную эпоху не ажывае яе ўласны характар у яго простай („безыскусственной“ праўдзе? І чаму дзяцінства людскога грамадства там, дзе яно развілося найпрыгажэй, не павінна мець для нас вечнага хараства, як ніколі не паўтараючаяся ступень? Бываюць невыхаваныя дзеці і па-старыкоўску разумныя дзеці. Многія са старадаўніх народаў належаць да гэтай катэгорыі. Грэкі былі нармальнымі дзецьмі. Чароўнасць, якую мае для нас іх мастацтва, не стаіць у супярэчнасці з тым неразвітым грамадскім асяроддзем, з якога яно вырасла. Наадварот, яно з'яўляецца яго рэзультатам і неразрыўна звязана з тым, што недаспелыя грамадскія адносіны, сярод якіх яно ўзнікла і толькі і магло ўзнікнуць, ніколі не могуць паўтарыцца зноў“.

І сапраўды, што ў дарослага можа з'яўляцца банальным і нават дурным, у дзіцяці можа быць выяўленнем геніяльнага праблíска мыслі. Таму гомераўскія эпітэты і поўнаю жменяю параскіданыя параўнанні так асабліва чаруюць нас сваёй свежасцю, дзіцячай прастатой і непасрэднасцю. Нам заўсёды здаецца, што *так* было сказана першы раз у жыцці чалавецтва. Ствараецца ўражанне, што мы знаходзімся пры нараджэнні паэзіі і вобразнага слова. Сама перспектыва такой гістарычнай далячыні не можа не прыцягваць нас.

Але, не гледзячы на ўсю сваю далячынь і сваю варварскую прымітыўнасць гомераўскі эпас, асабліва Іліада, знаходзіць жывы рэзананс і ў сучаснага чытача. Не раз захапляліся Маркс і Энгельс „жыццярадаснымі, моцнымі, цэльнымі вобразамі Гомера“, вобразамі герояў і многашумлівага мора, захапляліся ягонаю моваю. Трэба адзначыць, што і Маркс і Энгельс былі вялікімі знатакамі класічнай літаратуры. Не такім яе знатаком быў Леў Талстой, але ў росквіт сваіх творчых сіл, узяўшыся раз за Іліаду, не можа ад яе адарвацца. Дзеля Гомера Талстой вывучае грэцкую мову.

Гомер, падобна Шэкспіру,—паэт барацьбы вялізных страсцей. Людскія аффекты і страсці, хоць і не з'яўляюцца вечнымі, а змяняюцца ў залежнасці ад соцыяльных абставін, маюць здольнасць будзіць эмоцыянальнае пачуцце нават з далечыні трох тысяч гадоў. Гомераўскія багі даўно зрабіліся камічнымі фігурамі. Хоць Гомеру і не думалася зрабіць іх смешнымі, але гнеў Ахілеса, ягоны адчай і палкае жаданне

помсты за забітага друга Патрокла, але гора Прыяма, Гекубы і Андрамахі па забітым Гектары не перастаюць гаварыць да нашага пачуцця, хоць мы свае гора пераносім іначай і праяўляем яго ў іншых формах.

Звязваючай ніццю, на якую нанізаны 24 песні Іліады, з'яўляецца тэма аб гневе Ахіла, аб чым і гаворыцца ў першых радках першай песні пры звароце песняра да музы:

„Муза, спявай мне пра гнеў Ахіллеса, Пелеева сына, гібельны гнеў, прычыніўшы ахейцам бязмернае гора, многа бо душаў адважных герояў паслаў да Аіда, самых жа іх пакідаў на здабычу сабакам і птушкам розным дзярлівым—а ўсенька па божжай Зявесавай волі—з часу таго, як з сабой разышліся ў злосці заўзятай боскі Ахіл і дружын валадар Агамемнон Атрэіч".

Злосць між імі ўзнялася з таго, што Агамемнон, галоўны начальнік ахейскага (грэцкага) войска, адабраў ад Ахіла яго палонніцу, прыгожую Брызэіду. Быстраногі Ахіл (Ахіллес), сын грэцкага князька Пелея і марской багіні Фетыды, галоўны ваяка ў ахейскім ваенным стане пад Трояй, у страшэннай злосці і гневе на начальнага князя адказаўся біцца з траянцамі і разам з другам Патроклам і ўсёю сваёй баёвай дружынай бясчынна праводзіць час пры беразе многашумлівага мора. Карыстаючы з гэтага, траянцы пад камандай свайго героя Гектора, сына Прыяма, б'юць і адганяюць ахейцаў да самага мора, да іхніх выцягнутых на бераг караблёў (лайбаў). Пала цэлая маса адважных герояў. Грэкам пагражае аканчальная катастрофа. Ужо загарэліся караблі. А гнеўны Ахіл не паддаецца просьбам, ні за якія дары, перапросіны ці абяцанкі не згаджаецца ісці ў бой, і толькі ў апошні крытычны момант пасылае ў сваёй зброі—„мілага друга" Патрокла на помач ахейцам.

Ап'янелы баявой удачаю Гектар забівае Ахілава друга і здзірае Ахіллесаву зброю: ледзь удаецца ахейцам адабраць яго цела. Тады Ахіл, страціўшы друга і зброю, кідаецца ў страшэнным дзікім лямантце між жалем, адчаем і палкім жаданнем безжаласнай помсты. Па просьбе Фетыды Гефест яму выкаваў новую зброю цудоўнай работы (апісанне шчыта Ахіллеса ў XVIII песні—гэта цэлая паэма!)

Пачынаецца страшэнная бойка, у якой прымаюць удзел і багі, падзяліўшыся на два варожыя лагеры. Ахіл, як бура, сее кругом страшэннае спусташэнне. Траянцы змушаны ўцякаць і хаваюцца ўсе за гарадскія сцены (канец XXI песні). Толькі Гектар, застаўшыся перад брамаю, стаў і стаяў „зблутаны доляю—мойрай" жадаючы біцца з Ахілам. Але Ахіл не адразу ўгледзіў Гектара і дарма ганяўся за Феб-Апалонам, богам сонца, прыняўшым від траянскага героя Агенора. Калі Агенор паспеў уцячы ужо ў горад, Апалон адкрывае сваё боскае аблічча, жартуючы з Ахіллесам. Далей ідзе паядынак Ахіллеса з Гектарам, смерць апошняга і галашэнне Прыяма, Гекубы і Андрамахі (XXII песня).

## XXII ПЕСНЯ

### СМЕРЦЬ ГЕКТАРА

Так прыляцеўшы у горад, як, тыя алені са страху,
і прысланіўшыся к сценам харошым, ваду папівалі,
смагу зганялі й сушыліся з поту. Тымчасам ахейцы
проста пад сцены ішлі ўжо шчыты да пляча прысланіўшы.
5. Гектара-ж тамака зблутала доля нягодная мойра,
што перад скайскаю брамаю стаў і стаяў, як скаваны.
Тут да Ахіла прамовіў вось так Апалон далястрэльны:
„Што ты, Пелеевіч, гонішся гэтак заўзята за мною,
„сам ты смяротны—за мной несмяротным; хіба“ не пазнаў ты
„хто я такі, і за богам пусціўся няспынна ў здагонку.
10. „Ты і забыўся цяперака ўжо аб траянцах прагнаных,
„што пахаваліся ў горад, а толькі за мною лятаеш;
„але-ж мяне не заб‘еш ты, таму што я бог несмяротны.
І адказаў яму, цяжка ўздыхнуўшы, Ахіл быстраногі:
15. „Ну, й ашукаў ты мяне, далястрэльны, з багоў найшкаднейшы:
„вывеў аж во-дзе у поле ад сцен, бо каб не, то йшчэ шмат хто
„грыз бы зубамі зямельку хутчэй, чымся ў горад уцёк-бы!
„Славу вялікую ты ад мяне адабраў, а траянцаў
„уратаваў, без ніякай баязні пасля расплаціцца.
20. „Ну, і задаў бы за гэта табе, каб мне сілы хапіла!
Гэтак казаў ён і горда панёсся пад гораду сцены,
бодры казаў-бы наўзавадны*) конь, што ў гонных калёсах
лёгка да мэты ляціць, расцягнуўшыся ў лёце струною:
так і Ахіл паварачываў жвава каленкі і ногі.
25. Першы Прыям яго згледзіў сваімі вачмі, хоць старымі,
як ён па полі ляцеў, весь бліскучы, усё-роўна як зорка
тая, што у восені ўсходзіць і ярыцца блескам вялізным
высака з неба між зоркамі многімі ў цёмную ночку—
Псом Орыона яе называюць з прадвечнага веку,
30. а хоць яна найярчэйшая, знакам нядобрым бывае,
многа варожыць няшчасця бо марнаму роду людскому—
так у Ахіла ляцеўшага медзь на грудзях зіхацела.
Ўскрыкнуў старэнькі Прыям, ухапіўся рукамі за голаў,
35. к небу далоні падняў і галосячы дай-жа прасіці
Гектара, мілага сына. А той, перад брамаю стаўшы,
з месца не рухаўся: так зажадалася біцца з Ахілам.
Выцягнуў рукі стары і прамовіў такімі славамі:
„Мілы мой родны мой Гектар, пакінь, не чакай ты Ахіла
„ў полі адзін без другіх, каб цябе не спаткала пагібель

*) наўзавадны—запасны конь.

40. „з рук Ахілеса, бо ён за цябе шмат сільнейшы, страшэнны.
„Ах каб багом неўмірушчым, як мне вось, ён гэтак і быў-бы
„мілы, то скора яго груганы і сабакі бы зьелі і
„спала-б мне з сэрца цяжкая бяда і згрызота:
„колькі сыноў маладых і магутных ён мне абязвечыў,
45. „пазабіваўшы ці на астравы запрадаўшы далёка.
„Вось і цяпер Лікаона няма, ды няма й Полідора,
„іх я не бачу вярнуўшыхся паміж траянцамі ўсімі,
„мілых сыноў, што радзіла жанчына з жанчын Лаофея.
„Але, калі яны ў стане жывыя, то выкупіць зможам,
50. „даўшы і медзі і золата, многа бо гэтага маем,
„многа пасагу мне даў за дачкой стары Альт знамяніты;
„Ну, а калі ўжо памёршы й абое пашлі да Аіда,
„гора і матцы і мне, што радзілі на смерць іх бяздольных.
„Але народу траянскаму меншае гора—было-б,
55. „толькі каб ты не загінуў бы здужаны сілай Ахіла.
„Ну, дык сыночку ты мой, увайдзі за муры ўжо, бо мусіш
„быць абаронцам траян і траянак, каб славы не даці
„сыну Пелея ды мілай душы і жыцця не згубіці.
„Урэшце падумай і злітуйся хоць нада мной над няшчасным
60. „бацькам, якога змушае Зявес на парозе магілы
„вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:
„як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,
„апусташаюць каморы і дзетак маленькіх нявінных
„вобзем кідаюць і б'юць, азвярэўшай у лютым змаганні,
65. „бачыць, як цягнуць сыноў маіх дзікія воі ахеян.
„Сам я апошні паду, і мяне на парозе сабакі
„жадныя там разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю
тне ці прапора мяне, з суставаў мне выжане духа;
„тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх,
70. „піць маю кроў яны будуць, а после, напіўшыся, лягуць
„з сумнай душою у сенях. Прыгожа ляжаць маладому
„нават забітаму востраю меддзю ў баі-ваяванні:
„хораша ўсё у яго, на што толькі вачмі не паглянеш;
„але сівую калі галаву, бараду й срамаценне
75. „ў мужа забітага злыя сабакі, крамсаюць і бэсцяць,
„то ўжо за гэтае г о р а й і ў марных людзей не бывае".
Гэтак стары гаварыў і, схапіўшы рукамі за голаў,
рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначыў.
80. Маці і тая таксама давай галасіць—прымаўляці,
грудзі яна расхіснула, рукою і ўзяўшы адну з іх,
плачучы слёзна казала такія крылатыя словы:
„Гектар, дзіцятка маё! ушануй ты хоць гэта, мей літасць
„хоць нада мной, што грудзьмі ціхамірыла плач твой дзіцячы;
„мілы сыночку, успомні ты гэта й гані Ахілеса
85. „Згэтуль, схаваўшыся ў горад, не йдзі на яго адзінокі,
„бо як заб'е ён шалёны цябе, то не ўдасца й аплакаць
„мілую родную краску на марах ні мне ані жонцы
„дужа пасажнай: ад нас ад абодвух няшчасных далёка
„пры караблях пры ахейскіх з'ядуць цябе злыя сабакі.
90. Гэтак абое яны прамаўлялі да мілага сына
й вельмі прасілі, а не перайначылі Гектара духа:
стойка стаяў і чакаў ён на бой Ахілеса страшнога.
Так як дракон, што ў горнай нары чалавека чакае,
зелля благога нажоршыся, з ярасцю й злосцю страшною,

95. ўецца ў логаве толькі й страшэнна ў бакі паглядае,—
гэтак і Гектар у злосці нястрымнай трымаўся на месцы;
шчыт абапёршы бліскучы аб выступ высокае вежы,
і ўздыхнуўшы прамовіў сабе да душы да адважнай:
„Гора-ж маё! каб схавацца цяпер мне за браму, за сцены,
100. Першы тады Пулідам мяне лаяць і ганіць пачаў-бы,
„бо і казаў-жа ён мне, каб траянцаў у горад увесці
„ў тую праклятую ноч, як Ахіл ваяваці узняўся;
„я не паслухаў тады, а было бы усім куды лепей.
„Ну, а цяпер я шаленствам дурным загубіў увесь горад,
105. „Сорамна мне ад траянцаў і доўгападолых траянак,
„каб не сказаў аба мне і найгоршы які грамадзянін:
„Гектар народ загубіў, на сваю спадзяваўшыся сілу!“
„Гэтак і скажуць. Дык мне куды лепей паспрабаваць будзе
„процістаяць і, Ахіла забіўшы, дахаты вярнуцца,
110. „а калі не, то самому хоць слаўна памерці за горад.—
„А калі-б я, адлажыўшы свой шчыт з выпуклястаю бляхай
„у бок і цяжкі свой шалом, да сцяны прысланіўшы і піку,
„сам падышоў да Ахіла Пелеіча, боскага воя,
„і абяцаў бы яму і Алену і ўсе тыя скарбы,
115. „дужа вялікія, што Аляксандра у лайбах глыбокіх
„разам у Трою прывёз (вось праклятае звады пачатак!),
„выдаць усё для Атрыдаў, а после для ўсіх для ахейцаў
„тое ўсё выдаць багацце, што знойдзецца толькі у Троі?
„Перад усім-жа я ўзяў-бы прысягу ад нашых старшыняў,
120. „каб не хавалі нічога і ўсё аддалі для падзелу,
„усе тыя скарбы, што горад багаты ў сабе заключае.
„Ну, але што гэта выдумаў я ў душы сваёй мілай?
„Не, не пайду да Ахіла, бо літасці мець ён не будзе
„і не ўшануе мяне, а заб‘е яшчэ голым, без зброі,
125. „проста як нейкую бабу, калі сваю зброю пакіну.
„Не да таго мне цяпер, каб пад дубам ці нейкай скалою
„весці з ім гутаркі, так, як дзяўчына з хлапцом прыудалым
„гутаркі весела, міла і ціха вядуць між сабою.
„Лепей мы зойдземся тутака ў бой і адразу пабачым,
130. „славу каму з нас дваіх Олімпіец-Зявес падаруе.
Стоячы так разважаў, а Ахіл падлятаў ужо блізка,
грозны як сам Эніялій з шаломам бліскучым у бітвах;
бацькаўскі ясень на правым плячы патрасаў ён страшэнна,
й медзь зіхацела наўкола, як яркая-яркая яснасць,
135. ці ад палкога агню, ці як быццам ад сонца усходу.
Гектара страх ахапіў, як убачыў: не ўстояў на месцы,
але давай уцякаць, за сабою пакінуўшы браму.
А Ахілес паляцеў уздагонку, з надзеяй на жвавыя ногі.
Там як у горах сакол, найшпарчэйшая з пёрыстых птушак
140. лёгка і жвава пускаецца за галубком палахлівым,—
той уцякае у страсе, а гэты ўжо блізка над ім налятае,
з крыкам прарэзлівым часта кідаецца, хоча забіці,—
Так і Ахіл уганяўся за Гектарам шпарка, а гэны
каля траянскіх муроў уцякаў з усіх ног, што меў сілы.
145. Міма таго кургана і смакоўніцы, ў ветры шумлівай,
воддаль усё ад муроў, па дарозе яжджонай ляцелі
аж да крыніц да прыгожа бруістых, адкуль ручаінкі
дзве выцякаюць і йдуць у Скамандар глыбока вірысты.
Цёплай вадою бруіцца адна, і кругом безупынна

150. пара ідзе ад яе, быццам з вогнішча дым узнікае;
ну, а другая і летам студзёна, як град той зярністы,
ці ўсё-роўна як снег, ці крысталы вады ільдзяныя.
Тамака сажалкі дзве бліз крыніцаў абедзве з камення,
дужа харошыя, хусце куды паласкаць прынасілі
155. жонкі і дочкі траянцаў, прыгожыя вельмі,—
тут паласкалі яны да вайны, да прыхода ахейцаў.
Вось-жа сюдой праляцелі: адзін наўцёкі, другі ўздагонку.
Сільны і жвавы ўцякаў, здаганяў-жа яго йшчэ сільнейшы
ды з усіх сіл. А заспорылі не за валоў на жаротву,
160. і не за скуру, звычайную плату людзям-шпаркалётам,
але ляцелі за Гектара воя душу, за любую.
Як на ігрышчах капытныя коні лятуць каля мэты
шпарка страшэнна, ляжыць бо вялікая дужа награда—
дзеўчына альбо трыножнік (ігрышча-ж у гонар памершым)—
165. тройчы вось так і яны абляцелі Прыямавы горад
ды з усіх сіл сваіх ног. На герояў багі ўсе глядзелі.
Бацька багоў і людзей тады першы ўзяў слова і кажа:
„Ну далібог! гэта-ж бачу ўцякаючы мілага воя
„каля траянскіх муроў. А шкада мне ў сэрцы героя
170. Гектара, шмат бо паліў мне ён тучных быкоў і лапатак,
„ці на ўзвышшы ўзгорыстай Іды ці часта таксама
„у горадзе дужа высокім. Цяпер-жа Ахіл быстраногі
„гоніць яго, як мага каля места старога Прыяма.
„Ну, памазгуйце вы добра, багі, й справядліва наважце,
175. „ці ратаваці ад смерці нам Гектара, ці ўжо можа
„сыну Пелея, Ахілу, пазволім уходаць героя.
І адказала яму светлавока багіня Афіна:
„Што гэта кажаш, пяруністы бацька, Зявес Хмарагонны!
„Ты чалавека смяротнага, што ўжо прысуджаны к смерці,
180. „выбавіць хочаш ад смерці няшчаснай, людзям-жа звычайнай?
„Хочаш—рабі, але іншыя ўсе мы згадзіцца не можам“!
Ей адказаў тады гэтак Зявес Хмарагонны:
„Ну, супакойся, дачушка мая, Трыгогенія! У думках
„злосці не маю й хачу табе быць і ласкавым і мілым:
185. „што табе розум дыктуе, рабі, калі хочаш адразу“.
Гэтак ахвоты паддаў без таго ўжо ахвотнай Афіне,
й мігам яна паляцела з Олімпа высокага гораў.
Гектара-ж гнаў, што мага, Ахілес быстраногі.
Як маладога аленя па горах высокіх сабака
190. гоніць, падняўшы з лагва цераз яры-яругі й даліны;
хоць і схаваецца бедны ў кустах ашалелы са страху,
чутка сабака сачыць і ляціць, аж пакуль не дагоніць,—
гэтак і Гектар схавацца не мог ад Пелеева сына.
Колькі разоў ён не пробаваў скочыць да брамаў дадданскіх,
195. скочыць пад вежы муроў, будаваныя хораша й моцна,
пошыбам каб баранілі яго грамадзяне са сценаў,
колькі разоў Ахілес, папярэдзіўшы, зноў заварочваў
бегчы ў поле, а сам безупынна трымаўся ад сценаў.
Так як у сне чалавек чалавека не можа здагнаці—
200. той надармо ўцячы, а другі надагнаць налягае—
гэтак і тут: ані той не ўцячэ, ані той не дагоніць.
Ведама, Гектар ад смерці зусім уцякаці не мог бы,
каб не памогшы, апошні ўжо раз, Апалон далястрэльны,
зблізку яму паддаваўшы і сілы і жвавасці ў ногі.

205. Боскі Ахіл да народу свайго паматаў галавою,
не дазваляючы ў Гектара горкія стрэлы пускаці:
славы каб хто не забраўшы, а ён каб другім не явіўся.
Але ў чацвёрты ўжо раз, як да гэтых крыніц прыляцелі,
бацька Зявес рыхтаваў тады, узяўшы, вагу залатую:
210. перш узлажыў ён два лёсы пагібельнай смертухны-керы
лёс Ахілеса героя і Гектара, слаўнага воя,
после падняў пасярэдзіне: Гектара лёс апусціўся,
уніз да Аіда панікнуў, тады й Апалон яго кінуў.
Да Ахілеса-ж затым падыйшла светлавока Афіна,
215. блізенька стала й казала такія крылатыя словы:
„Ну, спадзяюся, цяперака, боскі бліскучы Ахіле,
„славу вялікую мы прынясём да ахейскіх, да лайбаў:
„здужаем Гектара, што ў бітве быў такі ненасытны.
„Але цяпер не ўцячэ, пападзецца ў нашыя рукі,
220. „хоць найшчырэй сабе будзе прасіць Апалон далястрэльны
„і расцягнуўшыся перад Зявесам эгідадзяржаўным.
„Ты затрымайся крыху адпачні, а я Гектара воя
„пераканаю тым часам, каб спрабаваў біцца з табою.
Гэтак сказала; а ён яе слухаў, і радасны вельмі
225. Стаў, абапёрся на ясень свой меднаканечны
Так і пакінула і паляцела да Гектара жыва,
у постаці й з голасам мілага брата яго Дэіфоба;
блізенька стала ды й кажа такія крылатыя словы:
„Міленькі, страшна прыстаў да цябе Ахілес быстраногі,
230. „гонячы так без канца каля слаўнага места Прыяма.
„Але давай затрымаем й разам яму процістанем.
Ей адказаў тады Гектар вялізны, з хвастатым шаломам:
„Ты мне і перш, Дэіфобе, мілейшы быў шмат за ўсіх іншых
„родных братоў, што радзілі наш бацька Прыяма і Гекуба,
235. „але цяпер яшчэ больш паважаць і любіць цябе буду,
„што ты адважыўся дзеля мяне, як бяду толькі ўгледзіў,
„выйсці з-за сцен ды тады, калі ўсе пасяшылі схавацца.
І адказала яму светлавока багіня Афіна:
„Міленькі, бацька старэнькі і маці шаноўная наша
240. „ногі абняўшы, прасілі застацца. Таксама й дружына
„нашая ўся, бо ў страсе страшэнным усе там у месце,
„але я грызся ў сэрцы сваім па табе немагчыма.
„Ну, дык цяперака кінемся разам у бой мы, як бура,
„і шкадаваць сваіх пікаў не будзем: урэшце пабачым
245. „ці Ахілес нас заб'е і, крывавую зброю садраўшы,
„да караблёў занясе, ці яго твая здужае піка.
Гэтак ліслівa казала Афіна й вяла да Ахіла.
А калі блізка былі ўжо адзін да другога героі,
першы прамовіў з іх Гектар вялізны, з хвастатым шаломам:
250. „Ну, Ахілесе, уцякаці больш ад цябе я не буду,
„хоць тры разы абляцеў я наўкола Прыямава места
„й процістаяць не паспеў. А цяпер наказала мне сэрца
„стаць і схапіцца з табой: вазьму верх або сам ужо згіну.
„Умовімся й возьмем багоў мы ў сведкі—багі бо шчасліўцы
255. „сведкі на ўсё найляпейшыя й добра прысягу пільнуюць:
„цела твайго я не буду бясчэсціць, як дасць мне
„Зеўс перамогу й дазволіць душу табе мілую вырваць;
„толькі злуплю я з цябе, Ахілесе, харошую зброю,
„труп-жа ахейцам аддам; гэтаксама і ты—пакляніся!

260. Грозна зірнуў на яго Ахілес спадылба ды і кажа:
„Не гарадзі ты мне, Гектар пракляты, аб нейкіх умовах!
„Як між людзьмі і ільвамі клятвы не бывае ніколі,
„як між ваўкамі й ягнятамі згоды ніколі не будзе,
„бо заўсягды яны ліха жадаюць адзін для другога,
265. „так паміж мной і табой ні любві, ні ўмоваў не будзе,
„перш, чым адзін з нас паваленый чорнай крывёй не напоіць
„непераможнага й жаднага бога-ваяку Арэя.
„Выклікай храбрасць сваю, бо цяпер табе вельмі прыдасца
„быць пікамётам удалым і дужа адважным ваякай.
270. „Годзе, папаўся і не ўцячэш, бо Палада-Афіна
„пікай паложыць маёй, і цяпер ты, нягоднік, заплаціш
„мне за ўсе крыўды таварышаў, што перабіў іх немала".
Кажучы так, замахнуўся і кінуў даўжэзную піку.
Гектар, пабачыўшы загадзя, здолеў з-пад пікі ўхіліцца:
275. уперад падаўся, прысеўшы, дык піка над ім праляцела
й стылу улезла ў зямлю. Але вырвала зразу Афіна,
й зноў падала Ахілесу так тайна, што Гектар не бачыў.
Гектар і кажа тады да Ахіла да слаўнага воя:
„Хібіў! дарма, Ахілесе, хоць роўна з багамі хваліўся,
280. „што ад Зевеса ты ведаеш долю маю нешчасліву.
„Але-ж ты так сабе толькі наплёў, не шкадуючы словаў,
„Каб запалохаць мяне, каб ад страху я страціў адвагу.
„Не палячу я наўцёкі, не ўдарыш мне пікай у плечы,
„хіба што проста мне грудзі прапораш, калі перамогу
285. „бог дасць табе. Толькі й гэтай во пікі цяпер сцеражыся,
„што пасылаю табе, каб у белае цела ўпілася
„Шмат-жа лягчэйшай была-бы вайна для траян-абаронцаў,
„толькі цябе каб не стала, з цябе-ж найвялікшая гібель".
Гэтак сказаў, замахнуўся сваёй даўгаценнаю пікай
290. у шчыту Ахілесу папаў, у сярэдзіну—не прамахнуўся.
Піку далёка адбіла шчытом. Замаркоціўся Гектар,
што надармо з сваіх рук толькі выпусціў медную піку,
стаў і стаіць, галаву апусціўшы, другой бо не меў ён.
Хоча паклікаць свайго белашчытнага брата Дэйфоба
295. вострую піку падаць, а таго анідзе не відаць-бо.
Тутака Гектар адразу усё зразумеў і прамовіў:
„Гора-ж мне беднаму! клічуць мяне ўжо багі паміраці!
„Думаў жа-ж я, што пры мне Дэіфоб паявіўся адважны,
„не—у мурах ён сядзіць, а мяне ашукала Афіна.
300. Блізка цяперака смерць ад мяне і ніяк не ўцяку я,
„не ўратуюся. Мілы калісьці быў я і Зявесу
„і далястрэльнаму сыну Зявеса, мяне ратавалі
„часта ад бедаў яны, а цяпер надыйшла злая доля.
„Толькі-ж, калі прападаць, то не згіну нягодна, бясслаўна,
305. „а дакажу я такое, што помніці будуць патомкі.
Гэтак гаворачы, выхапіў меч развастрэнны свой медны,
з левага боку вісеўшы, страшэнна вялізны, магутны,
і з усіх сіл ірвануўся, казаў-бы арол паднябесны,
што цераз цёмныя хмары спадае ўдол на раўніны,
310. каб ці слабое ягнё ці пужлівага зайца задзерці,—
гэтак во рынуўся й Гектар, махаючы вострым булатам.
Кінуўся і Ахілес, і напоўніўся дух яго гневам,
гневам дзікім, засланіў свае грудзі шчытом размайстроўным,
дужа харошым, шалом-жа чатыраграбенны ківаўся

315. на галаве і блішчэў, развяваліся з золата грывы,
што насадзіў іх Гефест пры чубе і прыгожа і густа;
вось, як вячэрняя зорка, што ярыцца й свеціць у змроку
найхарашэй, найярчэй за ўсе іншыя зорачкі ў небе,
гэтак блішчэла і гэная вострая піка, якою
320. у правай руцэ патрасаў Ахілес, замышляючы блага
Гектару й меціўся трапіць у самае кволае месца.
Цела героева ўсё закрывала харошая зброя,—
Зброя, якую злупіў ён, забіўшы ў поле Патрокла,—
тамака толькі, дзе шыю ключыцы з плячмі спалучаюць,
325. горла відаць было, там—для душы найхутчэйшая гібель.
Тутака пікай і трапіў якраз Ахілес наляцеўшы,
й проста скрозь белую шыю прайшло смерцяноснае жала.
А гарляка гастрыё тое меднае йшчэ не прабіла,
каб паміраючы мог бы сказаць колькі словаў апошніх.
330. Грымнуўся вобзем герой, і ўсклікнуў Ахіл быстраногі:
„Як-жа ты, Гектар, забіўшы Патрокла, йшчэ мог спадзявацца
цэлым застацца й мяне не баяўся, хоць быў я далёка?
Эх, ты, дурны! А вось я за цябе куды лепшы, імсціцель
друга свайго, заставаўся і доўга пры лайбах глыбокіх,
335. а падкасіў табе ногі. Цяпер груганы і сабакі
будуць цябе валачы, а яго ушануюць ахейцы.
Гектар-жа ледзь толькі дыхаў і так адказаў Ахілесу:
„Ах, на душу і бацькоў тваіх родных цябе заклінаю,
„не аддавай ты сабакам мяне пры ахейскіх, пры лайбах!
340. „Медзі і шчырага золата трэбуй, ну—колькі захочаш,
„бацька і мілая маці дароў нададуць нязлічоных,
„толькі аддай маё цела назад, каб траянцы й траянкі
„чэсць аддалі мне апошнюю і на агонь узлажылі.
Грозна Ахіл узглянуў на яго спадылба ды і кажа:
345. „Не абымай маіх ног ты, сабака, й не клянчы бацькамі!
„Каб не было мне праціўна, то сам я цябе парубаўшы,
„еў бы жыўцом тваё мяса, за тое што мне натвapыў ты!
„Абараніці тваю галаву ад сабак не удасца,
„Не—анікому! Няхай сабе хто хоць і дзесяць і дваццаць
350. раз мне дароў прынясе, няхай столькі яшчэ абяцае,
„золата хоцьбы даваў мне Прыям, колькі сам ты важыш,
„то і тады не згаджуся. І так твая родная маці
„плакаць не будзе па сыне на марах хаўтурных ляжачым,
„паразздзіраюць цябе без астатка сабакі і птушкі!
355. І адказаў паміраючы Гектар з хвастатым шаломам:
„Знаючы добра цябе, то не трэба было і прасіцца,
„бо у грудзях сваіх маеш жалезнае сэрца, Ахіле.
„Але глядзі, каб табе я не стаўся прычынаю гнева
„бога якога, як прыдзе той дзень, калі Феб Аполон і з Парысам,
360. „хоць ты і дужы, загубяць цябе каля скайскае брамы.
Так гаварыўшага Гектара смерць абымала.
Хутка пакінула цела душа і зышла да Аіда,
свой праклінаючы лёс, пакідала бо сілу й юнацтва.
А да яго паміраўшага так Ахілес прамаўляе:
365. „Сам ты здыхай! А мяне то тады толькі смерць напаткае,
„як зажадае Зявес і ўсе іншы багі неўміручы".
Кажучы гэтак, рвануў сваю медную піку ён з цела
й кінуў далёка, а з плеч акрываўлену зброю
хутка сцягнуў. Падляцелі іншыя воі ахейцы

370. і дзіваваліся, гледзячы на хараство і на веліч
Гектара. І не пакінулі цэлага месца на целе,
пераглядаліся паміж сабою і так гаварылі:
„Ну вось цяпер, як пашчупаеш Гектара, шмат ён мякчэйшы
чым быў тады, як агнём пазапаліваў нашыя лайбы".
375. Так прымаўляючы, ранілі пікамі Гектара цела.
А калі зброю сцягнуў з яго боскі Ахіл быстраногі,
стаў між ахейцамі й кажа такія крылатыя словы:
„Мілыя другі, аргейскія раднікі і ваяводы!
„Што-ж, як багі нам далі супакоіці воя такога,
380. „Зла прычыніўшага больш, як усе астальныя,
„то ці не спробаваць збройна пайсці нам цяпер во на горад,
„каб такім чынам спазнаць, адгадаці траянскія планы:
„ці пасля Гектара смерці ўжо замак высокі пакінуць,
„ці і без Гектара думаюць там удзяржацца і біцца.
385. Але на што мне падобныя думкі падказвае сэрца:
„непахаваны-ж ляжыць, неаплаканы прад караблямі
„мілы Патрокл, а яго-ж не пакіну ніколі, пакуль я
„паміж жывымі хаджу, аж пакуль мяне носяць калені.
„Хоць аб памершых не помняць, зышоўшы ў бяздонне Аіда,
390. „я буду помніць і там наймілейшага друга.
„Песню цяпер перамогі спявайце, ахейскія хлопцы!
„Пойдзем да лайбаў глыбокіх, яго-ж за сабою пацягнем.
„Славу вялізную маем мы, боскага Гектара ўбіўшы,
„воя, каторым траянцы хваліліся, проста як богам.
395. Кажучы гэтак, на Гектара выдумаў справу благую:
жылы узяў пракалоў на абедзвюх нагах яго стылу
з пят аж да костачкі, і рамяні пранізаўшы бычыны,
цела к вазу прывязаў, галаву-ж валачыся пакінуў.
На калясніцу ўсаскочыў і, слаўную зброю падняўшы,
400. коней бічом сцебануў, а яны паляцелі ахвотна.
Хмараю пыл падымаўся над цягнутым целам.
І галава, так прыгожая перш, цяпер білася ў пыле,
чорнымі кудрамі след замятаючы, бацька Зявес бо
ворагам выдаў яе на наругу у роднай зямельцы.
405. Так галава зневажалася ў пыле. Пабачыла маці,
дай сабе рваць валасы і, багатую кінуўшы хустку
проч ад сабе, галасіла і плакала страшна па сыне.
Загаласіў мілы бацька Прыям, галасіла й дружына,
плакалі і галасілі у горадзе ўсе грамадзяне.
410. І выдавалася быццам ахоплены ўсенькі пажарам
быў Іліён і агонь знішчажаў весь узгорысты горад.
Сілай трымаць прыходзілася з гора шалеўшага бацьку:
так вырываўся ён з гораду выйсці ў дарданскую браму.
У пыле б'ючыся, стары упрашаў злітавацца
415. й гэтак казаў, называючы іменем кожнага мужа:
„Хоць і шкадуеце, другі, мяне, ды ўсё-ж роўна пусціце
„З горада выйсці, пайсці аднаму да ахейскіх, да лайбаў.
„Гэнага жорсткага волата буду прасіць-умаляці:
„можа гады ён мае ушануе і жаль яму будзе
420. „бацькі старога; бо то-ж і яго чалавек спарадзіўшы,
„бацька Пелей, што яго ўзгадаваў на пагібель для Троі
„ўсёй,—але мне прычыніў Ахілес найвялікшае гора:
„столькі цвітучых сыноў бо маіх ён забіў, абязвечыў.
„А не грызуся я столькі за ўсіх, што за гэтага сына

425. „за аднаго: перажыць не змагу я так горкага гора,
„гора па Гектары. Хоць на маіх ён руках паміраў-бы!
„Мы хоць ваплакалі-б, пагаласілі-б над сынам:
„маці бяздольна радзіўшая й сам я таксама няшчасны.
Гэтак гаворачы, плакаў, за ім-жа усе грамадзяне.
430. А між траянак мацней за усіх галасіла Гекуба:
„Мілы сыночку! На што-ж мне і жыці на горкае гора
„после цябе! Усе дні і ўсе ночы ты быў пастаянна
„славай у горадзе мне і надзеяй вялікаю Троі,
„ўсіх—і траян і траянак, якія цябе так, як бога,
435. ўсе сустрачалі, бо ты пакрываў іх вялізнаю славай,
„будучы жыў, а цяпер са смяротнаю доляй сустрэўся.
Так галасіла, а жонка яшчэ аб няшчасці не чула,
верны вястун бо яшчэ не прыбыў расказаці ёй праўду,
што за варотамі муж яе ў полі забіты застаўся.
440. Хустку у цераме самым далёкім тады яна ткала:
Хустка двайная чырвоная, ўся у пярыстыя кветкі
Йшчэ загадала прыгожавалосым прыслужкам у доме,
каб пад трыножнік вялізны агонь падлажылі-б, каб Гектар
ванну гарачую меў бы вярнуўшыся з бою-змагання.
445. Бедная, так і не ведала, як-жа далёка ад ванны
мужа змагла сінявока Афіна рукамі Ахіла.
Але пачула во крык, галашэнне і лямант на вежы.
Аж здрыганулася ўся, і чаўнок на зямлю пакаціўся.
Ўскочыла й кажа адразу да служак прыгожавалосых:
450. „Зараз абедзве за мною! пабачым, там сталася нешта.
„Крык паважанай свякрові чуваць, а ў грудзях маіх сэрца
„б'ецца, казаў-бы, што вырвецца вон; пада мною каленкі
„Як-бы падбітыя. Блізкае гора ад дому Прыяма!
„Каб мае вушы не чулі лепш гэтакай весткі! Баюся,
455. „страшна, каб боскі Ахіл ды бесстрашнага Гектара-воя
„ад гарадскіх не адрэзаў муроў, аднаго не пагнаў-бы
„ў поле і не загубіў-бы ягонай неўстрымнай адвагі.
„Гектар ніколі бо не застаецца ў натоўпе ваякаў,
„першы наперад ідзе і ў геройстве не ўступіць нікому.
460. Кажучы так, як шалёная, з біўшымся сэрцам з трывогі
скочыла з цераму; разам за ёй-жа ляцелі і служкі.
А як на вежу ўзышла й праляцела праз гушчу народа,
стала, кругом па мурах азірнулася й мужа пазнала,
як валаклі яго быстрыя коні бязлітасна ў полі
465. проч ад траянскіх муроў да глыбокіх, да лайбаў ахейскіх.
Ўгледзела—й цёмнаю ночкай закрыліся ясныя вочы,
ўпала яна дагары і адразу самлела.
Пала далёка з яе галавы і бліскучая повязь,
паў і вянок, і харошая сетка, сплятаныя стужкі,
470. й хустка цудоўная, дар залатой Афродыты багіні,
дар дараваны ў той дзень, калі браў яе Гектар ваяка
з дому Гетыона, даўшы за жонку нязлічаны выкуп.
Каля яе, абступіўшы, стаялі залвіцы й нявесткі
і між сабою трымалі прыбітую жудасным горам.
475. А як прышла да сябе, й скалыхнуліся грудзі дыханнем,
так галасіла і плакала паміж траян Андрамаха:
„Горкае гора мне, Гектар! Для долі няшчаснай абое
мы нарадзіліся: ты у Прыямавым доме у Троі,
я-ж там у Фівах пад Плакам, лілістай гарою

480. ў доме Гетыона, што гадаваў мяне бедную змалку,
сам ён смяротны, бяздольную. Лепей было-б не радзіцца!
Ты ўжо адходзіш цяпер ад мяне у бяздонне к Аіду
і пакідаеш мяне у страшэнным у жалі, у горы
тут удавою ў пакоях. Яшчэ і сынок наш маленькі,
485. мы і яго нарадзілі на гора. Ні ты абаронай
сыну не будзеш, забіты, ні ён-жа тваёю надзеяй.
Каб і застаўся жывы ад вайны многаслёзнай, ахейскай,
то заўсягды яго гора і праца, і клопат чакаюць.
Межы суседзі яму зааруць, яго нівы захопяць.
490. У дзень бо сіроцтва свайго і прыяцеляў траціць сірота.
Ходзіць з апушчанай ён галавой, абціраючы слёзы.
А як падойдзе ў патрэбе к якому з дружыннікаў бацькі
і дакранецца плашча або нечыяй тунікі з просьбай,
сжаліцца іншы і крышачку чару прыхіліць малому,
495. так што ён губы намочыць, а смагі зусім не прагоніць;
іншы багаты, шчаслівы яго ад бяседы й прагоніць,
ўдарыць рукою ды йшчэ наругацісь словамі будзе:
„Вон убірайся! Не твой гэта бацька бяседуе з намі!
„Плачучы пойдзе да маці няшчаснай гаротны хлапчына
500. „Астыанакс, што калісь на каленях у мілага бацькі
„еў толькі шпік і салодкае тучнае мяса авечак;
„а калі спаць захацеў, замарыўшыся ў гульнях дзіцячых,
„то засыпаў у абдымках карміцелькі мілай салодка
„ў мяккай пасцельцы, а сэрцам шчаслівы, цвітучы, як кветка.
505. „Ну, а цяпер-жа нацерпіцца гора, не маючы бацькі,
„Астыанакс—Градаброн: так хлапца празывалі траянцы,
„бо ты адзін бараніў у іх горад, муры і вароты.
„Бедны! Цяпер ад радзімых далёка пры лайбах варожых
„сточаць цябе чарвякі, як сабакі насыцяцца целам;
510. „голага сточаць, калі у пакоях ляжыць ды не мала
„тонкай харошай адзежы, рукамі жанчын панатканай.
„Але-ж цяпер загадаю я кінуць то ўсё ў вагонь у гаручы,
„бо не патрэбна табе і ляжаці ў ёй ты не будзеш,
„хай-жа згарыць тут на славу тваю між траян і траянак!
515. Кажучы так, галасіла, а з ёй галасілі жанчыны.

Пераклаў з грэцкае мовы
**Браніслаў Тарашкевіч**

**Сяргей Знаёмы**

# ТАРАС НАРУМ

**(Навэла)**

Улетку каля варот адноўленай гуты можна часта напаткаць сівога дзеда. Ён прыходзіць сюды і падоўгу сядзіць часам адзін, а часам разважаючы з кім-небудзь.

А навокал стары абымшэлы лес. І шуміць ён, як тады, у тую дваццатую вясну. Толькі цяпер гэты шум здаецца больш ветлівым і спакойным. Ранейшага спуду і перапалоху няма. Цяпер кожны ліст ветлівасцю агорнуты і здалёк вітае цябе вясёлым шэптам. А тады—да кожнага шэпта прыслухайся, да кожнага дрэва і куста прыглядзься. Мала што бывае, здараецца. У ворага вока відучае, востры штык, куля ў патронніку і граната нагатове...

А атрад амаль з голымі рукамі. Колькі тых людзей. А трэба ворага скасіць, перамагчы. Вось і сочаць хлапцы лесам і ўзлескамі. Цікуюць панскіх абаронцаў. Але лес цёмны і вялікі і жаўнеры шырокім гасцінцам цэлымі раздзеламі ідуць. Толькі атраду пашанцавала. Заўсёдашні вартаўнік Тарас Нарум здалёк яшчэ заўважыў слаба ўзброены белапанскі абоз. Тры бесклапотных жаўнеры, седзячы на апошнім возе, з задаваленнем практыкаваліся на дудзе. На пярэднім возе чацверты паплечнік, стомлены доўгай дарогай, соладка спаў. Яшчэ здалёк Тарас узважыў усё спрактыкаваным вокам і хутка паведаміў начальніку атрада. Шэсць вінтовак прытуліліся за дрэвамі. І яшчэ пяцёра без стрэльбаў, са старымі нямецкімі кінжаламі ў руках, схаваліся воддаль.

Напад быў удалым. Абеззброеныя і агорнутыя жахам жаўнеры вельмі прасіліся пакінуць іх жывымі. Начальнік атрада—стары гутняк Сенька Гарбак загадаў павязаць жаўнераў і, пасадзіўшы іх на вызвалены ад паклажы воз, звярнуўся да падводчыка:

— Ты не хочаш да нас у атрад, ну дык вязі іх да чортавай матары, аж у самую Варшаву.

І той павёз.

Рэшта падводчыкаў павярнула ў гушчар.

Партызаны ішлі следам і вельмі радаваліся і новай зброяй і багатаму харчу, і новаму папаўненню. І яшчэ радаваліся яны старой і пацёртай дудзе. Яе нёс, трымаючы левай рукой пішчык, Тарас Нарум.

Калі атрад прыйшоў да вызначанага месца—добра павярнула з поўдня. Распраглі коняй і пачалі палуднаваць. А Тарас усё не выпускаў з рук дуды.

— Што ты, бацька, цацкаеш яе. Ты лепш заграй.

— Пачакай, сынку, уцямлю строй, тады і заграю.

Папалуднаваўшы Горбак прылёг пад яліною і ціха зацягнуў „Каліціну“. Ён заўсёды спяваў гэтую песню і ў атрадзе яна вельмі спада-

балася ўсім. Вось і цяпер ён спявае, а іншыя незаўважна слухаюць, каб потым самім спяваць. Толькі Тарас Нарум узяў пад паху дуду і, надзьмуўшы пацёрты мех, пачаў выводзіць гукі песні. У пачатку атраднікі жартавалі, кпілі над старым, нехта празваў яго нават „палкавым музыкантам“, але праз колькі часу, калі ў старога Нарума пачало нешта выходзіць, усе змоўклі і ўважна прыслухаліся...

Прайшло некалькі дзён і раптам вельмі занедужаў падстрэлены ў часе нападу Саўчанка—качагар гуты. Пад вечар ён страціў прытомнасць, а ўначы памёр. На другі дзень яго хавалі а поўдні. Цёплы і ціхі быў тады дзень. Здавалася хвоі не гаманілі і прыціхлі шэпты лістоў. Яго неслі ў сплеценай з лазы труне і прыкрылі зверху кляновым лістам. Яго неслі ціха і стары сівы Тарас Нарум на дудзе з пацёртым мехам граў „Інтэрнацыянал“. Было ціха і цёпла, яснае сонца залівала зямлю і баравую коўдру святлом.

А пад вечар зэхмарыла і вартавыя данеслі, што па гасцінцу вельмі густа пачынае ісці войска.

— Няўжо адступаюць?—зірнуўшы навокал ні то проста сказаў, ні то запытаўся Гарбак.

— Трэба даведацца,—памаўчаўшы дадаў ён.

— І, ды яшчэ як,—сказаў Нарумаў сын, выдувальшчык.

Гарбак абвёў поглядам навакол. І яму ясна стала, што ўсе чакалі яго загаду і каму ён—Сенька Гарбак скажа, той і пойдзе. Пойдзе без ніякай затрымкі без лішняга слова. Тады ён яшчэ раз абвёў усіх позіркам, як-бы выбіраючы каго. Але раптам зачапіўся вачыма за дуду і сказаў:

— Бацька Тарас, давядзецца вам пайсці ў выведку.

... Стары нічога не адказаў. Ен крэкнуў, паправіў на галаве шапку, і, закінуўшы за плечы торбу з дудой, пайшоў нацянькі да горада. Сын зірнуў на шырокія бацькаўскія плечы і падаўся пад елку. Яму трэба было ісці ў начную варту, а таму цэлу неабходны быў спачын.

Ноч набліжалася мерна і цемень густою хусткаю ахінала стары лес. Задуменны Гарбак сядзеў на пні і цярушыў недакурак, цмяныя і дробныя іскры адна за аднэй падалі на мох. Цемень гусцела і неба хмарылася. Дзе-ні-дзе палахліва зашасталі асіны і пачынаў шумець абымшэлы бор. Потым пала на зямлю некалькі дажджавых кропель. Гарбак разбудзіў маладога Нарума...

... Днелася. Лес прыціх і хмары расплыліся ў розныя бакі. Лес паціху цягнуў заўсягдашнюю глыбокую і дзіўную песню. Атрад спаў, захаваны ляснымі нетрамі і разложыстым логавам. Пераліваўся дзіўны шчэбет ляснога птаства і віднелася над зямлёй.

— Гарбак,—тарганууў, прыбегшы, вартавы начальніка за нагу.

— Што?!

— Полем да лесу ідуць трое.

— Далёка яны?

— Не асабліва.

Адзін за адным начальнік і вартавы праз гушчар кінуліся на ўскрай лесу. Дзяжурны па атраду насцярожана прыслухаўся. Праз лес яму было відаць, як займаецца золак, ад таго чырванее ўсход. Прайшло колькі хвілін і Гарбак звярнуўся. Відаць было, што ён бег. Спацелы і змораны ён паднімаў атрад. І вось атрад на нагах. Кароткае тлумачэнне і два невялікіх ланцужкі, на момант раз'яднаўшыся, зніклі ў гушчары.

А полем, кустамі і латокамі пад штыкамі двух жаўнераў, не спяшаючы, ішоў Тарас Нарум.

А поўначы, калі ён мінаў загуменне нейкага хутара, з-за тока выткнуліся два жаўнеры. Яны запыталіся дзеда, хто ён і адкуль. Паказ-

ваючы на мяшок за плячыма, Тарас сказаў, што ён вандроўнік дудар і, каб упэўніць жаўнераў, пачаў даставаць дуду. Але яны перапынілі яго.

— Ты дарогу да горада ведаеш, стары?—запытаўся адзін.

— Ведаю, чаму не ведаць,—адказаў Тарас і прыгледзеўся.

— Адкуль ідзеш?

— Адтуль...з пад Жодзіна. Калі-б было відней, Тарас напэўне заўважыў-бы, што жаўнеры з радасцю пераглянуліся між сабой.

— Ты павядзеш нас, стары ў Жодзіна,—сказаў адзін.

— Я стары і замарыўся,—зазначыў Тарас.

— Ты павядзеш нас, стары, у Жодзіна,—пацвердзіў другі.—І памятай. нашы штыкі вострыя і карабіны набіты.

Тарас павярнуўся і пад штыкамі пашоў паперадзе. Ён мерна ішоў і моўчкі абмяркоўваў план свайго вымушанага звароту. Спачатку яму здалося, што следам за гэтымі двума жаўнерамі сунецца багата войска. Але калі ён асвойтаўся і завідна агледзеўся навакол, то зразумеў, здагадаўся, што гэтыя двое проста адбіліся ад сваёй часткі і зараз імкнуліся як найхутчэй дагнаць яе.

„А што,—меркаваў стары,—каб гэтых жаўнераў ды ў атрад? Хвастанулі-б іх там, а дзве вінтоўкі вельмі спатрэбіліся-б. Ды ад іх можа і пра адступленне толкам даведаліся-б“.

Стары павольна ішоў, перабіраючы адну за аднэй свае думкі. Занімалася зара і жаўнеры прапанавалі перакусіць. Нарум падумаў і зірнуў на лес.

— Можа лепш у лесе перакусілі-б, там небяспечней,—з клапатлівасцю ў голасе зазначае Нарум.

А пра сябе думае: „Мы прысядзем на ўскраі лесу так, каб вартавы бачыў. І калі Гарбак на месцы, ён напэўне падашле хлапцоў, а не наскочыць ніхто на седзячых, значыць, атрада няма, значыць давядзецца весці паноў ажно да самага Жодзіна.

— Так, стары мае рацыю, мы будзем снедаць у лесе,—згаджаецца жаўнер.

Малодшы ідзе поплеч і, трымаючы на плячы вінтоўку, глядзіць на зару, на ўскрай хмурнага неба, ён, здаецца, прыслухоўваецца даляснога шуму і звонкай песні жаўранкаў і думае аб нечым.

Сталейшы жаўнер глядзеў сабе пад ногі, але часта кідаў погляд то на неабсяжны і шумлівы лес, то на старога Нарума. Спрактыкаваны ў жыцці ён недаверліва ставіўся да лясных нетраў і з такой самай недаверлівасцю пазіраў на старога і невыведанага, як і тыя нетры, Нарума.

Ён верыў і не верыў гэтаму вандроўніку-дудару, а таму, не апускаючы рукі, трымаўся за рамень карабіна. Ён прыйшоў у армію не таму, што сам гэтага хацеў, яму загадалі ісці, а, стаўшы пад карабін, без загаду нельга было і кроку зрабіць. Толькі адно дазвалялася без загаду рабіць: абразаць старым яўрэям тупымі кінжаламі барады і пэйсы, гвалтаваць дзяўчат і маладзіц і забіраць у беднага жыхара вёскі ці горада апошняе з хаты. Але і гэты беззагадны дазвол быў сваеадменным загадам. Нездарма-ж пры кожнай паверцы сержант хваліў таго ці іншага салдата, які адцяпаў некалькі сівых барод. Ён слухаў гэта і, крывячы ўхмылку, часам казаў больш надзейным таварышам.

— З нашага сержанта быў-бы добры ксёндз. Ён вельмі шануе веру і Польшчу, але яшчэ лепш пекных паненак.

Таварышы рагаталі і разыходзіліся. Адзін раз за гэтую кпіну ён папаўся на зуб да самога сержанта. Але небяспека была невялікай: давялося два разы пачысціць нужнік. А ўчора паслалі іх двух у флангавы

нагляд, а яны, прыпыніўшыся на хутары, адсталі ад часткі і цяпер нацянькі вымушаны даганяць...

Стары Нарум глядзіць на жаўнераў і левай рукой папраўляе за плячыма дуду. Лес зусім ужо блізка і маладзейшы жаўнер мацае рукою ў кішэні кавалак сала. Вось яны мінулі пры мяжы алешыну і схаваліся ў кустах. Спужалася птушка ды залопала між кустоў. Нарум навастрыў вуха: „Няўжо няма атрада?“—падумаў ён і паказаў на карчаватую хвою.

— Можа тут і адпачнем.

Прыселі. Старэйшы жаўнер зняў баклажку і дастаў хлеб. Ён адламаў кавалак таварышу і другі меншы падаў старому. Нарум дастаў з торбы некалькі печаных бульбін. Лес паціху шумеў і часам падалі з хвоі леташнія шышкі.

І раптам аднекуль з-за кустоў і дрэў выраслі і ланцугом сцялі іх чалавечыя постаці. Гэта было так раптоўна і так нечакана, што малодшы жаўнер ажно здрыгануўся і павольна падняў угору рукі, трымаючы ў адной кавалак хлеба, а ў другой сала. Нарум тым часам зірнуў на другога. Той з перацятым тварам і набітым ротам глядзеў перад сабой; каля боку ляжаў карабін, а з баклажкі, што пала на мох, булькала пракісшае малако. На небасхіле выплывала вялікае чырвонае сонца і таямніча шумеў стары бор.

— Ну вось і прышлі,—з ухмылкай сказаў Тарас Нарум.

Алесь Звонак

## З ЦЫКЛУ „ПЕСНІ БАЛТЫКІ“

### БАЛТЫЙСКАЕ МОРА

Шумяць і бушуюць
Сівыя прасторы
І ветры з бакоў
То адзін, то другі.
Балтыйскае мора,
Балтыйскае мора!
Вялікай радзімы
Маёй берагі!..

Спускаецца вечар
На мачты,
На рэі,
Губляецца ў далях
Істужка зямлі...
Па морскіх прасторах
У дальнія рэйсы
Пад сцягам чырвоным
Плывуць караблі...

Ці сонца іскрыць
Вадзяныя прасторы,
Ці зор мірыяды
Глядзяцца ў глыб,
Балтыйскае мора,
Балтыйскае мора
Шуміць на ўзбярэжжах
Совецкай зямлі!..

Закутыя ў броню
Плывуць на паходзе
І штормы і буры
За імі ўстаюць...
Спакойнасць выходзіць
І мужнасць выходзіць
На верхнюю палубу
З ніжніх кают.

Над роднаю гаванню
Падаюць зоры,
Сівыя туманы
Устаюць па баках...

Балтыйскае мора,
Балтыйскае мора
Вартуе краіны
Вялікі спакой!..

Мо' сёння,
Мо' заўтра
Чыгунныя жорлы
Ізноў заварушаць
Спакой берагоў,
Па морскіх прасторах
Пракоціцца сполах
На сто кілометраў,
На трыста вузлоў...

Не спыняць упэўненасць
Цяжкасць і змора,—
Спакойна і грозна
Плывуць караблі...
Балтыйскае мора,
Балтыйскае мора
Шуміць на ўзбярэжжах
Совецкай зямлі!..

## МЁРТВЫ КАРАБЛЬ

### (БАЛАДА АБ ЭПРОНЕ)

Ля крутых берагоў дарагое айчыны,
Дзе жывыя у гавані сталі у рад,
Назаўсёды пахованы ў морскай пучыне
Нярухомаю глыбаю мёртвы карабль.

Паўз яго прапаўзаюць маўклівыя крабы
І марская трава ля яго не шуршыць,
З паламанымі мачтамі мёртвы карабль,
У зялёных глыбінях спакойна ляжыць...

Над яго галавою праходзяць падзеі,
І шумяць над яго галавою гады,
Ды высока над ім чайкі белыя рэюць,
Закранаючы крыллем паверхню вады...

І штодня праплываюць над ім параходы
І апоўнач спяваюць сірэны над ім...
У лазоравы поўдзень і ў час непагоды
Яму сняцца таемныя сны аб адным:

... Падымаецца ноч і над ім і над светам,
За кармой фасфарыстыя хвалі шуршаць;
Падымаецца ноч... І над ёю ракета
Сыпле пыркі святла з залатога каўша.

І тады над спакоем марскога прыбою
Ноч ірве напалам батарэйны агонь,
Над яго галавою ірвуцца набоі
І сівое прадонне глытае яго...

І магутнага цела жалезная глыба
Асядае на дно у халодны пясок...
І сачыцца вада нявымернае глыбі
У прабіты набоем сталёвы місок...

Час праходзіць пакрыты вялікаю славай
Па гарах, па далінах, па мору й зямлі.
Над совецкаю Балтыкай штормы гуляюць,
На ўсход і на захад плывуць караблі...

І тады надыходзіць такая гадзіна:
Ён збірае адважных, таварыш Крылоў,
Бо яшчэ і яшчэ патрабуе радзіма
Для вялікіх паходаў жывых караблёў.

І тады сярод цемры ў любую пагоду
Разрываюць пражэктары ноч напалам...
Па марскому прастору плывуць параходы
На магілу затопленага карабля...

У вачастых скафандрах з'яўляюцца людзі,
Якар лапай жалезнай хапае пясок.
Ён са дна падымае магутныя грудзі
І вада не сачыцца ў прабіты місок...

І аб гэтым на бераг даносіцца радасць
Па бяскрайніх абшарах марской сінявы:
На паверхню ўздымаецца мёртвы карабль
І становіцца радасна ў шэраг жывых...

## СПАТКАННЕ

### (ПЕСНЯ)

На праспекце на Ліцейным
Каля самага маста
Уперагонкі беглі цені...
Мой міленькі йшоў ды стаў.

Каля самага маста
Супыніўся мой міленькі...
Цераз мост лягла вярста,
Людзі ходзяць памаленьку...

* * *

Я ішла ад малай Охты
Праз Ліцейны ў Летні сад...
Як-жа так, няўжо не мог ты
Абярнуцца раз назад?..

Абярніся раз назад,
Ды махні сваёй рукою,
Пагуляем пойдзем ў сад
Над Фантанкаю ракою!..

* * *

Ля маста яго матроска,
Пад мастом чаўны плывуць...
Любы курыць папяроску
І кідае у Няву.

Паглядае на Няву,
Па Няве бягуць маторкі...
Абыякава яму,
Што мне солана і горка.

* * *

Пачакай-жа, мой нягодны,—
У другі раз вечарком
Я надзену джэмпер модны
Ды з блакітным каўнярком...

Так, з блакітным каўнярком,
З глянцаваным паяском...
Пагуляй тады з другою
Над Фантанкаю ракою!..

* * *

Я ішла ад Малай Охты,
Не дайшла у Летні сад.
Мне было не так і лёгка
Павярнуць хаду назад...

Павярнула—ну дык што-ж?
Дзе-ж такога адшукаць:
Мой матросік—чорны клёш—
Ад поўдня мяне чакаў!..

Ленінград, 1934 г.

Ул. Кандраценя

# ДНЯМІ АСЕННІМІ

(Апавяданне)

Густая цемень асенняй начы недалужна плешча па маленькіх вакенцах канцовае хацінкі і шкло ваконнае ад тых капель дажджавых нагадвае тварык зарумзанага дзіцяці. Спакваля паўзуць уніз восенскія слёзы—брудныя такія, няпрыветна-сцюдзёныя. Скугатлівая ноч утаропіла зрэнкі чорных падслепаватых вачэй у асветленую смалякамі хацінку.

За сталом сядзяць на карачках малыя дзеці ў даўгіх—аж па самыя пяты—зрэбных кашулях, а насупроць іх, на ўслоне маці трымае на руках самага меншага.

Дзеці хапаюць з міскі гарачую бульбу і, апякаючыся, пхаюць яе ў рот. А вочкі—маленькія рухлявыя зайчаняткі—гараць галодным агнём...

— Мамка... хлебка каб крышку...—крывіцца адно малое і пачынае хліпаць.

— Малацка хачу...—безнадзейна падае голас другое...

Жанчына перакідае ў руках неаблупленую яшчэ бульбіну, каб крыху астудзіць яе, і, стрымліваючы слёзы, суцяшае малых.

— Чаго вы, саколікі мае? Супакойцеся. Хай от кароўку купім... А сама-ж добра знае: доўга—хто ведае колькі?—трэба чакаць кароўкі тае...

— А нашу „Вішню“ ваўкі з‘елі?—з трывогай пытае старэйшы хлопчык Васілёк і дапытліва глядзіць на матулю.

— Не ваўкі, дзіцятка, а паны...

— Мама... а паны—ваўкі?..

— Горшыя яшчэ... Яны і татку вашага без пары ў магілу загналі...

Васілёк трэ вочы кулачком. Гэта не слёзы ў яго, гэта там, на комінку, карчы мусіць ярчэй разгарэліся і бліскучае святло закалола неяк... Ці парушынка якая ўляцела... Але дзе бачылі, плакаць каб... Ад дробязі ўсякай... А татка... Добры ён быў такі... На рукі возьме, аж пад самую столь падкіне, рукой шурпатай пагладзіць. Па галоўцы...

— Раскажы пра татку...

— Пасля хіба...

— Не, ты цяпер, мамка... Ты забываеш, калі пасля...

Ды от перабіў якраз Іцка. Ускочыў узнерваваны і такі радасны. Усмешка іскрыцца на вуснах хлапцоўскіх. Добрая ўсмешка, светлая. Такое няма ў бацькі яго, у Абрама старога, сівым мохам паросшага; той сядзіць на табурэціку скураным ды пастуквае малатком: толькі раз махне і сядзіць у падэшве бярозавы тонкі цвічок. І падэшва прыліпае да скуратоў—канём не адарвеш. Скураты пусцяць, а цвікі каб—ніколі.

Спецыяльнасць... Так казаў—Васілёк чуў—сам стараста, выхвальваючыся некаму сваімі ботамі.

— Сілкуецеся?

— Да от-жа... як табе сказаць... Хоць з большага перакусіць. Пазычыла пазаўчора ў Антося бульбы кошык. На адработак... То от і з'елі...

— У многіх так... Пухнуць людзі з голаду...

— Не кажы, ведаю. Хто яго ведае, як быць... На далей як... Далёка-ж яшчэ лецейка тое. Зіма ўперадзе. Галодная, халодная. Аж думаць страшна...

Абмяняўшыся некалькімі скупымі славамі, Іцка сказаў шэптам Вольцы, каб „лайдакі" малыя не падслухалі часам:

— Сходку збіраем... у лазні. Прыходзь. З гораду адзін там... Ад партыі.

Ускорасці пасля адыходу Іцкі, Волька ўсцягнула даўгі парыжэлы ад старасці халат і, асцярожна скрыпнуўшы дзвярыма сянец, неахвотна ступіла ў хлюпатлівую вераснёўскую ноч. Зверху сыпалася драбнюткая сцюдзёная імжака, запаўняючы пустэльную вуліцу вострым смуткам восені...

Дашоўшы да куста калючага ядлоўца, жанчына на хвілінку спынілася, прыслухалася. Штосці нібы плюхнула... Там—ззаду... За чорнай плямай кустоў...

І ўжо мучыла, спакою не давала глухое падазрэнне:

— Мо' асаднік Бжэзоўскі? Мо' кулак Антось крадзецца па гарачых слядах?

... Цішыня... Толькі сваволіць вецер-назола, у кустах забаўляецца нечага... Вольку працінаюць халодныя дрыжыкі. Яна апошні раз азіраецца на патухаючыя квадраты акон і з глеістае дарогі накіроўваецца ў бок, да гарбатае бабулькі-лазні.

Пераступіўшы нізкі трухлявы парог, жанчына акунаецца ў цёплую прытульнасць. Мяккую лагодную. І як добра тут, у будынку, калі за сцяною выхурыць сцюжа!..

У густых воблаках сінявага самасейкавага дыму калышыцца ціхая гудлівая гутарка. Сяляне парассядаліся на круглых знарок паўцяганых бярвеннях. Развважаюць... Абмяркоўваюць. Спакойна, дзелавіта. Больш маўчаць. Зацягваюцца ёлкім гаркавым дымам.

— ... і якое толькі трасцы не выдумаюць на галаву нашу на мужыцкую?..—абураўся кіраўнік падпольнай арганізацыі Мікалай Кузміч, нібы хочучы выкласці рабочаму, таварышу Івану Гарадоцкаму, усё набалеўшае, накіпеўшае на сэрцы.—Камасацыя, шарваркі, падаткі... А для каго яно ўсё?..

— Усселі пан з кулаком і дыхнуць вольна не даюць...

— Ат... што казаць... Паперці-б гадаўё тое, каб і духу не засталося... Ад іх, паганых...

Узапёршыся на нізкую пячурку, у цёмным прадонні якой квола дыміўся чыйсці недакурак, Іван Гарадоцкі пачаў спешна кідаць словы ў раптоўна нахлынуўшую цішу.

Гаварыў... Проста. Зразумела. Шчыра. Хіба нельга пазнаць шчырых слоў?

Волька ўважліва слухала. У галаве гучна звінелі абрыўкі ягонай гаворкі:

— Надыйдзе час... выступаць... Сумесна... Пад кіраўніцтвам...

Гарадоцкі сеяў у сэрцы гэтай жанчыны плённыя зерні пазнання жыццёвае праўды, развейваючы цёмныя здані непаразуменняў, што ахуталі яе свядомасць. Выныралі напаверх калісці нясмела зароджаныя імкненні. Волька асэнсоўвала невядомы дагэтуль складаны механізм

барацьбы класаў і ў яе ўяўленні велічна паўставала ясназорнае нешта... заклікаючае...

— Нельга сядзець склаўшы рукі... Сама сабою перамога не прыйдзе... Яе трэба здабываць нам самім... У змаганні... У агні... У крыві...

Унутры жанчыны нібы полымя шугала Яе твар засціlaўся гарачай маладою чырванню, а трапяткое сэрца ледзь грудзей не разносіла... Паланіла яе ўзнёслая радасць. І як скончыў Гарадоцкі, яна папрасіла слова. Неяк дзіўна і незвыкла палыхалі іскрыстыя вочы чорным пякучым праменнем.

— Правільна сказаў таварыш... У нас забіраюць апошняе... Нас рабуюць сярод белага дня, а мы...

Ей цяжка было гаварыць. Яна хвалявалася, бо першы раз выступала перад такою масаю, але ў яе было многа агню, запалу, шчырасці. І сілы. Новай... народжанай...

— У нашага брата хіба толькі прарвецца слова праклёну... Няма таго, каб разам от, гуртам... А трэба-ж гэтак.

Усім сходам вынеслі тады пастанову згрупаваць сялян ваколічных вёсак для масавай няздачы падаткаў. І ўсе працяліся гэтым цвёрдым рашэннем.

Дамоў вярталася Волька з прыўзнятым настроем.

— Пакажам мы ім,—казаў Іцка, ідучы побач з Волькай—абсякуцца іроды..

Апавяшчалі поўнач пеўні рыплівымі гарластымі крыкамі ды глухім лапаценнем крыл.

З нябачнага неба цярусілася тая-ж асенняя імжака..

* * *

Неласкавае і халоднае ранішняе сонца хуталася ў калматыя аўчыны хмар, што стадамі цяжка сунуліся па смутнай сіняве, спяшаючыся адплыць у шэрую невядомасць...

Збіраліся ехаць на поле сяляне. Ладзілі калёсы, выцягвалі пастромкі і каромыслы на прыгуменне. Аглядалі старыя ламакі-плугі заржавелыя, каб пайсці рыхліць чорствыя грудзі зямлі. Балазе абсохла яна, атужэла.

Ужо рэдка з якога коміна віліся брудныя скруткі дыму, як нечакана-трывожная вестка спалоханай ластаўкай абляцела ўсю вёску:

— Прыехаў валасны секвестратар!

І тыя, што рыхтаваліся ў поле, кінулі мазаць калёсы, паклалі збрую на месца і пайшлі з нервовай дрыготкай ўнутры... На вуліцу. Ішлі, цяжка соўваючы ў пякуча-халодную гразь ногі—каравыя, чорныя, шарбухаватыя.

— Хай будзе, што будзе, але—не даць!

Набліжаўся крытычны момант...

... На ўскраі вёскі нізка прыхілілася да зямлі гарбатае тулава Вольчынай хацінкі, паўз якую бегла дарога ў далёкую воласць—праз палеткі, лясы і балоты.

Прадбачылася, што секвестратар першым чынам наведае Вольку, а таму от і „кашу заварваць“, як жартаваў тады на сходзе Мікалай Кузміч, павінна была яна—вясковая ўдава.

— Ды глядзі, не зблытала каб... Не прамазала...

— Дзе бачыў! Сказана—зроблена.

Сказала так і задумалася. Спахмурнела чагосці... Гэтак вось хмурыцца блакіт неба... Перад дажджом-навальніцай. Як павісне спакой трывожны, старожкі...

Усплылі дні, поўныя балючай роспачы... Волька іх добра памятае... Нібы ўчора тое было...

Прышоў быў Васіль з Луцкае турмы. Узрадвалася. Дзіва-ж то: тры гады не бачыліся. Гаворкі аднае колькі было...

Ды занямог нешта Васіль. У пасцель залёг. Вянуць пачаў, сохнуць. І што дзень міне, то горш. Не да папраўкі ішло, не да лепшага...

Пачынала расцвітаць маладзіца-вясна і цёплым дыханнем сваім будзіла надзеі вялікія ў людзях. Але хіба знаходзіць свой адбітак пышнасць прыроды ў душы чалавека, калі ў таго поўна смутку, чорнае пустэчы...

За вакном бязрупатна чылікалі вераб'і, а ў паўзмрочным чатырохкутніку, на ложку ляжаў Васіль. Пры смерці ўжо... Упаўшыя ссохлыя грудзі ўздымаліся то часта, парывіста, то павольна, ледзь прыметна...

— Жыві,—цяжка дыхаючы, казаў Вольцы.—Дзяцей глядзі... і сябе...

Глыбокі сухі кашаль з гнойным харкавіннем рваў на кавалкі словы, прымушаючы хворага змаўкаць, але той збіраў апошнія сілы і гаварыў далей:

— Ах, Воля, Воля... Грудзі гараць... Разрываюцца... Чаго ты плачаш?.. Дзяцей не палохай... Ты заменіш мяне...

Глыбока расчуленая паклялася тады Волька жыццё аддаць на барацьбу з душагубамі...

І ці адных яе, Вольчыных?.. Колькі бяздомных сірат з жабрачымі торбамі блукае па краіне?..

... Галушкаю ўкаціўся элегантны секвестратар. Для прыліку кінуў сухое прывітанне, і не марудзячы, прыступіў да справы:

— Вам належыць...

— Пачакайце, пане...—перабіла Волька рухавага чыноўніка.—А скуль тых грошай, скажыце, вызычыць? Выкалупаць адкуль? У мяне нават бульбіны беднай няма, не то што грошай...

— Дзяржава павінна спагнаць законна належачае...

— З нас, з гаротнікаў? А Антосю ўнь яшчэ з казны даюць... У яго і сваіх па горла. Дзяржава!..

Аднак чыноўніку некалі было размаўляць. Яго чакаў край непачатай работы грабежніка і, спасылаючыся на жалезныя законы, ён склаў пратакол, і пхнуў Вольцы, каб падпісала.

— Я сама горш за жабрачку якую... Рабіце што хочаце, але нічога не дам!

Секвестратар спанталычыўся. Вочы—вялікія, чырвоныя, як ракі вараныя—ледзь на лоб не вылалізі. Чорнае шчаціннe брывей на пераноссе ссунулася, настырбучылася... Як у вяпрука таго раззлаванага.

—Хамы! Вы вечна агрызаецеся, бурчыце! Вас трэба вучыць, як паважаць Жэч Паспаліту!—прашыпеў праз зубы і ўладарна памкнуўся забіраць падушкі.

— Вон з хаты!.. Каб і нага твая не смярдзела тут!—узгарэлася Волька і вырвала падушку.—Вон, кажу!..

— Цо?.. Цо таке?.. Бунтаваць?!..—наліўся крывёю дэфензіўшчык. Дзе дзявалася фальшывая лагоднасць.

Моцным ударам нагана адкінуў Вольку, загроб на бярэмя падушкі і пацягнуў іх на падводу, што стаяла на вуліцы. За ім услед выскачыла жанчына, расхрыстаная, узнерваваная...

— Ратуйце!..

На вуліцы стаяў анямеўшы ў напружаным чаканні натоўп. Маўклівы, грозны.

І калі пачуўся голасны крык, тады лопнула спружына цярпення...

— Бі, гада!

— Гані яго—сабаку аблупленага!..
— ... зладзюгу паганага!
— Даволі! Нацярпеліся!

Наперад неўзаметку прашіснуўся збялелы стараста Антось. Замахаў рукамі, нібы вятрак той крыллямі. Засіпеў гадзюкай падкалоднай:

— Мужчынкі!.. Браточкі!.. Прошу ўласці...
— Ідзі да д'ябла з уласцю сваёй!
— Запеў!.. Як поп на клірасе...
— Бі сволач!!!

Градам ляцелі з натоўпа цяжкія вострыя камені, камякі гразі—халоднай, ліпкай. Хтосці пляснуў у самы твар секвестратару рэдкай гразёю і той, недалужна растапырыўшы рукі, пад узнёсла-трыумфальны рогат, пацісьнуўся да падводы.

— Браточкі...—праляпатаў пан „староста". У яго голасе ўжо выразна загучэлі ноткі фальшывай ліслівасці.

— Даўно „браточкамі" сталі?—востра ўкалоў нехта з грамады.— Яшчэ ўчора вывеў з хлява апошнюю кароўчыну, а сёння зяпу разяўляеш: брато-о-очкі!.. Падлізнік панскі!

— ... Небось насмакталіся крыві нашае!

Над натоўпам пагрозна ўздымаліся спрацаваныя мускулістыя рукі, сціснутыя кулакі...

Падстрэленым сабакам ускочыў на воз секвестратар, злосна сцебануў порсткага каня і, не азіраючыся, паляцеў да валасці.

— Дарэмна такі не ўзяў паліцыянтаў... Забіць маглі... Добра, што жывым вылузаўся.

... Праз гадзіну абветраныя тэлеграфныя драты разносілі трывогу: крыклівую, не спадзяваную...

* * *

Дзесці над зямлёй цвітуць зоры ў сінім небе. Сіратлівы месяц брыдзе по начы ў вышыні. І марудліва ўзіраецца на зямлю, на ўзбунтаваныя вёскі... На чырвоныя заравы пажараў, што ўсё часцей і часцей рвуць на шмаццё чорную навалу жыццёвай цемры...

А тут...

Скупа асветленае закапцелай лямпай сутарэнне. Душнае паветра з рэзкім пахам гнілля атручвае лёгкія. Нібы ў нейкім вычварным танцы кружыцца галава... Баліць. На двор толькі выйдзеш—і ўваччу мярэжыстасць.

Засумавалі некаторыя бунтары. Зжахнуліся, глянуўшы ў твар здзекам тым крывавым.

Прынеслі ўчора Андрэя Селівончыка ў крывяных ацёках.

Цела, размалёванае цёмна-сінімі рубцамі-пісягамі, распухла, загнаілася.

— А браточкі мае!.. Вот счарнілі чалавека... Майстры...—і ў голасе чуўся боль чалавечы, адчай і туга. І яшчэ—нянавісць вострая, як нож.

Андрэя цяжка было пазнаць. Жоўтая як воск, скура абвісла на твары. Глыбака запалі бясколерныя вочы і пад імі з'явіліся чорныя пухліны.

Андрэй не стагнаў. Увесь боль яго знікаў недзе за мяжою свядомасці. Толькі часам, схамянуўшыся, ён бедаваў па жонцы, па дзецях, што засталася ў вёсцы.

— Адны там... Хто пасее?..—га?.. З голаду паўміраюць... Эх, ты доля наша!.. Мужычая.

— Нічога, Андрэйка!.. суцяшае Волька—старога. Асталіся-ж у вёсцы каторыя... Ну, нашыя. Кінь ты так аб сваіх. Перакідаюцца неяк...

А потым шматзначна:

— Будзе радасць, свабода будзе!

— Не прычакацца мусіць таго...

— Прычакаеш, дзядзька,—умешваецца ў гаворку малады хлапец.—Толькі ў муках нараджаецца шчасце.

— Не магу я... Скрабе за сэрца... А скуль-жа ты будзеш, хлопча?—зацікавіўся Андрэй.

— З Лодзі, з фабрыкі.

— Як-жа яны цябе сюды?..

— Хіба доўга ўмеючы? У іх—мігам. І шыта-крыта. Бадзяўся я па вёсках. Працы шукаў. Дык яны от... Прызнавайся, кажуць, ты совецкі шпік? Не адкараскаешся, як прычэпяцца чаго.

... На допыт выклікаюць па некалькі разоў на дзень.

— Уласовіч Волька!

Трэба было ўставаць і ісці на здзекі. На нечалавечыя катаванні...

— Прэндзэй, прэндзэй!—злуецца жандар і падганяе прыкладам.

Суровы начальнік „Пастарунку Калкоўскага" кожны разробіць метадычны ўступ з даволі значнаю дозаю далікатнасці.

І, зусім не выбіраючы зручнага моманта, накідаецца раптам:

— Хто кіраўнік?

Прыплюшчаныя хітрыя вочы ўпіваюцца ў Вольчыну постаць, бессаромна абмацваюць з ног да галавы. Праціраюць наскрозь вострым холадам.

Жанчыне хочацца сказаць нешта грубае, абразлівае, каб сцерці з тлустага твару заслону фальшы.

Але замест гэтага зрываецца лаканічнае:

— Не ведаю.

Начальнік ляніва выпускае з роту тонкім струменчыкам ватавы дым папяросы...

— Гм... Вы яшчэ зусім маладая. Вы, відаць, забыліся пра сваіх дзяцей? Яны загінуць, калі вы аб іх не патурбуецеся.

— Пан начальнік! У вас такія прыгожыя словы... але за імі хаваецца дзікі звер... Той звер, што губіць гаротных... і дзяцей маіх... Сірат...

— Дзіўна!.. Я першы раз сустракаю такую бязглуздую жанчыну. Але вы ўсё-ж павінны сказаць.

Глухое маўчанне... Напятае, гнятучае...

— Няўжо вас не кліча воля сонца?

— Дарэмна турбуецеся, пане!

— А-а-а... так?!.. Я прымушу адказваць!—пераступіўшы мяжу роўнавагі, крыкнуў дыфензыўшчык. Сарваўся з месца і нервова закрочыў па пакоі.

— Псякрэв, большэвічка!.. Мёртваю загаворыш...

Па яго загаду два здаравенныя жандары, груба схапіўшы безабаронную жанчыну, уштурхнулі яе ў сумежны пакой і ўмомант прывязалі ніцма да кастравых дошчак.

— Двадзесце!—як праз сон пачула жанчына грозны загад і ў тую-ж хвіліну, з лёгкім посвістам расцяўшы паветра, узвіўся бізун, апаліў, гадзюкай уеўся ў цела. Па спіне пацякло штосці вільготнае, цёплае...

Спачатку востра-пякучы боль рваў на кавалкі цела, спачатку жанчына, хваравіта крыўляючы твар, да крыві кусала губы... А потым перад самым тварам закружыліся, затрымцелі лёгкія каляровыя кружочкі—меншыя, большыя, зыбучыя. Перад вачыма рассціліся пухкія малачавыя туманы веснавых паплавоў... Тонка звінелі, рассыпаліся тысячы драбнюткіх аскепкаў патрушчанага шкла... Бяздонная зяпа нябыцця паглынала апошнія пробліскі свядомасці.

... Сярод ночы, калі партыя арыштаваных была пераведзена ў турму—нечакана ўскочыў з ліхтаром наглядчык і крыкнуў:

— Адась Янскі!

Той, каго клікалі—малады лодзінскі тэкстыльшчык—павольна ўзняўся, востра глянуў на цмяны ліхтар у руцэ наглядчыка і паспешна пацісну̃ў усім рукі...

І яшчэ ўпоўголаса прашаптаў:

— Бывайце... Мяне, відаць, у расход...

Андрэй туга сціснуў вусны; на выцвілых вачах выступіла бліскучая муць. І калі забразгаў ключ у дзвярах, сказаў:

— Эх, гады!.. Такога чалавека!?.. Самы цвет!

* * *

А гэтым часам у далёкай глухой вёсцы—адсюль за сотні кіламетраў—руплівы Іцка праводзіў нечарговае паседжанне бюро камсамольскай ячэйкі.

А як заірдзеўся ўсход тае начы чырванню макавай, як запаліўся небакрай дзівосным агнём світання, там за горадам—у полі, у рэдкім змроку суха трэснуў абрывісты залп карабінаў. І жандары паспешна засыпалі вільготным пяском яшчэ глуха стогнучыя ў прадсмяротнай агоніі жывыя целы, нібы баючыся, што смяротнікі гатовы паўстаць з глухое, чорнае ямы...

* * *

Вакенца заплецена тоўстымі прэнтамі жалезных крат. Праз металічныя квадрацікі толькі часам урываецца праменне асенняга сонца.

... Халодная цэмантовая падлога вярнула жанчыне свядомасць, развеяўшы жудасныя кашмары. Прахапіўшыся, яна ўзаперлася локцямі на брудныя шматкі пасцелі.

Падымацца не хацелася. Усё цела ныла густым болем.

Змучаны твар жанчыны раптам прасвятлеў. Яна дрыжачаю рукою асцярожна выцягнула з рызманоў пасцелі скамечаную паперку і ўжо мо' дзесяты раз перачытвала напісанае дробнымі літарамі. То быў ліст з волі.

> „Волька! Не сумуй! І другім скажы, не падаюць хай духам. За вас працуем мы. Расце наш партызанскі атрад—сын бунтарскай Белавежы. Учора вызвалілі арыштаваных, зняўшы па дарозе канвой. Часта бываю ў гарадскім падпольным камітэце.
>
> Дык не сумуйце, любыя таварышы! Мы помнім, добра помнім свае абавязкі!
>
> Нач. партызанскага атрада Іцка“.

Які маленькі кавалачак паперы, а колькі радасці... жыцця!

І ў стукатлівым сэрцы жанчыны ярчэй распалялася прагнасць да змагання.

Турма вучыць любіць і ненавідзець... Добра сказаў нехта. Праўдзіва.

Жанчына закрыла твар рукамі і глыбока ўздыхнула:

— Хутчэй бы туды... Да іх. І—за зброю!

Алесь Кучар

# ПРА МАЛАДУЮ ЛІТАРАТУРУ І МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Гэтая тэма адразу патрабуе азначэння, што такое маладая літаратура, малады пісьменнік і ці павінны мы вылучыць гэтых пісьменнікаў у асобную групу і ставіць самастойныя задачы па рабоце з імі. Ці не правільней будзе творчасць маладых пісьменнікаў разглядаць у агульнай плыні ўсяго літаратурнага развіцця?

Маладых пісьменнікаў і маладую літаратуру мы вылучаем у асобнае кола і самастойна вядзем работу сярод іх таму, што гэта пісьменнікі, якія не аформілі свайго творчага майстэрства, не набылі яшчэ так патрэбнага пісьменніку вялікага запаса культуры, ведаў і таму патрабуюць творчай дапамогі і ўвагі.

Малады пісьменнік—гэта яшчэ канчаткова не аформлены творчы арганізм. Таму іменна мы і называем яго маладым пісьменнікам, што ўся асноўная работа па набыццю высокай пісьменніцкай кваліфікацыі ў яго яшчэ наперадзе.

Сакратар ЦК ВЛКСМ тав. Косарэў у сваім бліскучым выступленні „Пра маладога пісьменніка ў савецкай літаратуры“ так азначае задачы, якія стаяць у справе выхавання моладзі ў літаратуры:

> „Малады пісьменнік,—гаворыць тав. Косарэў,—гэта яшчэ не склаўшыся творчы арганізм і таму ён патрабуе да сябе падыходу іншага чым да сталага майстра. Вось чаму мы вылучаем маладога пісьменніка ў асобнае кола творчых работнікаў, спрабуем весці сярод іх асобную работу. У гэтым ёсць настойлівая патрэба. Як кветка, што расквітае, патрабуе асобнага догляду, своечасовага палівання, праменняў сонца, так і наш малады пісьменнік патрабуе да сябе чулага, уважлівага падыходу і клопату пра яго творчы рост, патрабуе дапамогі і парады. Гэта патрэба вынікае з таго, што маладыя пісьменнікі маюць вялікае жаданне стаць моцнымі майстрамі, вялікімі мастакамі слова“.

Такім чынам азначэнне тав. Косарэва не замыкае гэтую катэгорыю пісьменнікаў у асобную касту, не звязаную, не падпарадкаваную агульным законам развіцця савецкай літаратуры. Наадварот, фронт маладой савецкай літаратуры кроўна звязан з усімі задачамі, якія стаяць перад усёй савецкай літаратурай, і неаддзялім ад іх. Адзінае адрозненне маладога пісьменніка выяўляецца не ў нейкай „рознасці светапоглядаў“, не ў „асаблівай маладзёжнай ідэалогіі“; адрозненне і спецыфічнасць яго ў тым, што гэта яшчэ не аформлены майстар літаратуры, які мае перад сабою задачу вялікай упартай творчай работы, інтэнсіўнага творчага росту.

Тое, што перад маладым пісьменнікам стаяць вялікія творчыя задачы, няўхільна дыктуе ім усямерна развіваць творчую самакрытыку ў сваіх радах, павышаць свой агульны культурнаідэйны ўзровень і ўзровень свайго майстэрства.

Тое, што гэтая катэгорыя з'яўляецца маладымі пісьменнікамі і ў літаральным сэнсе слова, ніяк аднак не можна апраўдаць слабасці творчага росту таго ці іншага маладога пісьменніка.

Наадварот, партыя і ленінскі комсамол патрабуюць ад яго інтэнсіўнага падвышэння майстэрства сваёй творчасці, быць перадавым, ініцыятарам змагання за якасць творчасці на літаратурным фронце так, як моладзь і комсамол з'яўляюцца змагарамі за якасць на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва. А праблема якасці з'яўляецца для нас праблемай, якая стаіць перад усёй краінай. З гэтага пункту гледжання зусім зразумела, што малады пісьменнік маладосцю сваёй не павінен апраўдваць дрэнную якасць сваёй творчасці.

„Ні ў якім разе,—гаворыць тав. Косарэў,—нельга апраўдваць маладосцю сваю творчую слабасць, свой марудны творчы рост. Маладосць не загана, а прыемнае адчуванне. Прыкрывацца маладосцю, іграць на гэтым нікому не раім. Гэта шкодна для развіцця і росту маладога пісьменніка".

Вось чаму перад імі стаяць велізарныя задачы ўсебаковага вывучэння жыцця ў мінулым, у сучасным і нават такім, якім яно будзе ў будучыні.

„Імкненне да літаратурнай працы,—піша Алексей Максімавіч Горкі,—ёсць у аснове сваёй сапраўднае і здаровае. Імкненне чалавечай адзінкі да злучэння з людской масай, праз адлюстроўванне, выяўлення словам невычарпальнай living рознастайнасці з'яў, унутранага і вонкавага жыцця людзей. Для таго, каб адлюстраваць гэтыя з'явы ясна, пуката, пераканаўча трэба ўсебаковае і глыбокае веданне жыцця ў мінулым, веданне бягучай рэчаіснасці, якая творыцца людзьмі, і веданне мовы, велізарны запас слоў, якім фармуецца нагляданне ўражанняў, пачуццяў, думак.

Справа нашай маладой літаратуры,—заканчвае Алексей Максімавіч,—цяжкая складаная справа".

Алексей Максімавіч Горкі прад'яўляе высокія патрабаванні маладому пісьменніку: усебаковае вывучэнне жыцця, назіранне за жыццём, тэхніка літаратурнага майстэрства, якой ён павінен дасканала аўладаць. У гэтай-жа сувязі стаяць задачы пашырэння кола тэм і праблем, што стаяць перад нашай маладой літаратурай.

Ці павінен малады пісьменнік абмяжоўвацца маладзёжнымі тэмамі, ці павінен ён пісаць выключна пра моладзь? Ці павінен ён сапраўды, як гэта некаторыя думаюць, выпрацаваць спецыяльны маладзёжны стыль, стыль „задзёрысты", псеўдааптымістычны, дзе аўтар з старонкі на старонку разам са сваім героем пераходзіць з „бадзёрым рогатам". А якраз так сабе уяўляюць задачы, якія стаяць перад намі, некаторыя таварышы. Гэта ў корні ілжывае і ўродлівае ўяўленне пра задачы маладых пісьменнікаў.

Перад маладым пісьменнікам стаіць задача пашырэння кола тэматыкі. Не толькі пра моладзь, і зусім не абавязкова пра моладзь, павінен пісаць малады пісьменнік. Філасофскае асэнсаванне праблем мінулага, будучага, барацьбы і змагання пролетарыята за соцыялістычную рэволюцыю, радасць і гора, любоў і ненавісць, дружба і смерць, гераізм змагання ў грамадзянскую вайну, псіхалогія мас, месца інтэлігенцыі

ў нашым будаўніцтве—усё гэта тэмы маладой совецкай літаратуры. Як сустаўная частка, у кола гэтых тэм уваходзіць і наша шчаслівае і ні з чым не параўнальнае юнацтва, якое квітнее пад крылом нашай вялікай большэвіцкай партыі. І тав. Косарэў—кіраўнік моладзі і ленінскага комсамола Совецкага Саюза—патрабаваў, каб маладыя пісьменнікі пашырылі кола сваёй тэматыкі.

Пытанне пра выхад маладой літаратуры за рамкі маладзёжнай тэматыкі з'яўляецца незвычайна актуальным і для маладых пісьменнікаў БССР.

Сапраўды большая частка нашых маладых пісьменнікаў афармляе якраз тое, што іх акружае: іх родны калгас, завод, на якім яны працуюць ці працавалі, тых людзей, якіх яны бачылі і сустракалі, блізка былі з імі знаёмы, прычым апісваюць гэтых людзей слепа, трымаючыся так званай уяўнай праўдзівасці. У выніку атрымоўваецца шэры, нудны, шаблонны вобраз, паўтораны сотні разоў.

А якім своечасовым з'яўляецца заклік тав. Косарэва не спрашчаць сюжэт. Пытанне пра сюжэтную літаратуру з'яўляецца найактуальнейшым пытаннем маладой нашай літаратуры ды і ўсёй нашай совецкай літаратуры.

Бессюжэтнасць у нашай літаратуры знікае разам са знікненнем пасівізма, бяздзейнасці, абломаўскага раўнадушша ў нашай краіне. Бессюжэтнасць беларускай совецкай літаратуры з'явілася выражэннем якраз народніцкай „сантыментальнай абыякавасці“ да рэчаіснасці, незацікаўленасці думамі, настроямі і справамі эпохі.

У простай сувязі з сюжэтнасцю твораў стаіць пытанне пра арыгінальнасць, скульптурна-пластычную яркасць вобраза чалавека ў мастацкім творы. Зразумела, што вобраз чалавека ў мастацкім творы павінен быць паказан да ілюзорнасці жыва, ярка, гэта даецца толькі ўпартай і крапатлівай работай.

Алексей Талстой у дакладзе на з'ездзе пісьменнікаў гаварыў, што калі ён стварае драматургічны вобраз, дык гэты вобраз ілюзорна, ярка, бадай як жывы, стаіць перад яго вачыма. „Вось уваходзіць дзейная асоба, вось яна ўздымае руку“. Ён адчувае адценні яе голаса, прычым гэты скульптурна-яркі пластычны вобраз павінен мець соцыяльны характар вобраза-тыпа.

Алексей Максімавіч піша:

„Мы лічым талантлівымі літаратараў, якія добра ўладаюць прыёмамі нагляданння, параўнання, падбору найбольш характэрных класавых асаблівасцей і ўключэння гэтых асаблівасцей у адну асобу: так ствараецца літаратурны вобраз соцыяльнага тыпу Работа літаратара, мусіць, цяжэй за работу вучонага спецыяліста, напрыклад зоолага. Работнік навукі, вывучаючы барана, не мае патрэбы ўяўляць самога сябе бараном, але літаратар, хоць ён і шчодры, а мусіць уяўляць сябе скнарам, хоць ён і не карыслівы, а мусіць адчуваць сябе хціўцом, хоць ён і слабавольны, а мусіць упэўніваюча паказаць чалавека моцнай волі. Якраз сілай добра развітага ўяўлення талантлівы літаратар дасягае часцяком такога эфекту, што герой, паказаны ім, з'яўляецца перад чытачом непараўнальна больш значным, яркім псіхалагічна-гармнічным і суцэльным, чым сам майстар, які яго стварыў“.

Гэта вытрымка вычарпальна характарызуе задачы, якія стаяць перад маладым пісьменнікам у галіне стварэння пластычнага, скульптурнаяркага вобразу, які павінен мець характар шырока абагуленага соцыяльнага тыпа. З самых найдрабнейшых назіранняў, з вывучэння жыцця складаецца гэты шматгранны, багаты пачуццямі, вонкава-яркі чалавечы вобраз. І ці не адсюль вынікае заклік тав. Косарава не апісваць герояў

па аднаму рэцэпту, не прыкрываць героя, а праўдзіва яго паказваць. Небяспека шабланізавання вобраза чалавека з'яўляецца асноўнай небяспекай, якая падсцерагае маладых пісьменнікаў у пачатку іх творчай работы.

На дзве такія асноўныя формы шабланізавання сучаснага маладога чалавека і паказвае тав. Косарэў у сваім выступленні. У першым выпадку герой атрымліваецца такі:

„Дзень і ноч працуе, не спіць, не есць, не адпачывае і пры гэтым заўсёды, як ідыёт, смяецца. Мы комсамольцаў ведаем досыць добра,— кажа далей тав. Косарэў.—Не прычэсвайце нас, не прылізвайце нас, у нас вельмі шмат недахопаў. Наш чытач зусім законна не верыць у такога героя, якога, такім чынам, упрыгожвае літаратар“.

Або як ствараецца вобраз героя на вытворчасці:

„Бярэцца завод, пераважна гігант, вышукваецца ўдарнік, пажадана з ордэнам. Твор выглядае такім чынам. Спачатку трохі біяграфіі героя, потым некалькі старонак аддаецца ўсхваленню выключных машын, каля якіх працуе ўдарнік, потым ідзе ўсхваленне ўдарнае працы героя... атрымоўваюцца іконапісныя героі, не такія, якія ёсць у нашым жыцці“.

Ці гэта не глыбокая праўда і ці не пасуецца яна толькі да маладых, але і да сталых пісьменнікаў. Якраз шэрасць і аднастайнасць вытворчай і калгаснай аповесці тлумачыцца шабланізаваннем вобразаў людзей, нават стаўкай на сярэдняга чалавека без яркіх рысаў, без цікавых пастункаў, без цікавых рысаў твара, вонкавага выгляду.

Мы моладзь—красачнае, багатае пачуццямі і думкамі племя, мы жывем і вырастаем у новай соцыялістычнай краіне, у краіне масавага гераізма, у краіне, дзе моладзь сапраўды заваёўвае сваю будучыню. Гэта яна, яе перадавы атрад ленінскага комсамола пакрыў сябе неўвядаемай славай, пашырыўшы прасторы сусвета ў вышыню стратасферы, пакрыў сябе неўвядаемай славай на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Інтымны бок жыцця маладога комсамольца, рабочага, калгасніка, інжынера, інтэлігента значна больш багаты, чым інтымны бок жыцця моладзі капіталістычнай эпохі.

У нас своеасаблівая дружба, своеасабліваё каханне, своеасаблівая ненавісць. Усе старыя чалавечыя пачуцці, вызваліўшыся ад залежнасці старога свету, свету панавання грошай і хлусні набылі іх сапраўдную чалавечую вартасць.

Наша радзіма пад кіраўніцтвам вялікага і мудрага Сталіна атрымала сусветныя гістарычныя перамогі. Мы зараз сусвет здзіўляем,—як сказаў Ілья Эрэнбург,—не столькі нашымі машынамі, сколькі нашымі людзьмі.

У нас нарадзілася і вырасла выключнае пакаленне людзей равеснікаў Кастрычніка, якія не ведалі паганага мінулага. Яны жывуць багатым і выключна шчаслівым жыццём. І тав. Косарэў разам з Алексеем Максімавічам падкрэсліваюць, што малады пісьменнік „без практычнага назірання, без ведання чалавечай псіхікі, без любоўнага, крапатлівага вывучэння жыцця і людзей, якія робяць гэта жыццё, не можа быць добрым пісьменнікам. Трэба адчуваць гастрэй, жыць змаганнем, умець любіць жыццё і ненавідзець яго дрэнныя бакі, а ў вас, у некаторых, атрымоўваецца—любіць не ўмее і ненавідзець не навучыліся.

Такім чынам, з нашага азначэння маладога пісьменніка вынікае, што нельга сабе абраць, як „прафесію“ на ўсё жыццё –быць маладым пісьменнікам. Малады пісьменнік няўхільна павінен стаць сталым майстрам мастацкай творчасці, і чым хутчэй ён стане гэтым сталым майстрам, тым лепш для яго. А гэта даецца ўпартай працай над якасцю

сваіх твораў. Няўхільна падвышаць свае паэтычнае майстэрства, вось задача, якая стаіць перад маладым пісьменнікам. І тут яму патрэбна вялікая фантазія, вялікая сіла ўяўлення, вялікі мастацкі талент. Нельга дзесяткамі год „хадзіць у маладых пісьменніках“, як гэта ў нас часамі здараецца. Да таго-ж творчасць нашых маладых пісьменнікаў, паміма якасці, вельмі малая і колькасна.

Успомніце, што віднейшыя нашы класікі, Пушкін, напрыклад, які пражыў такое кароткае жыццё, не аставаўся „маладым“, „пачынаючым“ пісьменнікам, а стварыў геніяльныя творы сусветнай літаратуры. Вазьміце за прыклад геніяльнага мастака рэалізма Бальзака, які за якіх-небудзь дваццаць—дваццаць пяць год напісаў больш за сто такіх выключных раманаў і правёў большую частку жыцця праведніка і пакутніка за сваім пісьмовым сталом, працуючы па восемнаццаць гадзін у суткі. Альбо вось вам прыклад з беларускай літаратуры—Максім Багдановіч, які памёр ва ўзросце дваццаці пяці год, напісаў два велізарныя, высокія па якасці і разнастайныя па форме томы твораў. Нашы маладыя пісьменнікі павінны як мага хутчэй вызначыць свае кола і пэўнае месца ў літаратуры, упартай працай над якасцю яны гэтага дасягнуць.

Маладая літаратура ў савецкай Беларусі налічвае цэлы рад па сапраўднаму талантлівых прадстаўнікоў, якія абяцаюць вырасці ў моцных мастакоў. У першую чаргу я павінен назваць Эдуарда Самуйлёнка, Аркадзя Куляшова, Алеся Зарыцкага, Барыса Мікуліча, Сяргея Знаёмага, Александра Шарапава, Міхася Блісцінава і Зяму Піваварава.

Рост маладой літаратуры ў савецкай Беларусі выклікан вялікай увагай комуністычнай партыі, ленінскага комсамола да нашай маладой літаратуры, выхаваннем яе ў духу марксізма і вернасці ідэалам партыі, ачысткай фронта маладой літаратуры ад нацыяналістычнай поскудзі, ад прыспасабленцаў.

Многія з нашых маладых пісьменнікаў ужо зараз атрымоўваюць „атэстат зрэласці“, але большасць з іх стаіць яшчэ перад задачамі велізарнага творчага росту.

Перш за ўсё возьмем пытанне пра значнасць ідэі, яркасць тэмы і высокую сюжэтнасць мастацкага твору. Пытанні гэтыя маюць выключна актуальнае значэнне для маладых пісьменнікаў. Бяручыся развязваць якую-небудзь дробную, малазначную ідэю, пісьменнік тым самым прыбядняе змест і важнасць свайго твору. І нават не ў гэтым асноўная небяспека, бо наша эпоха, гераічныя справы людзей соцыялізма даюць невычарпальныя запасы ідэй і вялікіх тэм для пісьменнікаў.

І ўсё-ж вельмі часта мы бачым, што твор маладога пісьменніка, пабудаваны на багацейшым матэрыяле нашай эпохі, атрымоўваецца не яркім, шэрым, нудным, будзённым. У чым-жа справа, дзе шукаць выйсця з гэтай супярэчнасці? Эпоха нібыта дае гіганцкія ідэі і тэмы для пісьменніка, а з-пад пяра яго яны атрымоўваюцца мала пераканаўчымі і неглыбокімі.

Справа тут у самым мастаку, у яго таленце, у яго ўпартасці да работы. Справа ў тым, што нашы маладыя пісьменнікі рэдка ўмеюць браць са шматграннага і багатага жыцця істотныя яркія і прыгожыя ідэі нашай будаўнічай эпохі, эпохі грамадзянскіх войн, змагання рабочага класа ў капіталістычных краінах. Наша краіна штодзённа высоўвае безліч вялікіх праблем перад пісьменнікамі. Новае разуменне гераізма, новыя праявы ўсіх чалавечых пачуццяў, новыя адносіны паміж людзьмі у сферы соцыяльнай і бытавой дзейнасці, гераічныя справы рэволюцыйнага пролетарыята і комуністаў у капіталістычных краінах,—усё гэта складае безліч вялікіх ідэй, якія просяцца на пяро пісьменніка.

Але для таго, каб твор атрымаўся сапраўды мастацкім, трэба бачыць

праявы гэтых ідэй праз найбольш яркія і новыя чалавечыя вобразы, праз найбольш яркія эпізоды і падзеі; гэта значыць тэматычна пісьменнік павінен арыентавацца не на абыдзеннае, не на звычайнае, а на соцыяльна-тыповае, на прыгожае і яркае. Ідэя, як і тэма твору, праяўляецца канкрэтна праз чалавечыя мастацкія вобразы, праз сюжэтнае і фабульнае развіццё твору. Сутычка і рух чалавечых вобразаў складае сюжэтнасць твору. Сюжэт мае вырашальнае значэнне ў творы, самае яго паняцце звязана з сутычкай пэўных чалавечых характараў, ідэй са змаганнем, з рухам і развіццём. І толькі той твор, і той пісьменнік, які разлічвае на выключную нерухомасць, абломаўскую павольнасць у развіцці сваіх герояў і падзей у творы, будзе ігнараваць складанай сюжэтнасцю.

Бессюжэтнасць заўсёды была адзнакай недасканаласці мастацкага твора, нязрэласці яго. І сапраўды, чым больш у нашай краіне знікае абыякавасць, павольнасць, тым больш знікаюць творы бессюжэтныя.

Да рэчы і нашы старэйшыя пісьменнікі слаба валодаюць майстэрствам сюжэта. Завостранасць сюжэтнага канфлікта з'яўляецца тым асноўным патрабаваннем, якое мы прад'яўляем пісьменнікам. Я мог-бы прывесці яркі прыклад вельмі значнага ў нашай літаратуры твора Кузьмы Чорнага рамана „Трыццаць год". Гэта сапраўды багаты вобразамі, выключна яркім стылем раман, шмат губляе ад адсутнасці завостраных сюжэтных канфліктаў.

Але з другога боку сюжэт нельга рабіць самамэтай. Сюжэт для сюжэта, інтрыга для інтрыгі ператвараецца ў сваю процілегласць у мастацкім творы, зніжае якасць твору. Гэта асабліва адчуваў Бальзак, які пісаў:

> „Калі аўтар расказвае ісціну, яму не трэба ператвараць свой расказ у цацку з сюрпрызамі і згодна манеры некаторых раманістаў на працягу чатырох томаў вадзіць чытача з аднаго падзямелля ў другое з тым, каб паказаць яму зусім высахлы труп і сказаць у відзе заключэння, што ён толькі пужаў яго схаванымі ў абоях дзвярыма, або мерцвякамі, забытымі па недагляду пад палавіцамі".

Цікава параўнаць з пункту гледжання сюжэта трох нашых маладых празаікаў: Эдуарда Самуйлёнка, Барыса Мікуліча і Сяргея Знаёмага.

Сюжэтна найбольш прымітыўна будуе свае творы Сяргей Знаёмы. Зазвычай у яго бярэцца фон завода. Туды з'яўляецца дзейная асоба, альбо дзейныя асобы. У першым выпадку Казім з аповесці „Біяграфія майго героя", у другім выпадку Максім і Юрка з аповесці „Ганчары". Там на вытворчасці яны адбываюць павольнае і даволі нуднае існаванне, зрэдку трапляючы ў пэўныя супярэчнасці, альбо абставіны, якія штурхаюць іх на змаганне за пэўны ідэал, прычым ні яркіх рэакцый, ні значных паступкаў, якія-б завязалі сюжэтны канфлікт у Сяргея Знаёмага бадай што няма.

У Мікуліча—наадварот, імкненне да пэўнай складанасці сюжэта, да яркіх канфліктаў і падзей. Але, у аповесці „Дужасць" гэтыя сюжэтныя канфлікты разбіваюцца блытанай кампазіцыйнай пабудовай твору, якая Мікулічам выдаецца за наватарства.

Пытанне пра сюжэтнасць твораў Знаёмага і Мікуліча мы яшчэ будзем закранаць пазней, побач з разглядам іх твораў. Зараз-жа адзначым, што значным майстрам сюжэтнага фабульнага твора не толькі сярод маладых пісьменнікаў, але і сярод старэйшага пакалення літаратараў з'яўляецца Эдуард Самуйлёнак, аўтар твору „Паляўнічае шчасце", „Пункт апоры", „Тэорыя Каленбрун". Эдуард Самуйлёнак найбольш таленавіты майстар маладой беларускай савецкай прозы.

Якую-б тэматыку не распрацоўваў Эдуард Самуйлёнак, ён у ёй

заўсёды знаходзіць нейкую значную яркую ідэю, яркае палажэнне і канфлікты для сюжэта. Вось перада мною твор „Паляўнічае шчасце“. Гэта лірычная навела пра перамогі калгаснага ладу, пра старога селяніна Лаўрэна, лепшага ўдарніка калгаса і лепшага паляўнічага. Ён добра даглядае калгаснага каня, ён лепшы майстар апрацоўкі ільну, ён адначасова па-дзіцячаму захоплен сваёй справай паляўнічага. Колькі начэй ён не спіць і сочыць свае паляўнічае шчасце—выдру найлепшай якасці. І тут наперакор яго шчасцю становіцца калгасны лён, які неадкладна трэба апрацаваць, і ён з болем і сумам растлумачвае брыгадзіру, што не можа пакінуць свае паляванне і ісці апрацоўваць лён. Той і слухаць не хоча, трэба ісці на лён. Але Лаўрэн упарты. Ён пайшоў на паляванне, выйшаў са стрэльбай, а тут і вораг калгасны весела шчэрыцца: „От і Лаўрэн, лепшы ўдарнік, а на работу не пайшоў“. І сумны ён пашоў ад рэчкі туды, дзе апрацоўвалі лён.

> „Лаўрэн узняў голаў і паглядзеў угору. Зоры ясніліся на недаступнай вышыні. Марозная будзе ноч.
>
> Лаўрэн нахіліўся і выцягнуў палена з нары.
>
> — Жыві,—сказаў ён з сумам,—жыві, брат выдра, калі такая справа выйшла.
>
> І пабрыў прэч па сыпкім, глыбокім снезе, трымаючы палена пад пахаю“.

Тут мы бачым, што ў тэме калгаснага будаўніцтва, якая так часта апашляецца, альбо паказваецца шэра, будзённа, нецікава, Эдуард Самуйлёнак знайшоў лірычныя, яркія, хвалюючыя, чалавечыя пачуцці.

Мы выразна бачым з апавядання „Паляўнічае шчасце“, што Эдуард Самуйлёнак па-сапраўднаму ўмее спалучыць яркую ідэю з сюжэтным напружаннем падзей у мастацкім творы. Сюжэтная яркасць твору выразна выступае і ў адным з апошніх апавяданняў Эдуарда Самуйлёнка „Пункт апоры“. У апавяданні „Пункт апоры“ Эдуард Самуйлёнак выкарыстаў выключны па яркасці момант з эпохі грамадзянскай вайны.

Авіяатрад пад кіраўніцтвам адважнага камандзіра Сяргея Аперана і Бірга пакінуты пад наступам нямецкіх інтэрвенцкіх войск без кроплі бензіна ў маленькім гарадку. Бензін можна дастаць толькі ў варожым стане. Трывожна праходзяць страшная ноч і дзень для камандзіра Аперана і Бірга. Нельга падняць крылаты атрад у паветра, няма бензіна.

У Эдуарда Самуйлёнка павінны вучыцца яго таварышы маладыя пісьменнікі, як сюжэтна загастраць і слоўна абыгрываць канфлікты. Унутраная дынаміка апавядання такая, што напружанасць чытача ўсё больш і больш узрастае. Пілот Руніч здрадзіў, акупанцкае войска немцаў наступае, чырвонаармейцы ідуць на вялікую самаахвярнасць, пранікаюць у стан ворага і з прагнасцю, як даражэйшую рэч на свеце, як самае свае жыццё, нясуць яны ў дрыжачых руках вядро за вядром украдзены ў ворага бензін. Сюжэтная гастрыня і напружанасць дасягаюць у гэты момант кульмінацыйнага пункта.

Усё-ж такі бензіна не ўдалося даставіць. Тады прыходзяць два рабочыя, яны прапануюць выключны па смеласці план—гнаць самагонку, спірт 96 градусаў і спіртам падняць у паветра крылаты атрад.

Самы выдатны самагоншчык з акругі, прапітая чортава душа Міцька, становіцца галоўным майстрам гэтай справы.

Выключна праўдзіва Эдуард Самуйлёнак паказвае, як прыходзіць да свайго класавага самаўсведамлення загублены, прыдушаны капіталістычнымі ўмовамі існавання Міцька і гэта гучыць не як агітацыйны непераканаўчы прыём. Глыбока верыш у словы Міцькі, калі гэты гнілы

прапойца адмаўляецца выпіць прапанаваную яму гарэлку, якая яму была такая мілая раней.

„Ён кідае пустую банку на зямлю. Ён робіць парывісты крок да Бірга.
— А як табе гэтай поўшклянкі не хопіць у матор. Гэтае... у цыліндру няма чаго будзе пхнуць на пяць сажняў даляцець. А ты з-за воблакаў, ды каменем на зямлю! Так, ці што!"

У даным выпадку у змест гэтага апавядання ўкладзены вялікі ідэйны сэнс. Сюжэтна Эдуард Самуйлёнак будуе свой твор такім чынам, што ўвесь час чытач з болем чакае моманта, калі крылаты атрад узнімецца ў паветра. Эдуард Самуйлёнак вялікую ідэйнасць твора спалучае з яркай сюжэтнасцю. Ворагі, якія наступаюць на атрад—гэта не смехатворныя і хадульныя ворагі, гэта ворагі сапраўды страшныя і тым больш ярка гучыць перамога авіяатрада, калі ён нарэшце ўзнімаецца ў паветра.

Можна з упэўненасцю сказаць, што твор „Пункт апоры", пасля твору „Тэорыя Каленбрун", з'яўляецца вялікім крокам наперад у творчым развіцці Эдуарда Самуйлёнка і паказвае, што Самуйлёнак няўхільна расце, як пісьменнік.

Але твор „Пункт апоры" выяўляе небяспеку, якая выразна стаіць і перад Эдуардам Самуйлёнкам. Ёсць у некаторых пісьменнікаў уяўная і няправільная пагоня за праблемнасцю. Самуйлёнак, гэты выключны па яркасці эпізод з грамадзянскай вайны прыхарашыў праблематычным, але не арганічным для твору прывескам. Самуйлёнак дае эпізод грамадзянскай вайны ў выглядзе ўспамінаў камандзіра атрада Сяргея Пятровіча, які з'яўляецца зараз выдатным канструктарам авіямашыны. Ён, Сяргей Пятровіч, гераічны лётчык у мінулым, працуючы ў габінеце над авіявынаходствам, адчуў раптам фізічную слабасць. Ён вышаў на балкон чацвёртага паверха і яму закружылася галава. Тады, каб мець маральную і фізічную падтрымку, ён успамінае далёкія эпізоды грамадзянскай вайны і знаходзіць свой сапраўдны пункт апоры. Гэта ўяўная праблематычнасць не вяжацца з усім характарам і зместам твору. Адразу адчуваеш, што гэта штучна навязана твору, і гэта сумненне і фізічная слабасць камандзіра Сяргея Пятровіча ў той час, як самы эпізод грамадзянскай вайны дае велізарную ідэйную сілу гэтаму твору.

Такім чынам ясна, што ідэйная значымасць, яркасць ідэі, яркасць тэматычнага матэрыяла, які бярэ для сваёй распрацоўкі пісьменнік, з'яўляецца момантам вырашальным для поспеху мастацкага твору. Такімжа вырашальным момантам з'яўляецца сюжэтная яркасць канфлікта ў творы. Тое, што малады пісьменнік павінен арыентавацца на значнасць ідэй, на сюжэтную яркасць канфлікта таксама як і на скульптурна-пластычную яркасць вобраза чалавека—яшчэ з большай перакананасцю паказвае і твор Эдуарда Самуйлёнка „Тэорыя Каленбрун".

Што з'яўляецца галоўным для твору „Тэорыя Каленбрун"?

Гэта твор палітычны ў самым лепшым сэнсе слова. І ён застаецца глыбока-хвалюючым па свайму ідэйнаму зместу, не гледзячы на вялікую нагрузку падзеямі, інтрыгай усіх яго раздзелаў. У творы „Тэорыя Каленбрун" здзіўляе сталасць мастацкіх форм маладога аўтара і логіка развіцця падзей. Ніводны вобраз, ні адна падзея, якая не мае дачынення да развіцця твору, не ўведзена ў яго. Пра Самуйлёнка нельга сказаць, як пра некаторых другіх аўтараў, што яму няма чаго расказаць у творы. Не, наадварот, кожны раздзел дыша хвалюючым зместам, прытым логіка развіцця падзей такая, што яна ўсё больш узбуджае

цікавасць і нецярплівасць чытача да развязкі. Перш за ўсё аповесць „Тэорыя Каленбрун“ заваёўвае ўвагу чытача сваёй ідэяй.

Майор Каленбрун, прадстаўнік прымежнага нам польскага фашызма, вынайшоў новыя „радыкальныя“ сродкі змагання супроць чырвонае здані комунізма. Гэтыя сродкі сфармуляваны ім у тэорыі пад агульным дэвізам „Тэорыя Каленбрун“. Заслуга маладога пісьменніка Самуйлёнка ў тым, што ён удала паказаў асобныя бакі тактыкі сучаснага польскага фашызма. Майор Каленбрун гэта не смехатворная карыкатурная фігура ворага з мала перакканаўчых раманаў. Майор Каленбрун ведае, што значыць такі вораг, як комунізм, ён, бадай, што сам верыць, што комунізм знішчыць яго і яго клас. Ён кажа:

„Мы абкружаны! Іх воля вырашыць, калі менавіта нас задушыць, сцерці з твару зямлі.“

Майор Каленбрун бачыць свайго ворага ўсюды:

„Але калі я гляджу навокал сябе і бачу ворага за кожным вуглом, чую яго крокі за сваім хрыбтом, калі я разумею, што кожны завод— гэта дывізія варожых сіл, кожная вуліца—іх акоп, калі я адчуваю, што ворага няма, але разам з тым, ён усюды... Што гэты вораг на зямлі, пад зямлёй, у паветры, тады я губляюся“.

Аднак ён спадзяецца яшчэ пазмагацца і мужна адстойваць волю і правы свайго класа. Яго тэорыя „салдафонская тэорыя“—тэорыя жолнежа“, як ён сам яе называе.

Каленбрун чакае гістарычных вынікаў ад сваёй тэорыі. Аднак-жа дададзім, што не яго, Каленбруна, віна, што на справе план яго праваліўся і аказаўся класавай прыгодніцкай авантурай. Тут не яго, Каленбруна, віна і не віна яго здольнасцяй. Ён зрабіў усё тое, на што толькі здольны сучасны фашыст.

Шырыня ахопу падзей дала мажлівасць Эд. Самуйлёнку прадбачыць асобныя рысы тактыкі фашыстаў. Ці-ж пасылка на тэрыторыю Савецкага Саюза беларускіх і украінскіх „нацыянальных“ шпіонаў не ўваходзіла ў тактыку польскага і нямецкага фашызма? А якраз падобная тактыка майора Каленбруна і раззбройваецца Самуйлёнкам. Шкада адно, што ў кнізе Эд. Самуйлёнка гэта не звязана з беларускімі „нацыянальнымі“ шпіонамі. Вельмі шкада, ад гэтага яго кніга толькі выйграла-б.

Фашыст Каленбрун паказан, як вораг моцны і прынцыповы, але тым страшней яго паражэнне. Тылы комунізма, куды меціў напасці Каленбрун, аказваюцца забяспечанымі. Вораг Каленбруна—комунізм аказваецца ўсюды: на зямлі, пад вадой, у паветры і нават вушы сцен яго ўласнага габінета служаць не на карысць яго, Каленбруна.

Сержант Дроб, сын пролетарыя Лукаша Дроба, пад мундзірам „адданага“ айчызне легіянера носіць пачуццё адданасці свайму класу. Ды інакш і быць не можа. На ўсё жыццё, ад дзяцінства, у яго памяці засталася праклятая сіняя лічба „13“—сімвал казарменнай строгасці, уліка вялікай і жудаснай расійскай імперыі, напісаная на страшнай ад жоўтасці назе яго бацькі, рабочага, забітага ў часе забастоўкі. Эд. Самуйлёнак выключна асоцыіруе гэту лічбу з такой-жа лічбай на армейскім грузавіку.

Сержант Дроб, абдумана, загадзя ведаючы пра вынікі—пайшоў на смерць, каб разбурыць класавую салдафонскую авантуру Каленбруна. Можа Дроб у паказе Эд. Самуйлёнка нават залішне рацыяналістычна разважае пра сваю смерць, і што ўжо напэўна, гэта тое, што ён памыляецца ў сваіх развагах пра жыццё і смерць, пра жыццё калектыва і чалавечую адзінку. Але нас тут цікавіць зусім іншае: ёсць-жа на свеце такая сіла, якая паслала яго на свядомую смерць за сваю ідэю, а вось гэтага якраз і не ўлічыў Каленбрун. І майор Дабравольскі, і паручык

Рэдэль—вяршыня дыфензіўнага і шпіонскага майстэрства—усё гэта людзі дробныя, нікчэмныя. Страшная непапраўная памылка Каленбруна загубіла яго геній і яго тэорыю.

Я падкрэсліваю выключную драматычнасць усіх падзей у гэтай кароткай гісторыі жыцця і смерці сержанта Дроба, якая разгорнута ў невялікай аповесці Эд. Самуйлёнка. У аповесці заложаны ўсе элементы, патрэбныя для драматургічнага сцэнічнага твору. Можна сабе ўявіць, што асобныя месцы гэтай драматычнай аповесці выклікалі-б захапленне аўдыторыі. Успомніце апошнюю, перад смерцю Дроба, размову яго з майорам Каленбрунам. Праз два мастацкія вобразы паўстаюць адзін супроць другога два класы, дзве сістэмы—комунізм і фашызм. І з якой сілай праз вусны Дроба Эд. Самуйлёнак абрушвае катастрофу на галаву Каленбруна, якая аўтарам старанна падрыхтоўвалася ўнутры твору, ва ўсім ходзе падзей. Даруеш аўтару і вялікую недасканаласць мовы і афіцыяльнасць моўных зваротаў, і толькі жадаеш слухаць адначасова ўсхвалёваны і спакойны, радасны і бурны голас Дроба, які страшней гарматы б'е па гумовым чэрапе цяжка параненага некалі майора Каленбруна.

„Мы бачылі ваш наступ—кажа ён,—пад сцягам адступлення, Каленбрун. Мы забяспечваем свае тылы ў класавай барацьбе, ахоўваем іх. Ваша салдафонская догма, Каленбрун, абанкроцілася. Вось і ўсё—сказаў Дроб,—я зрабіў усё для таго, каб вы былі спакойны".

Пакутныя адчуванні за смерць Дроба раптам у чытача змяняюцца смехам над лёсам майора Дабравольскага, які, бедны, багатварыў Каленбруна і яго тэорыю, ставіў за яе поспех імшу. Ен, які баяўся сказаць слова наперакор Каленбруну, цяпер крычыць яму ў твар:

„Дурны! Пустышка! Тэорыі прыдумаў! Пагубіў людзей. Паручыка Рыдэля загубіў... Шпора Рыдэля варта вашай дурной гумовай балды! „Тэорыя Каленбрун", імшу я за яе павінен быў ставіць... Стары дурань, развесіў вушы... Ганьбай сябе пакрыў разам з вамі! Што!!! Маўчаць!!!"

І разумееш ўсю страшную праўду для нашых ворагаў апошніх перад смерцю слоў Каленбруна:

„Страшныя кашмары! Кожная вуліца іх акоп, кожны завод—іх цытадэль і дывізія варожых сіл! Няма сродкаў барацьбы! Вораг навокал... чырвань! чырвань! Чырвань полымя, крыві, сцяга! Бяспомачны Каленбрун.. Пустата... і пагібель"...

Так гастрыня сюжэтнага развіцця аказвае тут вялікія паслугі аўтару.

Заключныя лаканічныя і простыя радкі аповесці завяршаюць гісторыю жыцця, змагання і смерці комуніста Станіслава Дроба.

Можна было шмат яшчэ гаварыць пра выдатныя якасці, унесеныя Эд. Самуйлёнкам сваёй кнігай „Тэорыя Каленбрун" у нашу літаратуру, але звернем увагу чытача яшчэ на некалькі галоўных асаблівасцей гэтай кнігі.

Як паказаны вобразы комуністаў—падпольных работнікаў? Найбольш ярка паказаны комуніст Крамарчык, Врон, Чэст. Але ўсюды вельмі адчуваецца, што Эд. Самуйлёнак абрысоўвае іх больш звонку, ён рэдка паказвае нам іх думкі, іх адчуванні, а толькі іх лагічны вынік—учынкі, дзеянні. Ён нібыта змоўчвае пра іх унутраны, духоўны свет. Пры бліжэйшым разглядзе аказваецца, што гэта так і ёсць. Ён змоўчвае, але змоўчвае таму, што яму няма чаго пра іх унутраны свет сказаць, ён яго не ведае, не вывучыў.

Наогул, у кнізе дынаміка падзей пакрывае ўсюды псіхалагічны свет герояў. Аўтару нібыта няма часу спыняцца на абрысоўцы ўнутранага свету сваіх герояў, ён спяшаецца, яго цягнуць у сваім віры падзеі наперад і наперад.

Але мастацкая інтуіцыя, якой безумоўна ў вялікай ступені валодае Эд. Самуйлёнак, не малы, хаця яшчэ і даволі не глыбокі запас ведаў, не дазваляе яму зусім пакідаць па-за ўвагай вялікія псіхалагічныя страсці і карціны, хаця і тут у яго—псіхалагічнасць не індывідуальнасці, а мас, не адзінічнага, а агульнага, не статычнага, а дынамічнага.

Да ліку найбольш яркіх карцін аповесці адносіцца абрысоўка строгай мужнай і слаўнай фігуры Марціна Крамарчыка, яго чулае развітанне з комуністам Чэстам, які толькі перад гэтым кідаў у твар Крамарчыку суровыя словы пра небяспеку смерці.

Нядаўна ў газетах была надрукавана выключная па сваёй сіле інфармацыйная заметка пра тое, як беспрацоўная моладзь Віленшчыны, змучаная гадамі голада, галечы, начаваннем на халодных бульварах,—пайшла забіраць свой хлеб з пекарняў, у прадпрыемстваў і гандляроў. І як у гэтыя галодныя паходы унёс сваю сілу арганізацыйнасці комсамол Заходняй Беларусі. Нешта падобнае страшнае сваёй праўдзівасцю і мастацкай яркасцю нагадваюць малюнкі мітынга беспрацоўных веснавой ноччу, на бульвары. Гэта адно з самых лепшых месц у аповесці Эд. Самуйлёнка. У Самуйлёнка, які слаба агулам валодае майстэрствам пейзажа, дзіўна тут гарманіруе апісанне прыроды з усёй соцыяльнай карцінай.

Вялікім недахопам беларускай савецкай прозы ў асобе яе лепшых прадстаўнікоў з'яўляецца няўменне адбіраць найбольш характэрнае, тыповае, што выяўляецца ў вялікім награмаджэнні апісанняў, няяркасці вобразаў, адсутнасці бляску думкі і формы. Якраз тое, пра што гаварыў тав. Кассіор на першым Усеукраінскім з'ездзе пісьменнікаў. І яшчэ—бессюжэтнасць, рыхласць, нудная жвачка апісання якога-небудзь поплава, або таго, як селянін вядзе „падрыхтоўку“, каб люльку закурыць, або філасофскіх разваг на некалькі старонак. Гэта ўсё хваробы натуралістычных народніцкіх перажыткаў у нашай літаратуры. Якраз усяго гэтага пазбаўлены твор „Тэорыя Календрун“ Эд. Самуйлёнка. Творам „Тэорыя Календрун“ Эд. Самуйлёнак уваходзіць у нашу літаратуру не як пачынаючы пісьменнік, а як пісьменнік акрэсленых мастацкіх прыёмаў. Гэта-ж яшчэ зусім не азначае, што далейшы яго рост будзе адбывацца прасталінейна, без памылак і зрываў. Яго літаратурнае будучае, зразумела, будзе залежаць толькі ад яго самога.

І ў „Тэорыі Календрун“ ужо вызначыліся такія мастацкія недахопы ў Эд. Самуйлёнка, на якія нельга не звярнуць увагі. Гэтыя недахопы наступныя:

1. Павярхоўны паказ вобраза чалавека, неўменне старанна і скульптурна-ярка выпісаць партрэт героя, паказаць яго ўнутраны свет. Героі ў яго адно бліскаюць асобнымі сваімі чалавечымі рысамі, якія маюць дачыненне да дынамікі развіцця твору. Гэта асабліва стасуецца да паказу комуністаў-падпольшчыкаў.

2. Мова. Тут мы можам гаварыць больш катэгарычна і рэзка. На ўсёй мове аўтара адбітак нейкага казённага канцылярскага афіцыяльнага стылю. У яго вельмі абмежаваны слоўнік. Вялікая колькасць такіх „афіцыяльных“ выразаў, сказаў, слоў, як „Ён с т а р а ў с я захаваць у н у т р а н у ю р о ў н а в а г у. Ён і м к н у ў с я у п э ў н і ц ь самога сябе, што няма п о в а д у д л я в ы б у х а г н е в у, пералічваў у памяці ўсе парады дактароў, у т о й ч а с ц і, д з е я н ы р э к а м е н д а в а л і“. „В ы к р ы т ы с а к р э т з а м к а зрабіў гэту меру лішняй“ і г. д.

Мы заўсёды змагаліся супроць мяшчанскай слюнявай нацыяналістычнай мовы, дзе „сонейка залоціць сваімі апошнімі праменнямі“, „дзе крынічанькі с залатымі ключамі, дзе ўюцца, ой, каля лесу сцяжыначкі“,

але мы і супроць казённай афіцыяльнай мовы, якой прасякнуты твор Эд. Самуйлёнка, нават улічваючы тое, што Самуйлёнак у сваім творы мае справу з вайсковымі фашысцкімі чынамі, мова якіх нямінуча будзе насіць адбітак афіцыяльшчыны.

3. Самуйлёнак злоўжывае публіцыстыкай. Многія развагі Дроба, Чэста—гэта публіцыстыка. Не буду прыводзіць прыкладаў. Звяртаю толькі ўвагу на тое, што праз комуніста Дроба Эд. Самуйлёнак зусім няправільна разважае пра ўзаемаадносіны адзінічнага і калектыўнага: „А калі на шляху да партыі давядзецца загінуць Станіславу Дробу, дык што азначае смерць аднаго, калі застаюцца жыць і змагацца мільёны! Мізерная непрыкметная з'ява—смерць аднаго чалавека, адрантвенне маленькай чалавечай адзінкі"—і гэта паўтараецца шмат разоў на працягу твора. Няпраўда, скажам мы Самуйлёнку—маленькая чалавечая адзінка ёсць вялікая сіла ў калектыве, менавіта з гэтых маленькіх чалавечых адзінак і складаецца калектыў, без іх калектыва няма.

Ідэйнае адзінства, арыгінальнасць замыслу, імкненне расказаць нешта незвычайнае праз яркую мастацкую форму з'яўляецца адрозніваючай рысай творчасці Самуйлёнка з ліку іншых пісьменнікаў маладой літаратуры. Так выглядае творчы твар аднаго з лепшых талантлівых маладых пісьменнікаў Совецкай Беларусі Эдуарда Самуйлёнка.

У сувязі з творчасцю Эд. Самуйлёнка я спынюся некалькі на творчасці Міхася Блісцінава—маладога комсамольскага драматурга і празаіка, які не стварыў яшчэ, праўда, такіх яркіх твораў, як Эд. Самуйлёнак, але які творча сапраўды расце і зусім незаслужана замоўчваецца нашай крытыкай і літаратурнай грамадскасцю.

Спынюся каротка на п'есе Міхася Блісцінава „Агні Палесся", напісанай ім яшчэ ў 1930 г., і на апавяданні „Хітрасць", якое напісана ў канцы 1933 г.

Параўноўваючы гэтыя два творы, мы бачым, што М. Блісцінаў, хаця і далёка недасканала авалодаў літаратурным майстэрствам, аднак-жа вучыцца і сур'ёзна працуе над сваімі творамі.

Тое, што я разглядаю творчасць Міхася Блісцінава побач з Эд. Самуйлёнкам, гаворыць не столькі пра аднолькавасць усіх метадаў іх творчасці, колькі пра аднолькавую абодвым уласцівую сюжэтную яркасць твору, пра якую ўжо гаварылася вышэй.

П'еса „Агні Палесся" напісана на гістарычную тэму пра стракапытаўскае паўстанне ў гор. Гомелі. Сюжэтна п'еса „Агні Палесся" пабудавана такім чынам, што лёс комуністаў-чэкістаў, якія трапілі ў палон да Стракапытава, увесь час непаддзельна хвалюе чытача. Блісцінаў даволі ўдала ўводзіць прыёмы тармажэння і інтрыгі ў п'есу. У вобразе камандзіра Астаніна яму нават удалося выявіць рысы сапраўднага камандзіра плоць ад плоці, косць ад косці рэволюцыі. Астанін выяўляецца, як чулы чалавек, які ведае, на каго ён падняў сваю рэволюцыйную зброю і за каго ён змагаецца.

Аднак майстэрства стварыць мастацкі вобраз з'яўляецца асноўнай цяжкасцю Міхася Блісцінава. Праз гэта яго п'еса „Агні Палесся" не вылучаецца з разраду сярэдніх п'ес пра грамадзянскую вайну. Па-першае, Міхась Блісцінаў багата увёў у сваю п'есу лішніх эпізодаў і вобразаў, якія абсалютна ніякага дачынення да развіцця сюжэта не маюць. Такімі вобразамі з'яўляюцца Алімпіяда Маркаўна—жонка прыстава, доктар Граноўскі і яго дачка Людміла.

Шаблонна Блісцінаў паказвае „разлажэнне" Стракапытава і яго штаба ў жонкі прыстава. Усё гэта нагадвае сцэны з нязначных прымітыўных агітак, таксама як і ілжывай і непатрэбнай з'яўляецца сцэна „прызнавання ў любові" доктара сваёй дачцы Людміле. Бачыце, доктар думаў,

што яго дачка Людміла ідзе супроць рэволюцыі. Ён праз гэта мучыцца і нарэшце тайна адкрылася. Яна таксама ўдзельнічае ў рэволюцыйным змаганні.

Галоўным з недахопаў п'есы „Агні Палесся" з'яўляецца тое, што Міхась Блісцінаў не можа стварыць абагульняючага соцыяльнага вобраза—тыпа. Людзі ў п'есе „Агні Палесся" падабраны выпадкова. Няма тых яркіх і вырашальных рысаў у характары і паводзінах гэтых людзей, якія-б вылучылі іх з ліку іншых людзей сваімі адменнымі якасцямі. Цэлая група комуністаў—Лебядзевіч, Труцэвіч, Кліменка—яны ўсе падобны адзін на аднаго. Міхась Блісцінаў бездапаможны ў абрысоўцы іх характараў. Бадай, што праз усю п'есу яны праходзяць з азначэннем у рэмарцы „энергічны комуніст", „моцны комуніст". Таксама не дыферэнцыявана паказаны і вобразы ворагаў, напрыклад, Стракапытаў мае толькі адно азначэнне „жорсткі", „хітры", а галоўнае ў драматургічным творы—гэта стварэнне шматграннага, шматкаляровага і рознастайнага вобраза-тыпа.

Потым трэба адзначыць, што М. Блісцінаў вельмі слепа прытрымліваецца паасобных фактаў і таму паграшыў супроць агульных законаў гісторыі грамадзянскай вайны. Напрыклад, чырвонаармейскія палкі аказваюцца ў яго складзенымі выключна з рэакцыйных кулацкіх сіл, якія ідуць за Стракапытавым. Акрамя адзінага чалавека (чырвонаармейца Кузьмы) комуністы робяць, у паказе Блісцінава, памылку за памылкай. Яны кіруюцца не рэволюцыйнай мэтазгоднасцю, а нейкім азартам і з гэтай прычыны астаюцца на пагібель у гор. Гомелі, не пажадаўшы адступаць з гораду.

Так выглядае адна з ранніх п'ес Міхася Блісцінава—п'еса „Агні Палесся".

Але вось Блісцінаў надрукаваў у зборніку „Комсамольская моладзь" апавяданне „Хітрасць". Крытыка не сказала пра гэта апавяданне ніводнага дадатнага слова, а між тым з боку ідэйнага і з боку сюжэтнага апавяданне заслугоўвае вялікай увагі. Малады мастак, ап'янены ўласнай славай, напісаў карціну пад назвай „Класавае змаганне на вёсцы". Кулак паціху з-за вугла, падпальвае будынак з шыльдай „калгас". Сказалі яму, што карціна дрэнная і непраўдзівая. Тады ён едзе ў вёску да сваёй маці—актыўнай калгасніцы. Хадзіў адзін раз уначы з хлопцамі—комсамольцамі ахоўваць калгасны ўраджай, другую ноч—ніхто не трапляецца, а між тым нехта краў калгаснае збожжа. Праз некалькі дзён малады мастак—комсамолец знаходзіць гэта збожжа на двары у сваёй маці схаваным. Яго мучаць страшэнныя пачуцці. Ён непадзельна давяраў сваёй маці, лічыў яе сумленнай калгасніцай. Да гэтага моманту сюжэт апавядання развіт надзвычай добра і блізка па свайму характару, відаць, пераняты, нават перанесены на калгасны матэрыял з твораў О. Генры. Але далей Блісцінаў збіваецца на шаблон. Комсамолец-мастак расказвае пра гэтае здарэнне старшыні калгаса. Высвятляецца, што ў пакражы замешаны брыгадзір, які лічыўся самым сумленным у калгасе.

Ва ўсякім разе дадатнае ў гэтым апавяданні тое, што Блісцінаў у мастацкай форме раззбройвае ідэю хадульнасці, плакатнасці ў мастацтве. Сапраўды, якой смешнай і наіўнай выглядае карціна мастака, раней напісаная ім, калі ён вярнуўся ў горад з вёскі. Ён ужо хоць трошкі ўявіў, што такое класавае змаганне на вёсцы. Апавяданне напісана незвычайна просценькімі і нават наіўнымі фарбамі. У апавяданні не дарэчы ўплецена калецтва комсамолкі Сары. Аднак на фоне сюжэтнай слабасці многіх нашых твораў і нияркасці фарбаў у іх, гэты твор Міхася Блісцінава, напісаны просценькімі, але яркімі фарбамі, заслугоўвае дадатнай ацэнкі.

Барыс Мікуліч вызначаецца ў асяроддзі нашых маладых пісьменнікаў

тым, што ён, хоць вельмі часта і няўдала, аднак, шукае новае тэматыкі, імкнецца ставіць хвалюючыя пытанні і праблемы з жыцця нашай моладзі. Так, у аповесці „Наша сонца“, „Ускраіна“, і ў „Дужасці“ яго цікавіць лёс інтэлігента-рамантыка ў час рэволюцыі, у грамадзянскую вайну і ў соцыялістычным будаўніцтве. Нельга не лічыць дадатнымі гэтыя пошукі маладога таленавітага комсамольскага пісьменніка. І ў гэтым ён мае пэўныя перавагі перад творчасцю, напрыклад, такога пісьменніка, як Сяргей Знаёмы, які, наадварот, арыентуецца на сярэдні вобраз героя, на звычайныя падзеі і ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Б. Мікуліч шукае новых вобразаў людзей, вельмі мала да гэтага часу паказаных у беларускай совецкай літаратуры, уводзіць гэтых людзей у кола складаных і зусім незвычайных узаемаадносін, надзяляе гэтых людзей незвычайнымі пастулкамі. Так мастацкая інтэлігенцыя, якая бадай што зусім не адлюстроўвалася ў беларускай совецкай літаратуры, знайшла ў яго адлюстраванне. Інтэлігент-рамантык, яго захапленне вонкавымі бакамі рэволюцыйнай барацьбы, узаемаадносіны яго з комуністам, яго здрада, яго асаблівая ўзрушанасць і кіданне ад аднаго класавага лагера да другога—усё гэтае спрабуе асэнсаваць у сваіх творах Б. Мікуліч.

Падыходзячы да разгляду аповесці Б. Мікуліча „Дужасць“, нельга, зразумела, не адзначыць, як значны і дадатны факт тое, што Барыс Мікуліч бярэцца за такія складаныя і важныя тэмы, як праблема мастацкай інтэлігенцыі ў грамадзянскую вайну, як праблемы дужасці маладога пакалення соцыялізма. А гэтыя праблемы займаюць галоўнае месца ў аповесці „Дужасць“. Мы бачым у яго творы асобныя моманты, дзе ён сапраўды праўдзіва рысуе пэўныя псіхалагічныя дэталі чалавека, прытым гэтыя дэталі не шаблонныя і шэрыя, а яркія, маляўнічыя. Праблемы, якія ставіць у сваіх творах Б. Мікуліч, важны ўжо хоць-бы тым, што яны ў сэнсе вучобы для маладога пісьменніка даюць яму вельмі многае. Няхай праблема, пастаўленая Мікулічам распрацавана ў творы „Дужасць“ даволі слаба, але для аўтара гэта першы ўжо крок, гэта пакуль што няўдалыя подступы да распрацоўкі праблемы нашага часу.

Акрамя гэтага ў аповесці „Дужасць“ лепшымі раздзеламі трэба лічыць карціны працы і барацьбы на пабудове Магнітагорскага камбіната. Карціна рамонту домны, тое, як комсамольцы, рабачая моладзь, каб не падарваць сваю соцыялістычную вытворчасць, апускаюцца ў домну і рамантуюць яе на хаду, сведчыць, што пісьменнік умее выдзяляць важнае і асноўнае—вялікую адданасць рабочых нашай краіны сваёй соцыялістычнай радзіме. Б. Мікуліч імкнецца да даволі цэльнага і складанага сюжэта ў сваёй аповесці „Дужасць“. Другая справа, што гэтага цэльнага і складанага сюжэту ён не змог давесці да канца. І тут трэба спыніцца на кампазіцыйнай пабудове аповесці „Дужасць“. Менавіта даволі прымітыўная і блытаная кампазіцыя твору, якая выдаецца аўтарам, у ліку іншых элементаў твору, за наватарскую—разбівае і сюжэтную лінію аповесці. Кажуць, што Мікуліч шукае ў галіне формы новага, займаецца наватарствам у кампазіцыі, у пабудове сказу. Гэта яўнае непаразуменне, якое збівае з правільных шляхоў самога аўтара. Возьмем, напрыклад, кампазіцыю аповесці „Дужасць“. На першы погляд здавалася-б сапраўды кампазіцыя незвычайная, наватарская. У пачатку твора кампазіцыйна размешчаны раздзелы, якія адносяцца да сярэдзіны твору, у сярэдзіне да пачатку, а ў канцы карціны Магнітагорска, якія сюжэтна бадай зусім не звязаны з усім творам. Ці-ж можна такую кампазіцыю назваць наватарскай? Не! Кампазіцыя, дзе апісанне падзей у часе аўтар пачынае з сярэдзіны, даўно вядома літаратуры. А ў Б. Мікуліча твор пабудаван менавіта так. Толькі ў сярэдзіне твору аўтар дае экспазіцыю.

Так абстаіць справа з кампазіцыяй аповесці „Дужасць“.

Барыс Мікуліч у сваім творы імкнецца паказаць жыццё, ідэалы і погляды пераважна буржуазнай інтэлігенцыі ў рэволюцыю. Паказаць жыццё высока-кваліфікаванай інтэлігенцыі справа незвычайна цяжкая і складаная. Тут патрэбны асаблівыя сродкі выяўлення, асаблівыя вобразы. Тут менавіта патрэбна „лёгкае дыханне". Вось гэтымі якасцямі якраз ні ў якой ступені не валодае Б. Мікуліч. Асабліва дрэнна справа з паказам дэталі рэчы або з'явы, чалавека. Гэта дэталь зазвычай шаблонная, ужываная дзесяткамі пісьменнікаў, не яркая, не характэрная. Дарэчы, няўменне паказаць дэталь з'явы—характэрна для многіх маладых пісьменнікаў за выключэннем, бадай, Аркадзя Куляшова і Эд. Самуйлёнка.

Асноўнае, што кідаецца ў вочы пры разглядзе аповесці „Дужасць" гэта тое, што ў Б. Мікуліча, няма бадай, свайго арыгінальнага, цікавага чалавечага вобраза. Усё гэта людзі, пра якіх мы недзе чыталі, якіх мы недзе бачылі ў мастацкіх творах, якія ў лепшым выпадку маюць падабенства да вядомага нам ужо мастацкага вобразу, пераклікаюцца з ім. Тое-ж самае стасуецца і да асноўных карцін твору. Значыць асноўны грэх Мікуліча ў тым, што творы яго носяць ужо сляды кніжнасці. Значыць, не шматграннае жыццё выкарыстоўваў ён, а кнігі, кніжныя людзі і гатовыя стандарты пазіравалі Мікулічу, калі ён складаў вобразы Юткевіча, Маслоўскага, Берднікава і інш. Возьмем, напрыклад, вобраз Юткевіча. Гэта-ж факт, што Юткевіч не жыццёвы вобраз, а кніжны. Прычым нешта нам даўно знаёмае. Што гэта? Мечык з „Разгрома" Фадзеева, інтэлігент-здраднік. Так ён нясе ў сабе ўсе рысы Мечыка з „Разгрома". Такі-ж шаблонны вобраз шкодніка Берднікава.

Б. Мікуліч пачынае сваю аповесць з карцін грамадзянскай вайны. І вось карціны грамадзянскай вайны ён стварыў таксама на гатовых кніжных шаблонах, хаця няведанне аўтарам жыцця часамі прыводзіць да даволі кур'ёзных непаразуменняў. Напрыклад, Чырвоная Армія, якой кіруе комуніст Тарас, Грай і Краўчанка, робіць у паказе Б. Мікуліча адзін бессэнсоўны крок за другім. Яна пасылае ў якасці камандзіра атрада інтэлігента Станіслава Юткевіча, які раней ніякага дачынення да вайсковай справы не меў, які не ўяўляе сабе нават, што-ж такое вайсковая справа. Яна даручае яму кіраваць атрадам. Стары партызан, якому даручана было наглядаць за Юткевічам, быў збіты Юткевічам і Юткевіч адзін кідаецца на ворага, шукаючы рамантычных прыгод і ўчынкаў. Такім чынам белыя разбілі атрад чырвонаармейцаў. Нежыццёвасць усіх гэтых карцін у творы відавочная і чытач, зразумела, не верыць ім. Затым ідуць карціны здрады Юткевіча, звароту яго да бацькі, да арміі генерала Белова. Наогул-жа карціны грамадзянскай вайны паказаны банальна. У гэтых карцінах адно заўважаеш суцэльную неразбярыху, якую аўтар называе „кругаверцем боя". Банальныя вобразы белай арміі даюцца ў творы. Тут пануе суцэльнае „псямацьканне", бразгат, візаг, прычым аўтар падрабязна апісвае розныя банкеты з п'янымі „жанчынамі-пупсікамі."

Такі шаблонны паказ ворага мы бачылі ў шматлікіх сярэдніх і слабых творах літаратуры, а ворага трэба паказаць сур'ёзна. Калі-б ён прадстаўляў з сябе толькі п'яную кампанію, тады-б лёгка было яго перамагаць. Калі мы хочам мабілізаваць нашы сілы на змаганне супроць ворага, не трэба да яго ставіцца, як да нейкае слабае, нічога незначнае сілы. Успомніце, як паказаны вораг у выдатным фільме „Чапаеў". І чым мацней паказаны гэты вораг, тым значней гучыць у „Чапаеве" перамога над ім, тым больш бурна апладзіруе аўдыторыя гэтай выдатнай перамозе. У Б. Мікуліча, наадварот, вораг паказаны як нікчэмны і слабы.

Затым аўтар прасторна апісвае тое, як Юткевіч удзельнічае ў маса-

вым гвалтаванні жанчын казакамі. Гэткімі карцінамі перапоўнена ўся першая частка кнігі.

Такім чынам асноўная задача, якая стаіць перад Б. Мікулічам, гэта пазбаўляцца шаблонных кніжных вобразаў у сваіх творах, не гнацца за дробнымі і прымітыўнымі эфектамі, паказваючы ворага. Як не дзіўна, а шаблоннасць вобраза і шаблоннасць некаторых карцін у Б. Мікуліча спалучаецца з гэтымі ўяўнымі пошукамі наватарства, з вычурнасцю і манернасцю мовы і стылю.

Як-жа паказана інтэлігенцыя ў аповесці „Дужасць"? Б. Мікуліч у „Дужасці" імкнецца паказаць інтэлігенцыю вышэйшых пластоў грамадства, так сказаць, высока-кваліфікаваную інтэлігенцыю, а гэта задача надзвычай цяжкая. Тут патрэбна вывучэнне складаных інтарэсаў і жыцця гэтай праслойкі грамадства. Усяго гэтага ў Б. Мікуліча няма і атрымліваецца так, што высока-кваліфікаваныя інтэлігенты гавораць вычурнай і смехатворнай мовай мяшчан. Тут якраз няма „лёгкага дыхання", якое так уласціва Юрыю Олеша.

Б. Мікуліча цікавіць у аповесці, галоўным чынам, лёс двух людзей: інтэлігента Юткевіча і комуніста Краўчанкі. Юткевіч, сын буйнага балетнага актора, яшчэ ў грамадзянскую вайну здрадзіў совецкай уладзе і проста перайшоў на бок ворагаў. У карцінах грамадзянскай вайны Б. Мікуліч хоць і дужа чула ставіцца да інтэлігентаў, але паказвае іх мала праўдзіва. Надзвычай цікава ўспомніць, якім чынам малады Юткевіч першы раз выратаваўся з палону белых. Трапіўшы ў палон да белых, сярод п'янае кампаніі, ён так пачаў танцаваць, што салдаты і афіцэры паснулі ад гэтага магічнага танца моцным сном. Вось што піша пра гэта аўтар:

„У бязвольнасці, у атупенні раптам спыніўся (Юткевіч—*Ал. К.*) і навакольнае на момант пастала на сваіх мясцах. Гарманіст спаў, ашчапершы рукамі бутэльку. Спаўваспаваты казак. Храпла і спала ўся хата".

Альбо ў другім месцы Мікуліч піша, што Юткевічаў бацька выдатны балетны майстар, вядомы па ўсёй імператарскай Расіі, у знак пратэсту сопроць Кастрычніцкай рэволюцыі абкруціўся трохкаляровым сцягам і танцаваў балет „божа цара храні", а сын Юткевіча, стоячы на пасту з вінтоўкай, зімою, танцаваў балет „Майскія мроі".

Пасля сканчэння грамадзянскай вайны Станіслаў Юткевіч, нейкім цудам змяніўшы сваё прозвішча, прадаўжае прафесію свайго бацькі і апыніўся выдатным акторам балета на совецкай сцэне. Ён прыводзіць у „шалёны экстаз" совецкую публіку.

Таксама дрэнна Б. Мікуліч паказвае інтэлігенцыю і жыццё ў капіталістычным Захадзе. Жыцця на Захадзе Мікуліч не ведае, не вывучыў, не адчуў яго. Ён проста мастацкі паказ крызіса на Захадзе падмяняе хранікерскімі інфармацыямі з газет пра Захад. Прычым калі ў газеце гэтыя факты мелі у свой час вялікі сэнс, дык у творы, паўтораныя ў дзесяты раз, яны, бадай, што нічога не дадаюць да нашага прадстаўлення пра Захад. Мікуліч ужывае і паказвае факты, пра якія мы шмат разоў чыталі ў перыядычным друку. Тут і заслужаны прафесар, які іграе на Гердэнштрасе, каб зарабіць сабе на хлеб, тут і дэманстрацыя з інвалідам у калясцы, вобраз, які мы ўжо бачылі у „Судзе" В. Кршона. Яшчэ больш шаблонны паказ разлажэння Еўропы, кабачкоў, кабарэ.

Гэта сведчыць, што Б. Мікуліч часамі проста бесклапотна ставіцца да якасці сваіх твораў.

З усяго паказу інтэлігенцыі і капіталістычнага Захаду два словы ў характарыстыцы гэтай інтэлігенцыі запамінаюцца ў творы Мікуліча—

гэта невядома адкуль ўзятае „шыкоўна“ і „какетоўна“. І такі сапраўды больш нічога пра буржуазную інтэлігенцыю Мікуліч сказаць не можа.

Такім чынам мы бачым, што вялікае імкненне да вычурнасці, да ненатуральнасці мовы ўласціва Барысу Мікулічу. Такім чынам, мы бачым, што Б. Мікуліч высока кваліфікаваную інтэлігенцыю паказвае ў постаці дробных мяшчан. Ён не ўмее знайсці больш характэрныя рысы і фарбы для паказа гэтай інтэлігенцыі.

І ў паказе Магнітагорска не ўсё добра ў аўтара. Часамі гэты паказ нагадвае тое, пра што гаварыў тав. Косарэў:

„Бярэцца завод, пераважна гігант, вышукваецца ўдарнік пажадана з ордэнам. Твор выглядае так: спачатку трошкі біяграфіі героя, потым некалькі старонак адводзіцца захапленню з прычыны выключных машын, каля якіх працуе ўдарнік, далей увасхваленне ўдарнае працы героя“.

Тут мы маем на ўвазе і абязлічанасць і шэрасць у паказе рабочых і шаблонны сімвал дужасці і адвольнае ўвядзенне ў твор безлічы дзейных асоб, і, нарэшце, дзіўныя развагі аўтара пра перавыхаванне людзей на вытворчасці:

„На суседнім ложку ляжыць былы вораг.... душу якога пераварылі, як брудную бялізну ў велізарным катле, і чалавек зразумеў, што быў ён на краю крушэзны“.

Вось дык сапраўды ўяўленне пра перавыхаванне былых варожых нам людзей. Але вось яшчэ: Мікуліч уяўляе сабе так, што калі мы гаворым пра ломку псіхікі чалавека, дык такі сапраўды гэту псіхіку „ламалі“ ў літаральным сэнсе гэтага слова. І яно адбывалася так:

„Кацярына Неерзон з цяжкасцямі, але з поспехам ачышчала сваю псіхіку ад усяго таго, што было прадыктавана выхаваннем маткі. Карэнная ломка пачалася праўда даўно, з першага курса ВНУ, але працэс пераробкі яе... ішоў неспынна, прагрэсуючы ўсе наступныя гады.

Мастацкі твор павінен не гаварыць публіцыстычныя фразы, а паказваць працэс. Некалькі прыкладаў вельмі частай безгустоўнасці аўтара ў выбары мовы, у фразах: „А ж ы ц ц ё н а к а м б і н а ц е і ш л о п о ў н ы м н а в а р а т а м“. „І г о р а ч а п а ч а ў ё н в ы к л а д а ц ь л і ч б ы з д а б ы ч ы р у д ы“, „ч а л а в е к к і н у ў с я н а з я м л ю, с к р о б п а л ь ц а м і і р в а ў ц в я р д у ю п л о ц ь я е.“ „І р а з м а ш ы с т ы м п о ч ы р к а м з а п і с в а ў м е р а п р ы е м с т в ы“, „с а к а в і т ы м т э н а р а м ё н с п я в а ў р э в о л ю ц ы й н ы я п е с н і“.

Адзін раздзел пачынаецца нават так: „У тыя дні па ўсёй Еўропе цвілі пахучыя і буйныя ружы“. Залішне часта, а часамі і не дарэчы ўжывае Мікуліч наступныя словы і выразы: „неруш“, „роіла“, „барвянец“, „шыхаваліся“, „мірсцілася“, „здэтанаваны“, „гамана“. А вось прыклад яго моўнага наватарства: „Тонка мычыць цялё, ні даць, ні ўзяць, плача дзіцёнак“. Або такія пераклады з рускай мовы: „Сяброўка дзён маіх журботных“ і нават „конскія крупы“.

Супроцлеглымі Барысу Мікулічу з‘яўляюцца метады работы і апрацоўкі жыццёвага матэрыяла ў літаратурных творах маладога пісьменніка Сяргея Знаёмага.

Сяргей Знаёмы па манеры і характару сваёй творчасці проста процілеглы Барысу Мікулічу. Ён імкнецца да сапраўднай прастаты, яснасці вобраза. Праблемы яго твораў, іх ідэйны круг незвычайна простыя, узяты з жывога цела нашае эпохі. Гэта аповесці пра перамаганне сілы ўласнасці на невялікім (тыпу майстэрні) ганчарным заводзе, гэта перавыхаванне былога бяспрытульнага Казіма на вытворчасці.

Сяргей Знаёмы не ганіцца за вычурнасцю мовы і сказу. Любімым героем яго твораў з‘яўляецца камсамолец, малады рабочы, сярэдні сумленны працаўнік на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Тэматыка

прамысловай вытворчасці, якая пераважае ў Сяргея Знаёмага, імкненне да мастацкай прастаты, яснасці, праўдзівасці паказа, часамі ўмелая псіхалагічная зарысоўка людзей—гэта ўсё тое, што мы можам ацэньваць, як дадатнае ў творчасці маладога, растучага пісьменніка.

Я ўжо не кажу пра ўнутраны вялікі творчы рост С. Знаёмага—ад першай прымітыўнай кніжкі—нарыса, да даволі значнае аповесці „Біяграфія майго героя".

Але тут я хачу пераважна звярнуць увагу на тую небяспеку прымітывізма, якая зусім выразна ў творчасці С. Знаёмага.

Калі Б. Мікуліч злоўжывае рафінаванай псеўда - інтэлігенцкай мовай, дык С. Знаёмы вельмі і вельмі часта зніжаецца да ўзроўню прымітыўнай вясковай „мужыцкай" мовы і вобразаў.

Больш таго, С. Знаёмы вельмі часта захапляецца псеўданародніцкім слюнявым сантыментальным стылем старой народніцкай нацыяналістычнай літаратуры. Вялікі ўзровень мастацкага майстэрства і запас культуры не праглядаюць скрозь творы С. Знаёмага. Многія-ж яго творы вельмі моцна б'е бессюжэтнасць, цягучасць, стаўка на сярэднія, неяркія чалавечыя вобразы.

Возьмем пытанне пра яркасць чалавечага вобраза, пра вылучэнне характэрных і тыповых дэталяў і рысаў, і паглядзім, як гэта канкрэтызуецца ў творах С. Знаёмага.

Пластычная яркасць чалавечага вобраза, паказ чалавека такім, што мы не толькі яго можам мысленна ўявіць, але і бачыць, адчуваць усе найдрабнейшыя рысы яго твару, выгляд адзення, асаблівасці яго мовы—гэта ўсе тыя сапраўды-валшэбныя фокусы, якія характэрны для майстэрства вялікіх геніяў класічнай літаратуры. На гэта А. М. Горкі звяртае зусім выключную ўвагу. Ён расказвае нам, як ён сам шмат вучыўся ў вялікіх геніяў французскай літаратуры—Стэндаля, Бальзака, Флобера—гэтаму чараўніцтву: „Замежная літаратура, даючы мне вялікі матэрыял для параўнання, здзіўляла мяне сваім выдатным майстэрствам. Яна малявала людзей так жыва, пластычна, што яны здаваліся мне фізічна адчуваемымі, і прытым, я іх бачыў заўсёды больш актыўнымі, ніж рускія—яны менш гаварылі, больш рабілі.

Сапраўдны і глыбокі выхаваўчы ўплыў на мяне, як пісьменніка, аказала „вялікая" французская літаратура—Стэндаль, Бальзак, Флобер".

І далей Алексей Максімавіч піша: „Пластыцы, рэльефнасці, амаль фізычнай адчувальнасці выяўлення трэба вучыцца ў Талстога. Гэты пісьменнік не перавышаны ў сэнсе таго, каб даць такі вобраз, што да яго літаральна хочацца дакрануцца пальцамі".

Няўменне стварыць пластычна-яркі, скульптурна-адчувальны вобраз з'яўляецца характэрным для кнігі С. Знаёмага „Ганчары" і нават для апошняй яго апавесці „Біяграфія майго героя". Гэты прабел яшчэ павялічваецца ў С. Знаёмага ад таго, што ён аб'ектам сваёй творчасці бярэ сярэдняга працаўніка на заводзе. І замест таго, каб вылучыць найбольш яркія, тыповыя і выразныя дэталі, С. Знаёмы захоўвае гэтых людзей у творы ў так званым „натуральным" выглядзе, і вобраз атрымліваецца бледным, не мастацкім. Глядзіш на гэтыя вобразы і здаецца, што яны сухімі фарбамі вырысаваны на плоскасці. Вобраз не мае аб'ёмнага вымярэння, ён выглядае перад намі толькі аднымі, пэўнымі рысамі. І ніколі, бадай, у С. Знаёмага нельга прадставіць чалавечы вобраз ва ўсіх яго рысах твару, адзення, паводзін, мовы, дачыненняў да іншых людзей.

Праўда, С. Знаёмы не гоніцца за гігантамі вытворчасці, за нейкімі незвычайнымі рамантычнымі падзеямі. Ён бярэ дробны ганчарны завод, невялікі металургічны завод і апісвае іх у стылі „строга-рэалістычным". Ён вам не дазволіць ніякіх рамантычных „перапавелічэнняў, ці

фантастычных выдумак. І гэтым ён вельмі часта, літаральна ўласнымі рукамі, прыніжае, зводзіць да шэрай будзёншчыны свае вобразы.

С. Знаёмы не шукае арыгінальных тэм. Ад ложнага ўяўлення рэалізму, ён, відаць, і прышоў да таго, што шэрасць і аднавобразнасць характарызуюць нават апошнія яго кніжкі—„Ганчары“ і „Біяграфія майго героя“.

„Ганчары“—гэта кніжка пра двух братоў, парабкаў у мінулым, якія трапілі ў вытворчае жыццё. Адзін з гэтых братоў Максім—закаранелы ўласнік. Для яго вытворчасць—гэта толькі сродак, каб набыць сваё ўласнае, свой кут, сваю зямлю. Другі—Юрка цягнецца да навукі, да калектыва, яго мала цікавіць „сваё ўласнае“.

З кніжкі мы даведваемся багата фактаў пра тэхнічны працэс вытворчасці, але мы не даведваемся аднаго—што хацеў нам цікавага расказаць аўтар. Вывучыўшы гэту кнігу, можна стаць добрым ганчаром, але нельга ўявіць сабе, хаця-б у агульных контурах, вобразы людзей, якіх паказвае С. Знаёмы.

І Юрка, і Гірш, і Гаркавы, і Юлька, і Грашанка, і Васька, і Піліп Жук, і Хургін—гэта ўсё людзі, якіх не адрозніш адзін ад другога. Трэба аддаць справядлівасць, што толькі адзін Карпека яскрава вылучаецца, яскрава адрозніваецца ад усіх гэтых людзей. Ён характэрны тым, што дзесяткі разоў адмаўляўся піць і ніяк не мог зрабіць гэтага. Праўда, і гэтыя якасці, як нам вядома, літаратура ўжо даўно выкарыстоўвала.

Няяркасць вобразаў людзей пераносіцца і на агульна-апісальныя карціны твору, якія маюць характар сухі, публіцыстычны, няяркі.

Падобныя публіцыстычныя мясціны, якія сустракаюцца ў творы, яшчэ больш надаюць адцення шэрасці і нецікавасці паасобным мастацкім вобразам.

У аповесці, наогул, людзі жывуць толькі вытворчым жыццём, асабістае іх знаходзіцца ў цені, яно выпісана бледнымі фарбамі. Чым-жа жывуць людзі на вытворчасці, якой мовай яны размаўляюць, якія інтарэсы іх хвалююць? Гэтыя інтарэсы не выходзяць з рамак размоў пра мясцком, соцумову. Зразумела, пра той-жа мясцком, пра тыя-ж соцумовы можна было-б гаварыць іншай, больш яркай, больш хвалюючай, прыгожай і праменнай мовай.

Праўда, часамі заўважаеш, як аўтар парываецца індывідуалізаваць вобразы герояў, пэўнаму вобразу надаць пэўныя адменныя рысы. Але ў тым і бяда, што гэтыя рысы, ужо адменныя ад іншых, таксама вызначаюцца сваёй няяркасцю. Для таго, каб ахарактарызаваць комсамольца Гірша і выдзеліць яго з ліку іншых, падобных яму комсамольцаў, аўтар кажа, што Гірш вызначаўся тым, што калі яго абіралі куды-б то ні было, дык ён заўсёды адмаўляўся:

> „Бюро крышку зацягнулася. І ўсё Гірш вінават. Усім добры хлопец, але калі толькі зойдзе гутарка пра тое, каб яго куды вылучыць, дык упрэцца, як той бык. Вось і сёння. Кульша ўнёс прапанову зрабіць Янковіча старшым комсамольскай змены, а Гірш ашчапеніўся“...

Тое, што С. Знаёмы не ўмее даць індывідуалізаванага вобраза-комсамольца, маладога рабочага, выклікае яго выключнае захапленне бытавой комунай, зробленай комсамольцамі ў аповесці „Ганчары“. **Форма той бытавой комуны, якую ідэалізуе С. Знаёмы**, даўно асуджана нашай грамадскасцю. Гэта форма бытавой комуны, якая нівеліруе ўсе пачуцці, гэта па сутнасці комуна, пабудаваная на прынцыпах ураўнілаўкі і абязлічкі.

Захапленне аўтара бытавой комунай комсамольцаў звязана з яго стаўкай на сярэдняга чалавека. Не выратоўвае бытавую комуну ні дыспут, наладжаны ёю на тэму пра грамадства будучыні і пра палавую праблему, ні калектыўнае размеркаванне чаравікаў. А між тым апісанне комуны займае добрую палову ўсёй аповесці.

Не дзіўна, што героі С. Знаёмага, якія, дарэчы, шмат гавораць (у адпаведнасці з традыцыямі народніцкай літаратуры) і мала дзейнічаюць, трапляюць у смешнае становішча. Гірш з бытавой комуны хоча жаніцца, але справа ў тым, што тады ён павінен пакінуць комуну, а гэта не стасуе яго комсамольскаму гонару. Комуна-ж не захоча яму вызначыць паасобны пакой. Сакратар комсамольскай ячэйкі хоча дапамагчы ў горы Гіршу і раіць палову чытальні комуны забраць пад кватэру.

Мы гаварылі вышэй, што калі Барыс Мікуліч гоніцца за вычурнасцю мовы, стыля, дык Сяргей Знаёмы зніжаецца да ўзроўню вясковага прымітывізма, вясковай сантыментальнасці і тут ён падобны на рад другіх, больш сталых беларускіх пісьменнікаў, якія іспаведуюць мастацкія каноны стара старой рамантычнай школы, або каноны народніцкай, нацыяналістычнай белетрыстыкі. У спалучэнні з невялікім запасам агульнай культуры гэта нaвадняе твор ружовай рамантычнай вадзіцай пра сонейка і крынічанькі. Твор становіцца перапоўненым сантыментальным паказам прыроды, твор расцягваецца непатрэбнымі для ідэі і сюжэта апісаннямі. Выражаецца яно яшчэ і ў пявучым краснабайстве, у юрадзівасці мовы пад псеўна-народны стылёк. Гэта якраз тое, супроць чаго так рэзка выступаў Алексей Максімавіч Горкі.

Па лініі тыпажа і вобразаў гэта выяўляецца ў культываванні нацыяналістычных пракрокаў, беларускіх дзядоў, у стварэнні сялян і інтэлігентаў—сузіральнікаў хараства прыроды, у мяшчанскім і нават паталагічным паказе кахання. Вось пад уплыў гэтай „сантыментальна-плаксівай" прозы і трапіў С. Знаёмы ў кніжцы „Ганчары".

Больш таго, пачатак кніжкі „Ганчары" і многія мясціны яе з'яўляюцца, бадай, што класічным выяўленнем вясковай абмежаванасці, адсутнасці пачуцця да прыгожага, эстэтычнага, юрадзівай стылізацыі пад псеўданародны стылёк.

> „Каля лесу ўеццa-сцелецца сцяжынка. Ой, бяжыць, бяжыць непратоптаная каля пушчы, верасы, абапал нахіліліся, тонкае голейка сухое навалілася. Трашчыць голейка сухое пад нагамі, колюць гліцы, чамярыцы ногі босыя".

І, зразумела, што няправільнай з'яўляецца і лінія, якую абраў Барыс Мікуліч, як таксама няправільнай з'яўляецца і манера стылю С. Знаёмага.

У поўнай адпаведнасці з прыніжэннем сваёй мовы да ўзроўню вясковага прымітывізму С. Знаёмы захапляецца натуралізмам і дробнай бытаўшчынай.

І нарэшце перайманнем ад нацыяналістычнай літаратуры пахнуць шматлікія, так званыя, „філасофскія" развагі С. Знаёмага. Гэтыя філасофскія развагі незвычайна дробныя і даволі мізерныя. Напрыклад, у адным месцы С. Знаёмы доўга і нудна разважае пра сэнс „дарогі—шляха бясконцага".

У другім месцы ён з нейкай, неўласцівай комсамольскаму пісьменніку сантыментальнасцю і чуласцю, філасофствуе пра тое, „як вышаўшая з пука каласістая ніва ціхім золакам пачынае дужацца за жыццё".

Значным крокам наперад у параўнанні з кнігай „Ганчары" з'яўляецца аповесць С. Знаёмага „Біяграфія майго героя".

У чым выяўляецца ў гэтай аповесці творчы рост Знаёмага? Па-першае— Знаёмы зрабіў вялікі крок наперад у галіне стылю. Стыль гэтага твора абсалютна пазбаўлены саладкава псеўда-народнай сантыментальнасці, якая ўласціва аповесці „Ганчары“. Стыль у аповесці „Біяграфія майго героя“ больш мужны, роўны і спакойны. На Знаёмага у галіне стылю аказаў дадатны і зусім патрэбны уплыў Кузьма Чорны.

Па-другое — у аповесці „Біяграфія майго героя“ С. Знаёмы ўмее стварыць псіхалагічны вобраз, псіхалагічную карціну. Гэта адносіцца не толькі да вобразаў людзей, але і да пейзажа. У процілегласць свайму мінуламу захапленню псеўданароднымі вобразамі ён зараз у спакойных і чоткіх фарбах дае даволі яркую карціну прыроды:

Замест грубасці і паталагічнай аголенасці ў паказе кахання, якое было ўласціва Сяргею Знаёмаму у кніжцы „За дамбаю“— у аповесці „Біяграфія майго героя“ любоўныя адносіны паміж комсамольцамі паказаны неяк па асаблівазму цёпла і да празрыстасці чула, далікатна. Так надзвычай яркімі і мяккімі фарбамі ім выпісаны момант спаткання Рэнькі з Казімам пасля даволі доўгага растання.

Аднак-жа горш абстаіць справа з усім творам цалкам і, зноў увесь грэх, і грэх асноўны, Знаёмага заключаецца ў адсутнасці яркіх абагульняючых чалавечых вобразаў. Вобразы выпісаны Знаёмым плоскасна. Яны не жывуць шматграннымі і багатымі пачуццямі эпохі. Іх пачуцці заключаюцца, бадай, выключна ў тым, што яны любяць свае варштаты, што яны захоплены сваёй вытворчасцю, што яны ні на хвіліну не хочуць пакінуць сваю справу, што яны доўга і нудна разважаюць пра выкананне промфінплану, што асабістыя іх інтарэсы і жыццё не яркія.

Правільна сказаў тав. Косарэў: „Моцна любіць не ўмеем і ненавідзець не навучыліся“.

Пластычнай яркасці вобразаў С. Знаёмы ў сваім творы даць не можа. Здавалася ў пачатку, што Казім, які правёў пакутнае жыццё бяспрытульнага і выпадкова яшчэ да рэволюцыі пазнаёміўся са старой большэвічкай Мар‘яй Іванаўнай Каравай, будзе развіты ў цікавы вобраз чалавека нашай будаўнічай эпохі. І вось пасля доўгага растання ён сустракаецца з Каравай у самым пачатку аповесці і з гэтага моманту сюжэтная тканіна аповесці абарвана. Ён спрабуе гэтую сюжэтную тканіну яшчэ ўзнавіць у эпізодзе кахання Казіма да Рэнькі, але дарма. І гэты твор С. Знаёмага, як і аповесць „Ганчары“, не мае адзінай сюжэтнай лініі. Казім прыходзіць на вытворчасць і там цягнуцца ў яго нудныя і шэрыя гадзіны яго існавання.

Непраўдзіва паказвае Знаёмы перажыванне Казіма на вытворчасці. (Ды, бадай, Казіму перавыхоўвацца не было чаго, бо злачынцам ён ніколі не быў). Гэта перавыхаванне Казіма ў паказе Знаёмага адбываецца праз уцягненне яго ў пажарную завадскую дружыну. Прычым аўтар так няўмела і аголена-тэндэнцыйна ўсё гэта паказвае, што чытач яўна не верыць.

Каб увесці Казіма ў арэол героя, аўтар у адзін і той-жа дзень „упісвае“ Казіма ў пажарную дружыну, а праз некалькі гадзін робіць пажар на вытворчасці з тым, каб Казім мог паказаць сваё геройства.

Апісанне вытворчых працэсаў займае вялікае месца і ў гэтай аповесці Знаёмага. Людзі не маюць выразных рысаў, якія-б адрознівалі іх ад іншых. Адзіны вораг сярод рабочых цэха, дзе працуе Казім, гэта Кізіла. І то чытач адразу з першай-жа старонкі адчувае і ведае, што гэта вораг, а аўтар ўсё яшчэ імкнецца ўгаварваць чытача, каб ён не быў канчаткова пераканазны, што Кізіла вораг. Ён завязвае дружбу між Казімам і Кізілам і гэтым хоча выратаваць, знайсці інтрыгу. Але дарэмна, і характар развязкі, і сутнасць Кізілы ўжо ясны для чытача.

С. Знаёмы ў аповесці „Біяграфія майго героя“, як і ў аповесці „Ганчары“, імкнецца зрабіць нейкую уяўную дыферэнцыяцыю між дзейнымі асобамі, але рысы, якія адрозніваюць пэўнага чалавека ад другога, такія нязначныя, такія дробязныя, што аўтар бездапаможна кідае гэтую работу.

Каб зрабіць больш яркім вобраз комуніста Драгуна, Знаёмы надаў яму такія дзіўныя рысы: Драгун, добры комуніст, у пачатку з'яўлення на завод Казіма, сустракае апошняга варожа і, такім чынам, Знаёмы, хацеў ажывіць гэты мёртвы папяровы вобраз.

Але справу не трэба разумець так, што каб даць тыповы яркі вобраз чалавека, дык трэба абавязкова малюваць найпадрабязнейшы партрэт героя, абмалёўваць усе рысы яго твару, адзенне, паводзіны. Гэта не абавязкова. Адна трапная фраза, адзін гест, адзін нязначны погляд можа стварыць цэлае уяўленне пра чалавека. Напрыклад, Ільья Эрэнбург у рамане „Дзень другі“ менавіта такімі мазкамі стварае поўнакроўны і яркі вобраз чалавека.

Такім чынам рашаючыя недахопы і памылкі С. Знаёмага ў аповесці „Біяграфія майго героя“ заключаюцца ў наступным:

Па-першае, няма пластычнага і яркага вобраза чалавека. Аўтар апісвае вытворчасць і працэсы вытворчасці, не ўваходзячы у інтымнае жыццё і інтымныя адносіны сваіх герояў, а калі гэтыя інтымныя адносіны і паказваюцца, дык толькі як нязначны дадатак да працэсаў вытворчасці. Такім чынам аповесць складае выяўленне шэрасці і нияркасці мастацкіх прыёмаў аўтара.

Няма ў аповесці пачуцця высокай любові і вялікай ненавісці.

У аповесці, напрыклад, сам па сабе нядрэнна паказан тып ворага Кізілы, які з вялікай ненавісцю ставіцца да совецкай рэчаіснасці. Але асноўнае, гэта нияркасць вобразаў людзей. У спалучэнні з бессюжэтнасцю аповесці яны ствараюць тое, што яна не ўзнімаецца над узроўнем сярэдніх твораў нашай літаратуры.

Мы гаварылі раней, што адсутнасць сюжэту ёсць выражэнне пасівізма, павольнасці. Якраз гэты пасівізм, павольнасць, адсутнасць вялікіх рухаў і сутычак чалавечых інтарэсаў характарызуюць твор Знаёмага „Біяграфія майго героя“.

Аўтар свой твор не прадумаў так, як гэта патрэбна было прадумаць. І таму ён атрымаўся расплыўчатым і таму аўтар, уласна кажучы, не ведае, за што ўхапіцца, пра што расказаць у першую чаргу.

Роўны стыль твора, без яркіх параўнанняў і метафар, адцяняе вышэй згаданыя недахопы твора С. Знаёмага „Біяграфія майго героя“.

Перад Знаёмым таксама, як і перад другімі маладымі пісьменнікамі, стаіць задача ўпартай творчай вучобы, упартай творчай работы. Трэба вызваляцца ад спрошчанага падыходу да з'яў і працэсаў рэчаіснасці. Трэба набываць яркасць мовы, яркасць вобразаў, смеласць параўнанняў, вялікую цяплыню ў дачыненні да совецкай рэчаіснасці і людзей, якія яе твораць. Трэба змагацца за высокую сюжэтнасць твору. Але патрэбу ў сюжэтнасці С. Знаёмы адразу-ж адчуе, як толькі ён адыйдзе ад нуднага шаблоннага трафарэтнага апісання героя. Чым больш Сяргей Знаёмы будзе самакрытычна ставіцца да сваіх уласных твораў, тым гэта будзе больш дапамагаць яго творчаму росту.

* * *

Мне неаднаразова даводзілася выступаць з ацэнкай творчасці Аркадзя Куляшова і заўсёды яго творы выклікалі вялікія спрэчкі і рознастайнасць у поглядах. Аднак-жа нават яго літаратурныя праціўнікі

вымушаны прызнаць у асобе А. Куляшова не зусім абыдзенную з'яву на нашым літаратурным фронце.

А. Куляшоў паэт вялікага талента і творчых магчымасцей. Гэты яго талент успыхвае блёсткамі ў паасобных яго творах. Гэты яго талент даў яму мажлівасць яшчэ ў 1930 годзе напісаць арыгінальнай рытмікай, вельмі блізкай да рытмікі народнай творчасці, арыгінальнай паэтычнай мовай, вобразамі вельмі блізкімі да народнай творчасці, паэму пра калек, „сумных ваяк імперыялістычнай вайны". Ён пісаў у гэтай сваёй паэме:

...І чулі балоты прэсныя,<br>
І чулі ўсе птахі лясоў,<br>
І чулі вазёры і долы,<br>
Па вёсках бабулі старыя,<br>
І чулі ўсе травы дзікія,<br>
Салдацкую сумную песню,<br>
Паходную песню шляхоў—<br>
І песню салдацкае долі,<br>
І песню салдацкае крыўды,<br>
І песню салдацкай радзімы".

Праз рытміку, часам надзвычайна аднастайную, праз радкі, вельмі блізкія да прозы, выяўляецца рэволюцыйная рамантыка А. Куляшова.

Заўсёды здзіўляе ў творчасці А. Куляшова тое, што яго празаічныя радкі і вобразы, аб'екты яго песні такія зямныя, такія блізкія да жыцця, простыя і шчырыя, яны ўзяты ад зямлі, ад прыроды, але яны па-дзіўнаму спалучаюцца з рамантычнай і нават сімвалічнай ўзнятасцю і імклівасцю.

А. Куляшоў рамантык, але ў яго творчасці адсутнічаюць звыклыя атрыбуты рамантычнай і сімвалістычнай паэзіі. Гэта рамантык, які не ў неба зварачае свае погляды, не на тэмах абстрагаванага кахання кандэнсуе сваю увагу, не абстрактна-рамантычнай рытарычнасцю дзейнічае,—а рамантык зямны, калі так можна сказаць, кроўна звязаны з усімі радасцямі і горам эпохі.

Аб'екты рамантыкі А. Куляшова—гэта птахі, лясы, вазёры і долы, травы дзікія, косы, арэшнік, хмары, рэкі, дубы, сосны—усё вялікае зямное і прыроднае ўсхваляецца А. Куляшовым. А таксама ўзвялічвае мужнасць комсамольцаў, якія капаюць фасфарыты, мужнасць трактарыстаў, параходы, якія крычаць акіянскімі грубымі галасамі і трактары, што пераклікаюцца з імі. Рамантызацыя ўсіх гэтых аб'ектаў паўтараецца ў творах А. Куляшова апошніх гадоў надзвычай часта. Гэта і ёсць тое новае, дадатнае, што ўнесена А. Куляшовым у беларускую савецкую літаратуру.

Праўда, некаторыя творы і вобразы Куляшова маюць падабенства да твораў Эд. Багрыцкага, але А. Куляшоў робіць у нашай літаратуры сапраўдны крок наперад тым, што процістаўляе сваю творчасць розным мяшчанскім канарэечнікам, якія ўздыхаюць па „свежых ружах соцыялістычнага будаўніцтва", таксама, як яны раней ўздыхалі па ружах і гітары любімай, якая „терзала" іх кволае сэрца. Цяпер аб'ект сваёй ранейшай ідэалізацыі—гітару, яны змянілі на молат, які бадзёра у руках „чорнавокай любімай" выконвае промфінплан.

Гэтым канарэечнікам А. Куляшоў процістаўляе празаічнасць радка, зямносць вобраза, разбурае кволасць і „нежнасць" страфічнай будовы.

Аднак Куляшоў адчуваў, што зямносць вобраза, празаічнасць радка не павінны прыводзіць да спрашчэнства, шэрасці, беднасці, абыякавасці, а таму ён гэтыя зямныя рэчы і з'явы рамантызаваў, а ў некаторых выпадках нават паставіў на ілжывыя штучныя рамантычныя і фанта-

стычныя хадулі. Гэта і прывяло да пэўных літаратурных няўдач паасобных твораў А. Куляшова, і ў першую чаргу паэмы „Аманал“.

Давайце разбярэмся, у чым заключаюцца гэтыя творчыя памылкі А. Куляшова, у паэме „Аманал“.

Нясталасцю светапогляда і нясталасцю майстэрства А. Куляшова тлумачыцца агульна кампазіцыйная раскіданасць паэмы, адсутнасць адзінай сюжэтнай лініі. Дарэчы гэта кампазіцыйная сюжэтная нясталасць паэмы выклікана ўсім стылем і метадам стварэння твору.

„Аманал“—гэта цалкам рамантычны і нават з элементамі сімволікі, твор Прычым А. Куляшоў ў адпаведнасці з асноўнымі прынцыпамі пабудовы вобразаў, гэту сімволіку імкнецца зрабіць найбольш зямной і канкрэтнай. Так, Маладосць, Юнак—двое комсамольцаў-арганізатараў змагання супроць бандытызма, яны-ж ёсць сімвалічнае выяўленне вобразаў маладосці і паэтычнай фантазіі. Гандляр, па замыслу аўтара, павінен быць таксама шырокім абагульненнем тыпа. Вобразы комсамольцаў, якія капаюць фасфарыты, таксама павінны выяўляць нейкі сімвал магутнасці, яркасці новага пакалення. Сімвалічнымі з'яўляюцца і лясы і нават трактары, якія адухаўляюцца, як жывыя істоты. Сімвалічным планам паэмы тлумачыцца і ўвядзенне ў яе такіх асоб, як паэт Развой, настаўнік, Аўгінка, безліч ненармальных людзей.

Змяшанне рэалістычнага плану з сімволікай робіць незразумелымі, незвычайнымі і нават недарэчнымі некаторыя вобразы у паэме „Аманал“. Часамі гэтыя недарэчныя, ілжывыя вобразы тлумачацца і проста недастатковай ўважлівасцю да работы, неахайнасцю А. Куляшова. Напрыклад, на 8-й старонцы ён піша пра Гандляра:

> У яго ёсць маёнтак
>     (вядома на паперы)
> Было: тысяча душ сялян
>     (ні многа, ні мала)
> Потым:
> Калі ён быў генералам
> Я ў яго быў афіцэрам".

Кожнаму зразумела, што маёнтка з тысяччу душамі ў Гандляра, былога памешчыка, не магло быць нават да рэволюцыі, бо не мог-жа гэты чалавек ад часоў прыгона дажыць да рэволюцыі.

Вельмі часта размовы дзейных асоб у паэме „Аманал“ нагадваюць верш Велміра Хлебнікава, калі з аднэй думкі нечакана дзейная асоба, а часамі і сам аўтар пераходзіць на другую і ствараецца ўражанне, што гавораць людзі, у нейкай трызні і што для іх абрысы свету раптам змяніліся, свет паўстаў у іншым выглядзе Так, без сувязі, бадай, што па вар'яцку, разважае настаўнік у паэме „Аманал“:

> Зноў той-жа прыкры, мірны захад
> Быццам
>         пеўнікавага сэрца
>                 крывёю абліты
> І так хочацца зірнуць назад,
> Прыгадаць знаёмыя аблічча.
> Растуць дзеці пад захадавым знакам,
> Каб пасля з сэрца
>                 не вытравіць ніколі.
> І прынясе да магілы такі небарака
> Пыл і адвячорак ваколіц...

Прытым дзейныя асобы ў Аркадзя Куляшова па волі аўтара твораць нешта незвычайнае. Яны не падпарадкоўваюцца ніякім законам логікі.

Напрыклад, Юнак, які на працягу ўсяго твору пра штосці спрачаецца з настаўнікам, з Развоем, праз некаторы час Юнак гэты, якога

аўтар выдае за вытрыманага комсамольца, які змагаўся ў грамадзянскую вайну за совецкую ўладу, апыніўся ў хаце кулака Худа і там таксама пра штосці невядома спрачаецца з настаўнікам. Такім-жа невядомым чынам ён апыніўся і ў хаце Гандляра.

Там, дзе аўтар прыбягае да фантастычнага плана, ён адным радком змяняе цэлыя эпохі ў развіцці нашай краіны. Напрыклад, паказ змены перыяда НЭП'а перыядам соцыялістычнай рэканструкцыі зроблен праз радыёрупар. У эпоху НЭП'а да слыха людзей урываецца голас радыёрупара, які абвяшчае, што ў краіне Советаў не павінна быць беспрацоўных.

Гэтая-ж фантастыка робіць тое, што для кулака Жыгнера праблема электрычных плугоў становіцца нібыта вырашальнай у яго барацьбе супроць пралетарскай рэволюцыі. Таксама, як сын яго інжынер, каб толькі дапамагчы бацьку, абяцае яму затапіць разам з цэлай шахтай комсамольца Калужнага, абы толькі ён не выкрыў махінацый яго бацькі.

І нават у сапраўдны вельмі значнай і вельмі талантлівай паэме А. Куляшова „Гарбун", дзе аўтар паказвае выключную якасную работу над паэтычным радком, дзе так высока стаіць алітарацыйны бок твору, дзе аўтар сцісла, ярка стварае паэтычныя карціны, сапраўды магутныя па зместу—у гэтай-жа паэме мы маем цэлы рад пагрэшнасцей А. Куляшова, галоўным чынам, супроць жыццёвай праўды, па лініі надання зусім неўласцівых якасцей тым зямным рэчам і з'явам, якія ён з такім захапленнем рамантызуе. Напрыклад, А. Куляшоў піша пра старасту, што ён „кіраваў разам пеклам і раем, войт дзяржаўнай казны і царкоўнай казны". Натуральна, што паняцце „войт" пэўным чынам адэкватна, аднак і розніца ад паняцця „стараста" звычайна, не ўкладваецца ва ўяўленне, чаму войт павінен абавязкова ўладаць дзяржаўнай казной, а тым больш царкоўнай казной.

Альбо там-жа, ствараючы карціну кулацкай сядзібы Анісіма Шкроба, ён піша:

> Кавалі, запаліўшы
> Печы і горны,
> Пекла працы
> Клялі...
> **І за гробам ішла**
> **Старшынёва**
> **Апека.**
> **І пад крыжам**
> **Крычалі яму:**
> **— Не карай!**

Тут нічога незразумела, за якім гробам хто ішоў і чаму іменна пад крыжам гэтыя пакутнікі, якія трапілі ў рукі да Анісіма Шкроба, прасілі ў яго ратунку.

А. Куляшоў вельмі часта ігнаруе сэнсавы бок твору за лік алітарацыі, за лік гучання пэўных радкоў. Напрыклад, пра Цімоха Загулу сказана, што ён лёг на зямлю пад дубовую шулу і памёр. Затым яго труну ў полі засыпалі пяскі. І тут-жа сказана, што ў асінніку ціхім над дубам гарбатым пахавалі яго парабкі.

Наперакор сэнсу А. Куляшоў у карціне, дзе парабкі выказваюць сваю жалобу па Цімоху Загулу, піша, што адзін з гэтых парабкаў выказвае пажаданне пакланіцца асінам, што паўсталі ў рад і імем гэтых асін выказаць жалобу.

Альбо, калі А. Куляшоў паказвае малюнкі працы комунараў, ён піша:

> Вы-ж працуйце да зары.
> Ад вашых сякер
> **Дрэвы скачуць дагары**
> **І якоча звер.**

Усе гэтыя пагрэшнасці А. Куляшова супроць жыццёвай праўды вынікаюць з вялікай рамантызацыі зямных з'яў і працэсаў рэчаіснасці. Таму ён вельмі часта надае людзям і пэўным прадметам зусім неўласцівыя рысы, паводзіны, характарыстыкі.

Да ліку адмоўных бакоў творчасці А. Куляшова трэба аднесці тое, што асартымент з'яў і прадметаў, якія А. Куляшоў рамантызуе і выкарыстоўвае ў сваіх творах, незвычайна абмежаваны, бедны. Гэта пераважна—р о с ы, х в о і, д у б ы, б ы к і, р ы б ы, г у с т ы я т р а в ы, х м а р ы, р э к і, наогул гэты асартымент складаецца галоўным чынам з рэчаў і з'яў прыроды.

Нават у лепшай паэме А. Куляшова, у паэме „Гарбун“, не кажучы ўжо пра „Аманал“, сюжэтная лінія, бадай, што адсутнічае.

Не гледзячы на тое, што А. Куляшоў працуе ў галіне эпічнай паэзіі, паступкі дзейных асоб у яго зусім выпадковыя і нічым не абумоўленыя. Вось сядзіць сабе чалавек спакойна, раптам ён ўскочыў на каня, і ўся ваколіца замёрла, прыціхла, слухаючы страшны конскі тупат. Вось невядома як Шандабыла, які толькі што прасіў у кулака Рома ключы ад свірнаў з хлебам, апынуўся ў лесе і там яго забівае Ромаў брат.

Разрыўнасць сюжэтнай лініі настолькі выразна, што цяжка і, бадай, немажліва сказаць, якім чынам пойдзе развіццё падзей у творы.

Мы вышэй ужо гаварылі пра тое, што А. Куляшоў рамантызуе зямныя рэчы і з'явы і ў гэтым дасягае вялікай эмацыянальнай сілы. Гэта асабліва выразна ў паэме „Гарбун“, дзе гэтая зямная рамантыка адцяняецца яшчэ мужным рытмічным поступам і вытрыманасцю, бадай, усяго твору ў простых і суровых словах. Алітарацыйная пераважнасць у гэтым творы буквы „р“.

„Чулі рэкі і вазёры
Чайкі сумныя крычалі,
Гулі дрэвы і пячоры,
Як Загулу катавалі“.

„Кара—вырасла травою
І наскрозь праходзіць глыбы,
Пад глыбокаю вадою
Захавалі яе рыбы“.

Тут, па рамантычнаму, як жывыя істоты, паўстаюць перад намі рэкі і вазёры, дрэвы чуюць, як катавалі Загулу, тут рыбы пад глыбокай вадой захавалі кару, якая вырастае густымі травамі.

Дрэнна адно, што рамантызацыя мужнасці чалавека ў А. Куляшова пераносіцца і на нашых ворагаў, якіх, зразумела, не трэба паказваць шаблонна, але якіх і няма патрэбы так патэтычна і па-мастацку ярка рамантызаваць, як гэта робіць Куляшоў ў дачыненні да эсэра Рома.

Тады ён скочыў на каня,
Як даў каню пад бокі—
Да позняй ночы ад паўдня
Гулі ў дарогах скокі.
Дзе знак кідалі капыты,
Паслі ў тым месцы дзівы:
— Касіце панскія жыты
І маладыя нівы!
Як хроп той конь
Аж беглі з хат
За ім людскія сем'і.
— Належаць вам ад гэтых дат
Усе лясы і землі!
Як бег той конь, ажно сычы
Знікалі ў ноч і слеплі.
— Сам пушчы панскія сячы,
Будуй дамы і грэблі!“

Дрэнна атрымліваецца і тады, калі пад уплывам такой рамантызацыі людзей, сур'ёзныя людзі пачынаюць вытвараць зусім несур'ёзныя рэчы. Напрыклад, комунары ў колькасці 13 чалавек, якія прыйшлі на хутар забіраць свае роднае, сваю зямлю, сваё дабро, скачуць пад гром і навальніцу.

„Расла навала, трэск і стогн,
Гром рагатаў над Сожам,
І там скакаў рыбак Антон,
Крычаў:—Мы пераможам!"

Такім-жа малюнкам, які супярэчыць праўдзе, з'яўляецца малюнак, калі бык падхапіў кулака Анісіма Шкроба і скінуў яго ў вір возера.

Трэба аддаць справадлівасць А. Куляшову, што гэты момант не праўдзівы, які ў жыцці быць не мог, напісан ім такім чынам, што гэтай няпраўдзе, бадай, верыш.

Такую няпраўду А. Куляшоў піша і пра Рога—парабка, які, збіты сваім гаспадаром, бег гадзіну-дзве на голас воўчы, страшны, кінуўся ў гушчар „лес ломячы сабой". Гэта такі мастацкі вобраз, які супярэчыць праўдзе, але якому нельга не верыць—так ярка і такімі магутнымі радкамі ён напісаны.

Нават у паэме „Аманал" А. Куляшоў змог стварыць паасобныя незвычайна яркія строфы, прысвечаныя маладосці нашай эпохі, нашым трактарам, якія, як жывыя, сумуюць па акіянскіх караблях, нашым комсамольцам, якія капаюць фасфарыты, накіраваць словы ненавісці да нашых ворагаў.

Паэма „Гарбун" гэта паэма пра тое, як людзі, пакутнікі, прыціснутыя цяжарам эксплаатацыі, беднасці, галечы, вызваленыя соцыялістычным Кастрычнікам, нясуць праз вякі сваю ярасць да эксплаататараў, кулакоў і сваю бязмерную любоў да комунізма, у які яны ўваходзяць як уладарныя гаспадары.

Аркадзь Куляшоў, надзвычай уважліва працуючы над вобразам, кандэнсуе сваю думку, выражае яе ярка і глыбока.

Успомніце малюнак выгнання комунараў з панскіх харомаў. Што, гэта іх паражэнне? Не. А. Куляшоў так скульптурна-ярка выпісаў постаці комунараў, што іх адступленне з харомаў гучыць, як іх перамога. Вось што кажа ім Шандабыла:

—Выбірайцеся ў дарогу.
Набівайце патранташы,
Каб чакалі на трывогу,
Стрэльбы нашы!

Нам спакой і волю бор дасць,
Данясіце-ж да сасонак
І жыццё дзяцей і гордасць
Сваіх жонак!
Каб сыны ў мяхах ваўчыных
Крэпка спалі на світанку,
Вы спявайце, вязучы іх
Калыханку!
Каб ніхто з іх не пабачыў
Слёзы матак,
Зірк трывожны
Каб надоўга след тут значыў
Крок наш кожны!
Ен ішоў высокі,
Горды,
І яго шляхі гуталі,
А навокал білі ў вёдры,
І раўлі, і рагаталі".

Так выглядае творчасць Аркадзя Куляшова, аднаго з лепшых нашых рэволюцыйных паэтаў, паэтаў перадавых не толькі для нашай маладой літаратуры, але і для ўсяго паэтычнага фронта беларускай совецкай літаратуры.

* * *

Я далёка не ахапіў усяго фронта маладзёжнай беларускай совецкай літаратуры. Шмат і больш таленавітых і менш таленавітых маладых пісьменнікаў засталіся па-за маёй увагай. Так, мною не разглядалася творчасць такіх маладых пісьменнікаў, як Алесь Зарыцкі, Александр Шарапаў, Зяма Півавараў, Паслядовіч, а таксама творчасць таварышоў Ушакова, Шынклера, Агняцвет, Люгоўскага і інш.

Я імкнуўся, наколькі гэта мажліва, найбольш аб'ектыўна і правільна, не ўваходзячы ў лішні палемічны задор, ацэньваць па заслугах таго ці іншага пісьменніка, той ці іншы твор.

Агулам-жа мне здаецца, што ўсе таварышы, якія тут разглядаліся, творчасць якіх далёка не аднолькавая па якасці, з'яўляюцца людзьмі, безумоўна, значных здольнасцей і перад імі ўсімі стаяць вялікія задачы, як і перад усімі намі, як і перад усёй нашай літаратурай.

Авалодаць культурай, створанай чалавецтвам, з боем, але здабыць гэты цудоўны сакрэт вялікіх геніяў літаратуры мінулых эпох, пра якіх гаварыў Алексей Максімавіч Горкі, і якія зрабілі свае творы няўміручымі помнікамі сваёй эпохі.

Працаваць і вучыцца—вось асноўныя задачы, якія стаяць перад усімі намі. Працаваць так няўтомна, як працаваў у свой час Бальзак, як няўтомна працуе вялікі пролетарскі пісьменнік Максім Горкі. Гэта той ідэал працаздольнасці мастака-пісьменніка, да якога мы павінны імкнуцца.

Анна Грудская

# ПРА ГЕРАІНЮ ЧАСУ

## Заваяванае—не запісана

### І. У ЧЫМ СУТНАСЦЬ ПРАБЛЕМЫ?

*„Ты идешь по лестнице крутой*
*И дерзко жжешь пройденные ступени".*
*(Некрасаў.)*

Словы Некрасава заўсёды прыходзяць на памяць у хвіліны, калі думаеш пра новы тып жанчыны-калгасніцы, перадавой работніцы, жанчыны—арганізатара, вучонай, якіх выхоўвае соцыялістычны лад нашай краіны.

Здзіўленне, недаўменне, пачуцце пратэсту—змяняючы адно другое, перажываюць жанчыны краіны Советаў, калі яны, як гледачы і як чытачы, знаёмяцца з жаночымі вобразамі ў сучасных драмах, раманах, аповесцях і паэмах. Наша краіна выгадавала дзесяткі перадавых, разумных, культурных дзейных жанчын ва ўсіх галінах працы, навукі і мастацтва, адданых справе комуністычнай барацьбы.

У сваім творы „Мать" М. Горкі даў незабыўны вобраз маці—актыўнага барацьбіта за справу соцыялізма, чулага, вернага друга і памочніка свайго сына. Соцыялістычная барацьба збліжае, парадняе людзей розных пакаленняў—маці і сына, сцвярджаючы дружбу пакаленняў; сваяцтва іх не толькі біялагічнае, але сваяцтва, як пачуццё соцыяльнага адзінства людзей, якія выражаюць грамадскія інтэрэсы аднаго класа.

Замест варожасці бацькоў і дзяцей—дружбу пакаленняў працоўных, як адзінства інтэрэсаў і імкненняў маці і сына ў барацьбе за вызваленне ад капіталістычнае эксплаатацыі—яскрава, пераканаўча паказвае найвялікшы майстар пролетарскага мастацтва ў творы „Мать".

Адставанне нашай крытыкі канкрэтна выявілася і ў тым, што твор А. М. Горкага „Мать," дзе вобраз большэвічкі-маці рабочага знайшоў сваё яркае выражэнне, не ацэнены нашай крытыкай і не прааналізаваны да гэтага часу.

У А. М. Горкага павінны вучыцца совецкія пісьменнікі праўдзівасці, яркасці паказу працоўнай жанчыны-рэволюцыянеркі, павінны вучыцца ўменню перадаць тонкія адценні ее пачуццяў, думак.

Ленін аддаваў надзвычайную ўвагу росту і развіццю комуністычнай свядомасці працоўных жанчын. Мудры правадыр партыі І. В. Сталін, друг і настаўнік працоўных мас, стала, штодзённа аддае сур'ёзнейшую ўвагу росту і развіццю новай жаночай асобы.

На XVII з'ездзе партыі з велізарным пачуццём радасці расказвае таварыш Сталін усёй партыі, усёй краіне аб дасягненнях жанчын совецкай краіны ў іхняй рабоце, у іхняй барацьбе. Аб гэтым яскрава гаварыў Л. М. Кагановіч—бліжэйшы саратнік І. Сталіна на Маскоўскай абласной партыйнай канферэнцыі.

А. М. Горкі—найвялікшы пролетарскі мастак—з уласцівай яму чуласцю—заўсёды падмячае ўсе парасткі новага, многа клопату і ўвагі аддае росту новай совецкай жанчыны.

А нашы пісьменнікі і паэты? Як вырашаюць яны задачу паказа поўнацэннага мастацкага вобраза сучаснай жанчыны-гераіні, як характара дзейнага, энергічнага, як характара новай грамадскай чалавечай асобы, якою яе выхоўваюць соцыялістычная праца і барацьба.

„Ні драма, ні раман яшчэ не далі дастатковa яркага вобраза совецкай жанчыны, якая свабодна і вылатна дзейнічае ва ўсіх галінах будаўніцтва соцыялістычнага жыцця",—кажа А. М. Горкі ў сваім дакладзе на з'ездзе. І гэтая крытычная заўвага па адрасу совецкай літаратуры бясспрэчна правільная.

Калі аб адставанні нашай літаратуры ад жыцця гаварыць канкрэтна—варта адзначыць, што адставанне выявілася і ў тым, што мастакі слова не стварылі гэтага поўнацэннага, па мастацку пераканаўчага, жыццёва-праўдзівага вобраза перадавой жанчыны совецкай краіны.

Стварэнне гэтага вобраза патрабуе ад мастакоў найглыбейшага разумення і ведання працэсаў змен, якія адбываюцца і ў эканоміцы і ў свядомасці людзей, патрабуе і новага эмацыянальнага ўспрыняцця жанчыны—гераіні нашых дзён.

Пісьменнікі нашай краіны павінны дружыць з лепшымі работніцамі, лепшымі калгасніцамі і комсамолкамі нашай краіны, з перадавымі жанчынамі нашай краіны, як дружыў Л. Н. Талстой са сваёй гераіняй Наташай Роставай. Наглядаючы гэтых новых людзей звонку, застаючыся раўнадушнымі да іхняй радасці і суму, да іхніх інтарэсаў, да іхняй дзейнасці і імкненняў—мастак не зможа ярка, праўдзіва, жыццёва выразіць новы характар—новы тып жанчыны, як асобы грамадскай.

Рэзка змянілася сфера жыцця і дзейнасці разняволенай жанчыны. Раней эксплаататарскія класы прызнавалі за ёю толькі права ўдзельнічаць ва „ўзнаўленні непасрэднага жыцця", г. зн. ва ўзнаўленні патомства.

Ва ўмовах соцыялізма жанчына раўнапраўна ўдзельнічае і ў „вытворчасці" ўсіх умоў жыцця ўсяго калектыва працоўных.

„Згодна матэрыялістычнага разумення, вызначальным момантам у гісторыі з'яўляецца ў канчатковым выніку вытворчасць і ўзнаўленне непасрэднага жыцця. Але само яно бывае дваякага роду. З аднаго боку—вытворчасць сродкаў існавання, прадметаў харчавання, адзення, жылля і неабходных для гэтага прылад; а другога боку вытворчасць самога чалавека, прадаўжэнне віда" (Энгельс. „Паходжанне сям'і").

За жанчынаю з часоў падзення першабытна-комуністычных адносін, дзе жанчына была раўнапраўнай, дзе „вядзенне хатняй гаспадаркі з'яўлялася грамадска-неабходным заняткам", эксплаататарскія класы пакідалі толькі адно права ўдзелу „ва ўзнаўленні віда", адхіліўшы яе ад удзелу ва ўзнаўленні ўсіх умоў жыцця і для сябе і для свайго патомства.

„З узнікненнем патрыярхальнай сям'і і яшчэ больш—манагамнай індывідуальнай сям'і, становішча змянілася. Вядзенне хатняй гаспадаркі страціла свой грамадскі характар, яно перастала цікавіць гра-

мадства, яно стала прыватнай службай; жонка ператварылася ў галоўную служанку, была адхілена ад удзелу ў грамадскай вытворчасці. Толькі буйная прамысловасць нашага часу зноў адкрыла ёй ды і то толькі пролетарцы—шлях да грамадскай вытворчасці“ (Энгельс).

Перш чым пераходзіць да канкрэтнага аналіза і характарыстыкі жаночых вобразаў мастацкай літаратуры, неабходна прывесці рад выказванняў асновапаложнікаў марксізма на гэту тэму, паколькі адставанне крытыкі, калі гаварыць канкрэтна, выявілася і ў частцы пастаноўкі і ў частцы асвятлення праблемы стварэння вобраза гераіні нашын дзён.

Любому дзіцяці ў нашай краіне вядома, што прыгнечанне і бяспраўнасць жанчыны вызначалася яе эканамічнай залежнасцю ў сям'і ад волі і ўлады свайго ўладара—мужа свайго—гаспадара яе лёсу, лёсу яе дзяцей.

Царква, рэлігія, дзяржава—спрадвеку выхоўвалі адносіны да жанчыны, як да істоты ніжэйшай, каб апраўдаць яе бяспраўнасць, прыгнечанне, эксплаатацыю.

Усе гэтыя інстытуты, выклікаемыя да жыцця прыватнай уласнасцю—выхоўвалі пачуцце варожасці, непрыязні, знявагі да жанчыны.

Улада царквы і рэлігіі над лёсам жанчыны ў нашай краіне адыйшла ў небыт. Заклінанне супроць жанчыны, як „исчадия ада“, разняволеныя жанчыны совецкай краіны ўспамінаюць, як агідны анекдот, які характарызуе варварскія адносіны да жанчыны ў мінулым.

Вызваленне жанчыны абумоўлівае зварот усяго жаночага полу да грамадскай працы. У нашай краіне жанчына эканамічна і палітычна раўнапраўная. Совецкі закон увёў раўнапраўнасць жанчын не толькі юрыдычна. Жанчын звярнулі да грамадскага жыцця, да грамадскай працы, да грамадскай дзейнасці, што вызначае іх эканамічнае і палітычнае раўнапраўе фактычна.

Меркаванне Энгельса аб тым, што разняволенне жанчыны „патрабуе, каб індывідуальная сям'я перастала быць гаспадарчай адзінкай грамадства“—рэалізуецца ў нашай краіне фактам аграмаджання сродкаў вытворчасці, фактам грамадскага выхавання дзяцей. Да таго часу, пакуль не ўся яшчэ хатняя гаспадарка з'яўляецца грамадскай прамысловасцю, да таго часу залежнасць жанчыны захоўваецца ў быту. Вось чаму ў барацьбе з рэшткамі капіталізма ў эканоміцы і ў свядомасці людзей трэба мабілізаваць ўсе сілы, усе сродкі для перамагання „прыватнай хатняй гаспадаркі“ для таго, каб індывідуальная сям'я перастала быць гаспадарчай ячэйкай грамадства і ў частцы клопатаў пра ўсіх дзяцей, пра ўсіх членаў працоўнага калектыва. Гэтая задача перад намі стаіць, гэтую задачу штодзённа рашаюць советы, Ленінскі ЦК партыі заўсёды мабілізуе ўвагу ўсёй грамадскасці да перабудовы быта на соцыялістычных пачатках. Пра гэта пісала і „Комсомольская правда“ ў апошняй дыскусіі аб „сям'і“. Шмат у гэтым напрамку ўжо зроблена, але яшчэ шмат трэба зрабіць.

„З пераходам сродкаў вытворчасці ў грамадскую ўласнасць індывідуальная сям'я перастае быць **гаспадарчай** (падкрэслена мною—*А. Г.*) ячэйкай грамадства. Прыватная хатняя гаспадарка ператвараецца ў грамадскую прамысловасць. Догляд за дзяцьмі і выхаванне іх становіцца грамадскай справай; грамадства аднолькава клапоціцца пра ўсіх дзяцей, шлюбных і паза-шлюбных“ (Энгельс, ст. 76).

У краіне соцыялізма знікла паняцце чужога дзіцяці, памерла паняцце незаконнанароджанага дзіцяці. У соцыялістычнай краіне факт нараджэння чалавека—ёсць пашпарт—права на жыццё. Усе народжаныя дзеці—родныя дзеці, растучая змена ўсяго працоўнага калектыва. Гэтая ўмова вызначае дружбу паміж працоўнымі жанчынамі і ўсімі працоў-

нымі СССР. Патомства яе роўнапраўнае, дзеці—крыніца яе радасці, прадмет клопату, увагі ўсёй пролетарскай дзяржавы. Членам аграмаднай, магутнай сям'і, якая радасна будуе новае жыццё, адчувае сябе працоўная маці-жанчына ў совецкай краіне.

У сваім журботным вершы „Мать" Некрасаў пісаў аб гаротным, раздум'і маці пра будучыню яе дзяцей:

„Она была печальна и грустна...
Несчастные, зачем родились вы!
Пойдете вы дорогою обычной
И вам судьбы своей не избежать..."

...Трывога за будучыню нашых дзяцей не агортвае жанчыны маці ў Совецкім Саюзе. Бадзёры, радасны, дружны калектыў будаўнікоў комуністычнага грамадства выхоўвае сваю змену. Па праву ганарацца дзяцьмі Совецкага Саюза не толькі іхнія бацькі, але і ўся краіна і ўсе перадавыя людзі света.

Натуральна, што ў гэтых умовах пачуцце мацярынства перажываюць жанчыны совецкай краіны, як пачуцце велізарнай радасці.

Дарэмна нашы мастакі, пісьменнікі ўнікаюць паказа маці-комуністкі, комсамолкі, калгасніцы, работніцы, жанчыны вучонага. Гэтая складаная, цяжкая тэма, але тэма вельмі ўдзячная, яна абагачае мастака. Перадавыя жанчыны нашай эпохі не толькі дзейныя і энергічныя, як грамадскія работнікі. Удзел у грамадскай працы, у грамадскай дзейнасці, надзвычайна ўзбагачвае іхны свет эмацыянальных перажыванняў. Яркасць перажыванняў па-новаму вызначае ўвесь лад іх думак, пачуццяў, настрояў. Радаснае мацярынства жанчыны—грамадскага чалавека па-новаму вызначае і яе адносіны да свайго патомства і да свайго любімага і іх узаемныя адзін да аднаго адносіны.

Эмацыянальныя пачуцці і перажыванні жанчыны соцыялістычнай краіны багацей і ярчэй, вышэй перажыванняў жанчыны, абмежаванай вузкім кругам радасці і суму толькі сваёй мізернай сямейнай ячэйкі, якая абядняе кругазор, прытупляе розум, волю, абядняе пачуццё—пра што пісаў неаднаразова В. І. Ленін.

„Чалавек сцвярджаецца ў прадметным свеце не толькі праз пасрэднасць мыслення, а і праз пасрэднасць усіх пачуццяў" (Маркс Падрыхтоўчыя работы да „Святога сямейства", ст. 288).

„Пачуцці грамадскага чалавека іншыя, чым у неграмадскага: толькі дзякуючы (прадметна) аб'ектыўна разгорнутаму багаццю чалавечай сутнасці, атрымліваецца багацце суб'ектыўнай чалавечай пачуццёвасці, атрымліваецца музычнае вуха, вока, якое ўмее разумець прыгажосць формы,—словам, часткова ўпершыню параджаюцца, часткова развіваюцца чалавечыя, здольныя да асалоды („способные наслаждаться") пачуцці, пачуцці, якія сцвярджаюцца, як чалавечыя істотныя сілы. Не толькі звычайныя пяць пачуццяў, але і так званыя духоўныя пачуцці, практычныя пачуцці (воля, любоў і г. д.) (Маркс. Падрыхтоўчыя работы да „Святога сямейства", ст. 256.)

Паказ вобраза гераіні нашага часу, як грамадскай чалавечай асобы патрабуе ад мастака разумення новай прыроды, яе грамадскага характара, патрабуе разумення змены ўсіх пачуццяў яе і мыслення пад уплывам соцыялістычных адносін, у якія пастаўлена яна ўсім працоўным калектывам. Па-новаму складваюцца яе адносіны да ўсяго калектыва і да кожнага з яе членаў і ўзаемныя да яе адносіны з боку кожнага з іх.

Ні Даша Гладкова, ні Сцешка Панфёрава, ні Жэня Леонава, ні Елена Афінагенава, ні Эла Пагодзіна, ні Вірынея Сейфулінай, ні жаночыя вобразы Караваевай ва ўсёй паўнаце і яркасці і навізне не выражаюць вобраза новай жанчыны, якая па новаму вызначае свае адносіны да сапраўднасці і праз свае індывідуальныя адносіны з таварышамі роднымі, блізкімі, любымі людзьмі. Грамадскі характар яе асобы рэалізуецца канкрэтна ў праяўленні яе жаночай індывідуальнасці.

Агідныя, нізкія адносіны да жанчыны ў капіталістычных краінах, дзе пануюць фашысцкія варвары—выражаюць „дэградацыю чалавека". Супроць гэтага павінны падняць голас пратэсту ўсе рэвалюцыйныя пісьменнікі света, усе мужныя і чэсныя людзі ўсяго свету. Прыклад такога пратэста дзейнага і выражае барацьба комуністычнай партыі супроць прыгнечання і няволі жанчыны.

„Непасрэдныя, натуральныя, неабходныя адносіны чалавека да чалавека—гэта адносіны мужчыны да жанчыны".

„... У гэтых адносінах праяўляецца ў пачуццёвым нагляднa-фактычным выглядзе тое, наколькі стала для чалавека прыродай чалавечая сутнасць або наколькі стала чалавечай сутнасць чалавека... Таму на падставе гэтых адносін можна наогул меркаваць аб ступені развіцця чалавека. З характару гэтых адносін відаць, наколькі чалавек стаў родавым, стаў чалавекам, да якой ступені ён гэта разумее. Адносіны мужчыны да жанчыны ёсць натуральныя адносіны чалавека да чалавека, значыць у іх выяўляецца, наколькі натуральныя паводзіны чалавека сталі чалавечымі, або наколькі чалавечая сутнасць стала для яго натуральнай сутнасцю". (Падрыхтоўчыя работы для „Святога сямейства". Маркс).

Гэтыя выказванні класікаў марксізма—ключ да разумення новых адносін мужчыны да жанчыны, якім іх сцвярджаюць соцыялістычныя адносіны да чалавека-жанчыны. Узровень культуры кожнага грамадства вымяраецца яго адносінамі да жанчыны, становішчам жанчыны ў грамадстве. Пра гэта пісалі утапісты-соцыялісты, пра гэта пісаў неаднойчы Маркс, аб гэтым пастаянна гаварыў Ленін, аб гэтым гаварыў Сталін на XVII з'ездзе партыі.

Перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей яшчэ захоўваюць сілу і ў нашай краіне. Пры гэтым трэба памятаць, што кансерватызм мысляў і пачуццяў быць можа ні ў воднай сферы чалавечых адносін не захоўвае такой сілы супраціўлення, як у галіне адносін мужчыны да жанчыны. Гэтыя адносіны хаваюцца ў самай тонкай сферы чалавечых адносін. Вякамі выхаваныя—яны жывучыя, у корані варожыя соцыялістычнаму ладу адносін паміж людзьмі. Кожная новая перамога соцыялізма наносіць гэтым адносінам знішчальны ўдар. І з кожным днём у нас застаецца ўсё менш і менш старых рабаўласніцкіх адносін да жаночай асобы ў сферы свядомасці.

Культурнасць народа соцыялістычнай краіны, рост яе поспехаў на шляху ўдасканалення самой прыроды чалавека—асабліва яскрава выявіліся ў росце новай жаночай асобы, у новых адносінах да жанчыны, як роўнай чалавечай грамадскай асобы, якая забяспечвае роскіт і развіццё яе творчых сіл і здольнасцей.

Няма ніводнай галіны працы, навукі, мастацтва, барацьбы і будаўніцтва ў нас, дзе жанчына не пачала-б граць актыўнейшую ролю, дзе-б не было жанчын у радах перадавых важакоў. Калгаснае будаўніцтва вылучыла кадры жанчын—арганізатараў, важакоў у стварэнні новай грамадскай формы гаспадарання, на соцыялістычных заводах не мала работніц, якіх ведае ўся краіна, тое-ж і на фронце культуры—шэраг імён навуковых работнікаў, мастакоў, пісьменніц—выхавала соцыялістычная краіна.

Мастакі—пісьменнікі, паэты, драматургі—выступяць соцыялістычнымі рэалістамі, у поўнай меры „інжынерамі душ“, толькі паспяхова выкарчоўваючы „рэшткі капіталістычнай свядомасці“ і ў адносінах да жанчыны, фармуючы вобраз новай жанчыны, актыўна фармуючы адносіны да яе, як адносіны, у якіх чалавечая сутнасць выяўляецца ў натуральных паводзінах чалавека. Выкарчоўваючы рэшткі капіталізма ў сферы гэтых адносін, мастакі павінны выступіць і супроць лагодных адносін да жанчыны-маці, сцвярджаючы адносіны да мацярынства, як да грамадска-карыснай, неабходнай сферы жыццядзейнасці гераіні соцыялістычнай эпохі. І ў гэтым выпадку мастакі толькі замацуюць заваяванае соцыялізмам.

## II. ПРА ГЕРАІНЮ МІНУЛАГА

Кансерватыўныя мастакі ўсіх папярэдніх эпох, як і царква і рэлігія, выхоўвалі варожасць, непрыязнь, знявагу да жанчыны.

„Няма звера дужэй за жанчыну, ні на моры, ні ў лесе,
І агонь не такі жахлівы, і не так бессаромна рысь...
Вечна жанчын ненавідзець абяцаю я і клянуся“.

*(Арыстафан).*

Гэтая мараль панавала і пануе ў свеце панавання прыватнай уласнасці, там, дзе без жалю, па варварску папіраліся ўсе лепшыя чалавечыя пачуцці і імкненні, дзе людзі:

„Любви стыдятся, мысли гонят,
Торгуют волею своей.
Главы пред идолами клонят
И просят денег да цепей“.

*(Пушкін).*

Натуральна, што пры такім ладзе адносін самыя радасныя і лепшыя імкненні ператвараліся ў пакуту.

Матыў пакуты, як заўсёднага спадарожніка кахання—матыў шмат якіх шэкспіраўскіх драм і шэрагу іншых твораў сусветнай культуры.

І каханне—самае радаснае па сваёй прыродзе пачуцце—лад уласнасці ператвараў у пакуту.

Дэздэмона—найпрыгажэйшая пакутніца, пала ахвяраю прыдворных інтрыг, ніякасці і подласці прадажнага, двудушнага агіднага Яго.

„Каханне Дэздэмоны пакутнае“ (Гейнэ).

„У гэтай галубіцы няма ні злосці, ні цені супраціўлення“—пісаў пра яе нямецкі крытык Левес.

Але апроч пакутнай, „без цені супраціўлення“ гінучай Дэздэмоны, Шэкспір пакінуў нам цэлую галярэю жаночых тыпаў і характараў дзейных, моцных, валявых. Іхняе каханне дзейнае, але пакуты разам з ім. „Каханне Джульеты—дзейнае“ (Гейнэ), але ў свеце, дзе жыццём кіруе ўласнасць—яно нясе пакуту, муку, смерць замест радасці.

Порцыя, гераіня драмы „Юлій Цэзар“, імкнучыся быць вартай спадарожніцай у жыцці Брута, горача пераконвае адносіцца да яе, як да роўнай:

Хіба я толькі ў некаторых абмежаваных выпадках другое ты. Хіба я другое ты толькі для таго, каб падзяліць з табою тваю ежу, тваё ложа, быць часам тваей субяседніцай. Хіба я жыву ў прадмесцях тваей схільнасці. Калі так, то Порцыя не жонка, а наложніца Брута“.

Так пераконвала дачка Катона свайго ўлюбёнага мужа, хочучы быць вартай спадарожніцай яго жыцця, не жадаючы быць яго наложніцай, імкнучыся жыць адным агульным жыццём з ім.

Незабыўны і вобраз Порцыі—гераіні драмы „Венецыянскі купец“.
„Упаўне жаноцкі розум і ўпаўне разумовую жаноцкасць“ паказаў Шэкспір у вобразе жонкі Брута,—кажа Гейнэ.

У вобразе лэдзі Макбет Шэкспір дае моцны характар чэсталюбівай жанчыны, характар, які выражае ідэю трагічнага ў разуменні мастака.

Калі ажыццяўляюцца яе чэсталюбівыя замыслы, лэдзі Макбет гіне, ужо не вытрымліваючы ўнутраной барацьбы. Жорсткасць зробленага ёю забойства дзеля ганарлівых імкненняў—забіваюць яе супакой. Жаноцкасць і жорсткасць—жыць мірна ў дружбе, у згодзе не могуць. Жорсткасць яе забойства пагібельна для яе жаночасці. Гэтакая ідэя гэтага вобраза.

У творах Шэкспіра праходзіць цэлая галярэя жаночых вобразаў: добрыя і злыя, помстлівыя і пяшчотныя, любімыя і ўлюбёныя, вясёлыя і радасныя, дзейныя і пасіўныя, прывабныя ў сваёй высокай праяве кахання, як Дэздэмона, Джульета—усе яны ўспрыймаюцца намі, як сапраўдныя гераіні часу, поўныя жыцця, кожная з іх раскрывае нам якуюнебудзь частку жаночага характару.

Шэкспір у вобразе Порцыі („Венецыянскі купец“) паказаў жанчыну высокай разумовай сілы, непахіснай цвёрдасці. Успомніце сцэну выступлення яе на судзе супроць ліхвяра Шэйлока.

„У Шэкспіра ў англійскіх гістарычных драмах жанчыны граюць становучыя галоўныя ролі і паэт прымушае іх дзейнічаць не для таго, каб, як у іншых п‘есах, паказаць толькі жаночыя асобы і характары, але хутчэй таму, што апісваемая імі гісторыя патрабуе іхняга ўмяшання“. (Гейнэ „Жанчыны і дзяўчаты“ Шэкспіра, т. VII, стар. 187.)

У найвялікшага мастака мінулага, мастака-рэаліста прывабны і вобраз Кардэліі і вобраз Імаджэны („Цымбеліі“), як і раней названыя гераіні Шэкспіра. Усе яны рэалістычныя характары эпохі Шэкспіра. Гейнэ піша аб тым, што „поэт прымушае іх дзейнічаць не для таго, каб паказаць толькі жаночыя асобы“, а таму, што паказваемыя ім падзеі былі-б намаляваны няправільна, няпоўна без іхняга актыўнага ўдзелу і ўмяшання. Тым больш аб гэтым варта помніць сучасным мастакам нашай соцыялістычнай рэчаіснасці. Без актыўнага ўмяшання і ўдзелу жанчын падзеі не могуць быць паказаны ва ўсёй праўдзе, яскравасці і навізне.

Вялікай увагі заслугоўваюць выказванні Гейнэ аб тым, што „у Шэкспіра ў англійскіх гістарычных драмах жанчыны адыгрываюць *становучыя галоўныя ролі*“. Гэтая заўвага вялікага паэта ўяўляе выключную цікавасць.

Той факт, што мастак прымушае жанчын адыгрываць становучыя ролі ў гістарычных драмах, раскрывае перад намі Шэкспіра, як мастака, які разумеў гістарычную няпраўду, становішча жанчыны, як нявольніцы бяздумнай і бязвольнай. Геніяльны мастак не абмежаваўся толькі паказам пасіўнай пакуты жанчыны. Ён прымушае яе дзейнічаць актыўна, даючы магчымасць выявіць ёй свой розум, волю, характар, пачуцце. Вобразы яго гераінь—Кардэлія („Кароль Лір“), Порцыя—жонка Брута („Юлій Цэзар“), Порцыя—абвінавайца ліхвяра Шэйлока („Венецыянскі купец“), Імаджэна („Цымбеліі“), Джульета і Дэздэмона—усе яны прывабны, цудоўны. Кожная па свойму жыве, радуецца і пакутуе. Кожнай з іх сімпатызуе, спачувае глядач, з глыбокім пачуццём павагі адносіцца да іх чытач. Так адносіны мастака да сваіх гераінь перадаюцца чытачу і гледачу.

І пакутная Дэздэмона, і жыццярадасная Джульета і Порцыя з яе высокім разумовым развіццём—усе яны збіральныя, выражаюць ідэал жаночага харaства мастака.

Глыбокае, шчырае, высокае чалавечае пачуццё выражана ў каханні Дэздэмоны да Отэлла.

„Яна мяне кахала за пакуты.

Я за спачуванне кахаў яе“.

Ступень нізкага падзення чалавека ў вобразе Яго, паказаная Шэкспірам, пуката ўстае перад чытачом, дзякуючы Дэздэмоне. Яна нічым не запляміла свайго чалавечага пачуцця. Яна не паддалася на зман, на хітрасць. Яна прывабна сваім натуральным чалавечым харастом, незапсаваная подласцю нізкіх інтрыг, прадажнасцю, маною і двудушшам.

Больш смелага кантраснага паказа характараў у адной п'есе—Дэздэмона і Яго—цяжка знайсці.

Ці выпадкова ў драме Шэкспіра Дэздэмона супроцьлежна Яго? Зусім разумная і прыгожая Порцыя — ліхвяру Шэйлоку? Жанчыны Рычарда III—Рычарду III?

Ці такім бесклапотным быў мастак у выбары герояў і гераінь сваіх драм, сітуацый іхняга жыцця, калізій, іхніх сутычак, калі вызначаў, паказваў **с т а н о ў ч ы я** галоўныя ролі жанчын у сваіх гістарычных драмах?

Ці выявілася ў гэтым наўмыснасць мастацкага замысла? Ці супярэчыць такі замысел **г і с т а р ы ч н а й** праўдзе?

Ці законамернасць гэта для развіцця гістарычнага працэса, толькі правільна зразумелая і перададзена мастаком?

Як вядома, **п а к у т н а е** становішча жанчыны ў грамадстве стала фактам сапраўднасці задоўга да з'яўлення і самога Шэкспіра і дзесятка пакаленняў яго продкаў.

Ці гэтую ідэю выражаюць „жанчыны і дзяўчаты“ Шэкспіра?

У яго драмах яны часта выступаюць выяўніцамі подласці, прадажнасці, маны і ханжаства, і супроць тых, хто кіруе лёсам народаў (Рычард III), лёсам людзей, валодаючы капіталам. Прыклад, Порцыя выступае супроць Шэйлока-ліхвяра. Дэздэмона і Джульета—фактам сваёй бессэнсовай, нічым неапраўданай пагібелі—супроць норм буржуазнага сямейнага права.

Пагібель найлепшых жанчын у пачатку свайго жыцця, пагібель тых, хто меў усе дадзеныя ад прыроды жыць радасна і шчасліва, уносячы радасць у жыццё і іншых людзей—глядач і чытач шэкспіраўскіх драм успрыймае, як **п а р у ш э н н е з а к о н а ў ж ы ц ц я**, як найвялікшую бяду, зло, несправядлівасць.

Чаму так бессэнсоўна гінуць гэтыя людзі? Чаму так наладжана жыццё? А ці не можна лепш?—мімаволі разважае чытач Шэкспіра. На гэтую думку штурхаюць яго і ўсе сітуацыі жыцця шэкспіраўскіх герояў і гераінь.

Шэкспір называе і канкрэтных вінаватых зла людскіх пакут. Гэта ліхвяр Шэйлок, прагны да грошай і багацця, прыдворны жулік Палоній, бацька Афеліі, подлы і прадажны Яго. Яны ворагі чалавека. Чалавек і яго пакуты прадстаўлены Шэкспірам у вобразе Кардэліі, Дэздэмоны, Джульеты, Порцыі, якая перамагае Шэйлока, калі ўступае з ім у барацьбу. Дэздэмона гіне, бо яе вораг выяўлен пасля смерці. Яго выявіў мастак, цаною жыцця Дэздэмоны выкрываецца Яго.

Каму варожыя ўсе гэтыя Палоніі, Шэйлокі, Рычарды, Яго і іншыя героі подласці і жорсткасці?

Усім, хто **ч э с н а** мысліць, хто **ч э с н а** адчувае—адказваюць усхваляваныя лёсам герояў Шэкспіра чытачы і гледачы яго драм.

Ці выпадкова жанчыны ў Шэкспіра адыгрываюць станоўчыя галоўныя ролі і мастак прымушае іх **д з е й н і ч а ц ь**? Над гэтым варта падумаць.

Жанчыны Шэкспіра не ўдзельнічаюць у грамадскай працы, у працы вытворчай. Гэтая акалічнасць вельмі ўскладняе вучобу ў Шэкспіра сучасным пісьменнікам у паказе жаночага характара новага соцыяльнага асяроддзя, жанчыны другога грамадскага стану, жанчыны—актыўнага будаўніка соцыялізма.

Уменню паказаць унутраны свет перажыванняў, выбару сітуацый, глыбокаму разуменню і веданню матываў, учынкаў і дзеянняў паказваемых жанчын і дзяўчат, майстэрству паказа характара—могуць вучыцца пролетарскія мастакі ў найвялікшага генія-мастака, не ўваскрошваючы шэкспіраўскіх дзяўчат і жанчын, бо тады характары сучасных нам жанчын будуць дадзены, як не „тыповыя характары ў нетыповых абставінах".

Вучыцца крытычна ў майстроў сусветнай культуры, вучыцца і глыбіні разумення жаночага характара свайго соцыяльнага асяроддзя—такая задача. Жанчыны Шэкспіра арганічна ўдзельнічаюць у паказваемым ім жыцці, яны не прыцягваюцца толькі як дапаможныя фігуры для развіцця сюжэта, фабулы, як гэта часта робяць нашы сучаснікі, больш таго, у Шэкспіра ў англійскіх гістарычных раманах жанчыны адыгрываюць станоўчыя галоўныя ролі.

У адным артыкуле немагчыма даць гісторыка-культурную схему развіцця і станаўлення жаночага характара на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Гэтая задача, пастаўленая А. М. Горкім, павінна быць вырашана нашымі гісторыкамі літаратуры, да работы над ёю павінны быць прыцягнуты і калектыў гісторыкаў.

Вывучэнне жаночых тыпаў і характараў у творах сусветнай літаратуры павінна дапамагчы нам асвоіць і праблему стварэння вобраза новай жанчыны эпохі соцыялізма, у краіне соцыялізма, як асобы зусім жаноцкай і зусім разумнай грамадскай асобы.

Пры аналізе жаночых вобразаў больш позніх літаратурных помнікаў нашу ўвагу натуральна прыцягвае вобраз Анны Карэнінай.

Усе супярэчнасці грамадства, уся несправядлівасць адносін да жанчыны, да яе лёсу, увесь лад уласніцкіх адносін да жанчыны мы бачым на прыкладзе лёсу Анны Карэнінай.

Талстой ў яе вобразе хацеў стварыць малюнак страшнай мукі, унутранага разладу ў жанчыны, якая пераступіла законы царкоўнага шлюбу і парушыла нормы маралі буржуазных сямейных адносін.

Плоць перамагла розум, волю,—Анна Карэніна становіцца носьбітам зла, яна павінна загінуць,—так раскрываецца замысел Талстога, мяркуючы па яго аўтарскіх рэмарках у рамане.

Раздушаная бессардэчным, жорсткім, крывадушным судом прыдворнага магнацтва, судом прадажных і нікчэмных людзей, пазбаўленая сына, згубіўшы Вронскага,—яна гіне, хоць і доўга супраціўляецца несправядліваму грамадскаму суду над ёю.

Пануючыя капіталістычныя класы не маюць жалю да таго, хто парушае законы яго жыцця, несправядліва караючы тых, хто пратэстуе супроць варварскіх норм іхняй этыкі і маралі. Цаною вялікіх чалавечых ахвяр, эксплаататарскія класы сцвярджалі сваю ўладу над людзьмі і іх лёсам.

Смерць Анны Карэнінай выявіла страшную праўду варварскіх адносін да лёсу надзвычайнай, разумнай, прыгожай, таленавітай жанчыны з боку феадальных, чыноўных, прыдворных магнатаў, выявіла крывадушнасць і фальш іх маралі.

Вронскаму даруе свет, а Анну ганьбіць. Бяспраўе, прыніжанасць жанчыны ва ўмовах панавання ўласніцкіх норм этыкі і маралі—яшчэ раз выяўляецца перад чытачом рамана Л. Н. Талстога на прыкладзе лёсу Анны Карэнінай.

Зло пакарана, „добродетель“ спраўляе ўрачыстасць“—хацеў сказаць сваім раманам „Анна Карэніна“ Талстой. Але жыццё галасавала супроць царкоўна-ханжаскай маралі Талстога. Гераіня рамана ў канфлікце з мастаком, з яго філасофіяй. І гэты канфлікт захоўваецца да апошняй старонкі рамана.

Талстому мастаку-рэалісту абавязаны мы з'яўленнем рамана, які агаляе супярэчнасці паказанага ім грамадства на прыкладзе трагічнага лёсу Анны Карэнінай, на становішчы жанчыны таго часу.

Па-за дзейнасцю, па за грамадскай працай, бяспраўная і зацкаваная Анна Карэніна гіне, калі парушаецца яе „асабістае шчасце“, адзіная сфера, у якую ўлада ўласнікаў заганяла жанчыну.

Сваёй смерцю яна помсціць абыякавасці Вронскага, яго сяброўскім адносінам і тым, хто зацкаваў, загубіў яе каханне і жыццё, адабраўшы ў яе і радасць мацярынства.

Анна Карэніна страшная, калі ляжыць аголеная, раздушаная коламі чыгуначнага вагона. Яе растоптанае заглумленае хараство наперакор суб'ектыўнаму імкненню Талстога, выражае не трыумф буржуазнай „добродетели“, а выяўляе крывадушнасць і фальш грамадства, дзе раздушана Анна Карэніна, дзе няма ёй месца ў жыцці.

„Толстой, ты доказал с уменьем и талантом,
Что женщине не следует „гулять“
Ни с камер-юнкером, ни с флигель-ад'ютантом,
Когда она „жена“ и „мать“...

Гэтай эпіграмай адклікнуўся Некрасаў на раман Талстога. У ёй выразіў паэт, рэвалюцыйны разначынец, свае адносіны і да гераіні і да звычаяў яе асяроддзя.

З талентам геніяльнага мастака паказаў перад чытачом Талстой унутраны мяцеж, трывогу Анны Карэнінай пасля яе зблізэння з Вронскім. У парочнасці Анны Карэнінай не пераканаў ён чытача. А Талстой для рэалізацыі сваёй ідэі спрабуе усяляк ахаяць яе хараство, часам натуралістычна паказваючы сілу яе жаночай прывабнасці, як сілу жывёлінага пачатку. Падкрэсліваючы яе прывабнасць, як жанчыны, для Левіна, ён падкрэслівае яе парочную сілу цела. Яе незадаволенасць жыццём, яе цяжкія перажыванні ў апошні перыяд яе жыцця з Вронскім, яе імкненне знайсці карысны занятак, каб запоўніць створаную пустэчу ў сваім жыцці,—пераконвае нас у тым, што асабісты лёс Анны Карэнінай толькі агульнае выражэнне грамадскага бяспраўнага існавання жанчыны, не гледзячы на знадворны бляск, знадворную афарбоўку яе жыцця. Яе імкненне, як чалавечай асобы з яе законным правам кахаць па свайму выбару, ідзе ў разрэз з тым грамадскім становішчам, бяспраўнасці яе асобы, як яго вызначае ўлада ўласнікаў. Канфлікт агаляецца перад чытачом у асабістай драме яе жыцця—Анны Карэнінай—бо жыве яна па-за сферай „сапраўднай працы і грамадскай дзейнасці“.

Калі Драйзер у сваей кнізе „Галярэя жанчын“ расказвае чытачу пра цэлы рад загубленых дзяўчат і жанчын капіталістычнай Амерыкі,—ён правільна перадае факты. Але рэвалюцыйны амерыканскі пісьменнік не робіць яшчэ вываду, што асабісты незадачлівы лёс большасці яго гераінь—соцыяльна абумоўлены ўсім грамадскім ладам іхняга жыцця, усім ладам капіталістычных адносін. У капіталістычным свеце і таленавітая актрыса і жанчына-літаратар, вучоны, урач, настаўніца і інш.— не могуць вырывацца ў жыццё, як творчыя асобы, бо ўвесь лад жыцця і непасрэдныя натуральныя адносіны чалавека да чалавека, адносіны мужчыны да жанчыны,—апошлены, апаганены адносінамі разліку, куплі

і продажу. Натуральна, што пры гэтых умовах асабісты няўдалы лёс жанчыны—толькі выражае грамадскія непаладкі жыцця.

Нашы пісьменнікі савецкай краіны, паказваючы жанчыну, будаўніка новага жыцця, не заўсёды яшчэ ўмеюць паказаць характар яе асобы, як асобы грамадскай, што і вызначае праяўленне ўсіх яе ўласцівасцей, якасцей, пачуццяў па-новаму.

Па-за сферай яе дзейнасці, барацьбы, працы нельга зразумець і паказаць новае ў жанчыне савецкай фармацыі.

Грамадска-вытворчая праца—найважнейшая умова фармавання новай свабоднай творчай асобы—гэты вывад робіць ужо чытач рамана Чарнышэўскага „Что делать".

## III. ПАЧУЦЦІ ГРАМАДСКАГА ЧАЛАВЕКА ІНШЫЯ

„Пачуцці грамадскага чалавека іншыя"—гэта, аднак, не дае падстаў паказваць комуністку-жанчыну, комсамолку, перадавую работніцу і калгасніцу, як нячулую жанчыну, у якой усё падначалена рацыо, у якой у значнай меры атрафіраваны ўсе жывыя жаночыя пачуцці, як каханне, пяшчотнасць, ласкавасць, чуласць і такія высокія лірычныя пачуцці, як матчыная любоў. Даніну такой трактоўкі жаночага вобраза аддаў Гладкоў у вобразе Дашы, гераіні „Цэмента".

Гэта быў адзін з першых твораў, у якім Гладкоў спрабаваў даць вобраз комуністкі, правільна падкрэсліўшы яе адданасць інтарэсам рэволюцыі, ён не здолеў, аднак, разглядзець багацці эмацыянальнага света Дашы. Бо-ж, бясспрэчна, удзел у соцыялістычнай барацьбе развівае характар, волю, інтэлект і пачуцці. Даша схематычна дзейнічае з надрывам. Відовішча паміраючай ад тугі па мацярынскай ласцы і цеплыні дзяўчынкі—гэта не помста маці, якая забыла дзіця, а гэта злая, але справядлівая папраўка жыцця да замыслу мастака ў паказе няправільна зразумелага і няправільна паказанага ім новага характара гераіні соцыялістычнай барацьбы. Сустрэча Дашы з Глебам і ўся гутарка—няправільна паказаныя адносіны баявой комуністкі да свайго мужа, бацькі свайго дзіцяці, друга ў перыяд грамадзянскай вайны. Так карыкатурна уяўлялі сабе жанчыну-большэвічку тыя, хто вышэй за ўсё ставіў ціхі прытулак і спакой. Калі таварыш Гладкоў хацеў паказаць высокае пачуццё самаахвяравання жанчыны комуністкі—маткі ў дні, калі ішла барацьба за дыктатуру пролетарыята,—варта было-б прадумаць сітуацыю яе жыцця, каб яе ўчынкі з н а д в о р н а-жорсткія былі-б унутрана матываваны ўмовамі барацьбы—апраўдваліся-б значнымі яе заваёвамі, якія маюць вялікае значэнне для ўсяго пролетарыята, для лёсу рэволюцыі.

Так было ў жыцці. Так было ў сапраўднасці. Не мала ведае кожны з нас прыкладаў гераічнага самаахвяравання асабістага для грамадскага ў гады жорсткай схваткі, барацьбы за дыктатуру пролетарыята, за права будаваць соцыялізм.

Унутраныя перажыванні гераінь соцыялістычнай барацьбы былі больш глыбокія, больш тонкія, яркія і складаныя і ў гэтую пару.

Але, калі Н. Пагодзін праз многа год у вобразе Эллы—комуністкі ўжо у 1932-33 годзе паказвае нам беднасць яе пачуццяў, абмежаванасць яе разумення сапраўднасці, калі яна, як папугай, паўторвае мяшчанскія выдумкі Елкіна і Белкоўскага, калі яна пад іх уплывам адмаўляецца ад мацярынства,—мы павінны сказаць драматургу, што ён няправільна паказаў комуністку, комсамолку Эллу. Гэта н е тыповы характар пры нетыповых абставінах.

„З-за тваіх сантыментальнасцей я-б не хацела ператварацца ў матку сям'і",—кажа яна Гаю ў адказ на яго недаўменне, што Элла зрабіла аборт.

Не менш карыкатурна і заява Эллы аб тым, што „паліва для жонкі важней, чым пацалунак мужа".

У п'есе „После бала" Н. Пагодзін паказаў галоўнай гераіняй совецкай вёскі Машу-калгасніцу. Бліскучая ігра Бабанавай прыкоўвае ўвагу гледача да вобраза Машы. Пагодзін правільна трактуе жаночую асобу калгасніцы, як новую жаночую асобу.

Ідэя дружбы, як соцыяльнай сувязі, выражана ў вобразе Машы.

Яе дружба з Соняй разрываецца, парушаецца, як толькі яна пагражае інтарэсам калгаснага калектыва. Адносіны, дружба начпалітаддзела ўзмацняецца да Машы ў працэсе агульнай барацьбы за інтарэсы калгаса. Праўдападобнасць вобраза Машы зніжаецца тэатральнасцю паказаных сітуацый. Напрыклад, сцэна пасля абрання яе старшынёй калгаса, размеркаванне брыгад на работы—гэта тэатральная ігра ў жыцці, а не тэатральны паказ сапраўднасці.

„Пачуцці грамадскага чалавека іншыя"—і ў гэтым пераконваецца глядач п'есы „После бала", перажываючы разам з Машай яе радасці і гора. Тыповага, новага характара жанчыны Пагодзін не даў яшчэ ў вобразе Машы. Але шмат ужо зроблена драматургам на шляху да асваення яго.

Радаснае адчуванне жыцця ўласціва гераіні нашых дзён; залішняя жартаўлівасць, жартаўлівасць жэстаў там і тады, калі ўнутранае напружанне і пачуццё адказнасці мабілізуе сур'ёзнасць непераканаўча гучыць са сцэны.

Амаль няма п'ес на нашай сцэне, дзе-б па-новаму нашы мастакі, драматургі і пісьменнікі паказалі-б новы тып перадавой комуністкі—маці, маці грамадскай асобы. Гэта новая якасць чалавечай асобы вельмі патрэбна. Па-новаму асвятляе яно адносіны маці і дзіцяці, жыццё якіх не абмежавана інтарэсамі маленькай замкнутай сямейнай скрыначкі, дзе маці і дзіця выхоўваюцца і працуюць, не абкружаныя клопатам, увагаю калектыва.

Новыя адносіны кахання, не абцяжараныя ніякімі „меркаваннямі" апрача пачуцця ўзаемнага кахання, не знайшлі яшчэ свайго выражэння ў нашых творах, драмах, паэмах, радаснае каханне ў энгельсаўскім і ленінскім разуменні— сталы спадарожнік жанчын совецкай краіны— героя і гераіні соцыялістычнай рэспублікі.

Лінія „палігаміі"—у асабістых адносінах, якая ў нейкай ступені была характэрна толькі, як лінія адмаўлення старога палажэння жанчыны, якая не магла кахаць па свайму выбару, не выражае новага ладу пачуццяў совецкай жанчыны, а іменна па гэтаму шляху яе паказа пайшлі асобныя совецкія пісьменнікі. Гэтая лінія асабістых адносін знайшла свае яскравае выражэнне ў вобразе Вірынеі Сейфулінай. Але ў вобразе Вірынеі Сейфуліна дае і грамадскія адносіны яе да падзей і з'яў класавай барацьбы. Для часу з'яўлення рамана Сейфулінай можа быць апраўдан яе паказ толькі адмаўленнем старых форм адносін, у творах-жа, якія з'явіліся ў больш позні час, павінны былі знайсці свае выражэнне і новыя нормы адносін жанчын і мужчын, ідэал кахання і агульнай дружбы.

Творчая дзейнасць, роўнасць у грамадскім палажэнні, абагачае і свет „асабістых" пачуццяў. Дзяўчаты і жанчыны краіны Советаў умеюць кахаць так аддана, як Джульета, так глыбока, як Пушкінская Татьяна, так непадзельна як Дэздэмона.

Мы яшчэ раз вернемся да больш падрабязнага і канкрэтнага аналіза жаночых характараў і тыпаў, даных А. М. Горкім, Шолахавым, Сейфулінай, Панферавым, Леонавым, Гладковым, Афінагенавым, Пагодзіным, А. Караваевай і іншымі. У гэтым артыкуле мы ўстанаўліваем толькі некаторыя адпраўныя пункты аналіза.

У чым сутнасць праблемы новага жаночага характара, як выражэння новага соцыяльнага характара соцыялістычнай эпохі, якая выражае і новы соцыяльны ідэал эпохі, яе новы эстэтычны ідэал жаночага характва?

Эгоцэнтрызм і індывідуалізм—асноўная рыса характара чалавека эпохі капіталізма.

Паказ новай жаночай асобы, як асобы эгоцэнтрычнай—у корані няправільна перадае тую новую якасць характара яе асобы, як асобы грамадскай.

Таму і непераканаўча Елена—Афінагенава—комуністка, гераіня „Страха“, што паказана яна эгоцэнтрысткай, а не чалавекам грамадскім. Тав. Афінагенаў сам адносіцца да вобраза Макаравай, як да вобраза, які яму не ўдаўся.

Успомнім сцэну з'яўлення Елены пасля звароту з Саратава.

Яна вяртаецца ў дом, дзе ёю былі перажыты і пачуцце радасці ў жыцці, і пачуцце расчаравання ў Цэхавым.

Валя паўтарае яе расчараванне ў Цэхавым. Валя шукае шляха ў жыцці,—яна стаіць перад Еленаю, прыгнечаная сваім няправільным выбарам.

Перад гледачом праходзіць п'яны, страціўшы свой воблік, Цэхавой, ён варожы Клары, Валя разгублена і знішчана ўсімі падзеямі. Канфлікт Цэхавога і з Валяй, і з Кларай выражае соцыяльны канфлікт старога з новым. Усё гэта праходзіць на вачах Наташы-піянеркі.

Вясёлая, радасная перамогай партыйнай лініі ў інстытуце пасля звароту ў Маскву, убягае Елена ў пакой, дзе жыла раней да разрыва свайго з Цэхавым.

На сцэне мы бачым яе з усмешкай, яна паведамляе аб прачытаным Фаусце, аб наведванні канцэртаў. Тут пачынаецца няпраўда.

... А між тым яна вярнулася ў дом, дзе перажыла радасць і гора, расчараванне ў Цэхавым. Хіба праходзяць без следу ў жыцці такія памылкі ў выбары любімага чалавека?

Наташа—яе жыццё, як фокус праясняе праходзячыя падзеі. Старая—агідная Амалія, яе бабуля. Бацька яе спіўся. Валя чужая, з Кларай, адным толькі блізкім ёй чалавекам,—змагаецца бацька. З'яўляецца Клара, Елена... у кватэры шум. У адну хвіліну становіцца ясным, што адбываецца... Колькі розных пачуццяў перажывае Елена. Радасць звароту гасне... успамінаецца горач перажытага. Крыўдна за Валю, як некалі за сябе... Наташа... да яе працягвае яна свае рукі, нясе ёй сваю ласку, прывет, сваю цеплыню і добрае глыбокае разуменне перажыванняў дзяўчынкі. У іхняй сустрэчы—дружба пакаленняў магла знайсці свае яскравае выражэнне.

У п'есе дадзена знадворная лінія паводзін Елены, а не ўнутраных яе перажыванняў у час яе звароту ў Маскву, сустрэчы з людзьмі ёй раней дарагімі і блізкімі. Далёкая адлегласць згладжвала вастрату перажытага... Нечаканы прыезд няўхільна напамінае ёй ранейшае, зводзіць яе з Цэхавым, некалі ёй блізкім, а цяпер чужым і варожым. Колькі розных пачуццяў ажывае пры спатканні! Крыўда, боль за свае каханне да Цэхавога: яна бачыць яго нікчэмны, загублены выгляд, радасць сустрэчы з Кларай, шкадаванне і спачуванне да лёсу Валі, дружба і цеплыня да Наташы.

... Соцыяльныя сувязі мацней біялагічных...

... І калі не пачуцце тугі, дык пачуцце болю перажывае Елена пры спатканні. Паводзіны Елены, якімі іх бачыць гледач, падкрэслівае яе эгоцэнтрызм. Яна жыве сваімі радасцямі і горам. Усе астатнія людзі і іх перажыванні праходзяць міма. Драматызм перажыванняў Наташы,

Валі і ў большай ступені Валі,—застаецца ў цяні, паміж тым, прыезд Елены толькі адцяняе і жыццё Наташы і Валі.

Наташа—піянерка перажывае ўсю вастрату калізій сваіх комуністычных дзіцячых адносін да бацькі, які спіўся і падманіў партыю. Бацька становіцца ёй чужым і варожым. Цэхавой, некалі блізкі Елене чалавек, які зараз апусціўся, спіўся, страціў сваё аблічча—яна-ж, трапіўшы ў гэтую абстаноўку, успамінае перш за ўсё аб тым, што ёю прачытана за гэты час і якія канцэрты праслуханы.

Правільна перадае Афінагенаў эмацыянальны настрой Елены Макаравай, як настрой радасці, бадзёрасці, мараў аб будучай рабоце і іншае. Але ніколі комуністка Макарава не праявіць сябе гэтак эгоцэнтрычна, як праявіла сябе Елена Афінагенава, траціўшы ў асяродзе тых, сярод каго жыла, жыццё якіх блізка ёй, і як асобу грамадскую хвалюе і непасрэдна закранае.

Творчыя памылкі—няўхільны ў паказе новага жаночага характару. Тып Клары-большэвічкі, якая ўвасабляе мужнасць рэволюцыянеркі, удаўся у п'есе „Страх“. Цікавы і новы паказ дзяўчынкі-піянеркі Наташы, комуністычныя адносіны якой да людзей, да падзей вызначаюцца ўжо ў дзіцячыя гады.

У нашай краіне ўжо многа тысяч піянерак сфармаваліся ў дзяўчат комсамолак і нават матак новай комуністычнай змены.

Няхай нашы пісьменнікі не пакідаюць, не забываюць сваіх герояў і гераінь, а ўспамінаюць аб іхнім жыцці і барацьбе ў любых умовах, працягваючы іх жыццёвую лінію, уважліва праглядаючы шлях іхняга развіцця.

Як расла Наташа пасля „Страха“?

Якой дзяўчынай, якой маткаю—удзельніцай соцыялістычнай барацьбы і будаўніцтва мы спаткалі яе зноў. Няхай раскажа нам аб гэтым Афінагенаў. Яе далейшы лёс нас хвалюе.

Жаночыя вобразы совецкай драматургіі і літаратуры не вычэрпваюцца ні ў малой меры тымі асобнымі вобразамі, аб якіх гутарка ідзе ў гэтым артыкуле. Гэта новая тэма ў нашай крытычнай рабоце. Артыкул на гэтую тэму толькі пачатак.

Жаночыя вобразы класікаў рускай і сусветнай літаратуры павінны быць прадметам вывучэння гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, таксама як і тыя спробы стварэння вобраза новай жанчыны, якія мы маем у сучасным мастацтве.

Вобразы „рускіх жанчын“ Некрасава—выхоўвалі рысу мужнасці ў рэволюцыянерак. „Мать“ Горкага—выхоўвала цэлыя пакаленні рабочых, матак-работніц, выхоўвала іхнюю бясстрашнасць у барацьбе з капіталізмам, выхоўвала разуменне агульнасці інтарэсаў усіх працоўных жанчын з усім рабочым класам.

Колькі такіх матак загінула, змагаючыся разам са сваімі сынамі супроць капітала. Успомнім іх словамі Некрасава, як успамінае паэт гераічна загінуўшых дэкабрыстак:

„Умрете, но ваших страданий рассказ
Поймется живыми сердцами,
И за полночь правнуки ваши о вас
Беседы не кончат с друзьями...“

Нашы совецкія пісьменнікі павінны працягнуць гутарку з сябрамі аб гераічнай барацьбе жанчын за сваё разняволенне, за разняволенне ўсіх працоўных.

Не мала прысвеціў Некрасаў радкоў перажытым пакутам працоўнай жанчыны ў мінулым. Расказаць новым падрастаючым пакаленням нашай краіны і мільёнам, яшчэ і зараз прыгнечаных бяспраўных жанчын капі-

талістычных краін і калоній—аб страшным мінулым рускай жанчыны, што адышло ўжо ў краіне советаў у нябыт—задача нашых пісьменнікаў.

Расказаць аб заваёвах Савецкай краіны пераканаўча, ярка, праўдзіва, стварыць жанчыну совецкай сапраўднасці, як тыповы характар—найважнейшая мастацкая і палітычная задача совецкага, пролетарскага, рэволюцыйнага пісьменніка.

Метад соцыялістычнага рэалізма бясспрэчна дапаможа мастакам нашай краіны паказаць ярка і пераканаўча лад новых пачуццяў, новай грамадскай асобы жанчыны. Да гэтага заклікаў з'езд пісьменнікаў і А. М. Горкі, пачынальнік соцыялістычнага мастацтва.

Многа год таму назад Белінскі—геніяльны рускі крытык, марачы аб будучым росквіце рускай літаратуры, пісаў:

„Сусветна-гістарычнага значэння паэты могуць з'явіцца ў народаў, якія закліканы адыграць у лёсе чалавецтва сусветна-гістарычную ролю, гэта значыць сваім нацыянальным жыццём мець уплыў на ход і развіццё ўсяго чалавецтва".

„ ... Для Расіі прыдзе час нараджаць паэтаў сусветна-гістарычнага значэння",—пісаў геніяльны рускі крытык у артыкуле „Мысли и заметки о русской літературе".

Збыліся мары і прароцтвы Белінскага. Совецкая літаратура—літаратура сусветна-гістарычнага значэння. Яна выражае цудоўныя думы, надзеі, пачуцці і мыслі, дружбу людзей соцыялістычных рэспублік, дружбу жанчыны і мужчыны. У нашай краіне сапраўдныя адносіны чалавека да чалавека знаходзяць свае выражэнне, як чалавечыя адносіны мужчыны да жанчыны, да таварыша і друга.

СССР уплывае на лёс чалавецтва ўсяго свету,—ён жывы доказ сілы соцыялістычных ідэй у выхаванні новага высокаякаснага соцыялістычнага чалавека. Вобразы перадавых жанчын краіны Советаў—жывое яго выражэнне.

Мастакі, драматургі, паэты—слова за вамі!

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

Здана ў друкарню 8|II—35 г. Падпісана да друку 3|IV. Аб'ём $8^{1}/_{2}$ друк. арк. Папера 72×105 $^{1}/_{16}$. Знакаў у друк. ар. 64.000 Тыраж 3.685 экз. Уп. Галоўлітбела №5 1684. Заказ друк. 182.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.